

Сярод вашых кніг, вядома, ёсць і такія, што выраблены на Мінскім паліграфічным камбінаце імя Якуба Коласа.

У гэтыя дні Мінскі паліграфкамбінат адзначае сваё 30-годдзе. Разгарніце часопіс на развароце (стар. 2—3) з чарговым выпускам «Хады падзей» і вы даведаецеся з рэпартажу «Вытокі кніжнага мора» аб сённяшнім дні камбіната.

Суправаджаць вас будзе ў экскурсіі па камбінаце Анатоль Станіслававіч Коктыш, старшы майстар друкарскага цэха, якога вы бачыце на фотаздымку.

Фота Дзмітрыя ЛУПАЧА.



# У НУМАРЫ

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# Беларусь

ШТОМЕСЯЧНЫ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС

№8 (572)

ОРГАН САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ЖНІВЕНЬ

Заснаваны ў 1930 годзе.

1986г.

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск.



















На першай старонцы вокладкі: праспект імя П. М. Машэрава ў Мінску.

Фота Ігара ЗОЦІНА і Уладзіміра МЯЖЭВІЧА.

Галоўны рэдактар А. А. ШАБАЛІН.

Рэдкалегія:
Т. М. БОНДАР (намеснік галоўнага рэдактара), Вера ВЯРБА (Г. П. САКАЛОВА), А. І. ВЯРЦІНСКІ, В. М. ЖУК (адказны сакратар), М. І. КАЛАЧЫНСКІ, А. М. КАШКУРЭВІЧ, У. М. КОНАН, А. А. ЛОЙКА, Х. А. ЛЯЛЬКО, А. І. МАЛЬДЗІС, Ю. У. СЕМЯНЯКА, В. А. ЯНОЎСКІ, М. М. ЯРОМЕНКА.

Мастацкі рэдактар Н. І. БАГАМОЛАВА. Карэктар М. У. ВАСІЛЕЎСКАЯ. Афармленне Л. А. КАРНЕЕВАЙ.

Журнал «Беларусь» на белорусском языке.
Здадзена ў набор 13.06.86. Падпісана да друку 17.07.86. АТ 01150. Фармат $70 \times 108^1/_8$. Глыбокі друк. Ум. друк. арк. 7. Ул.-выд. арк. 10,9. Ум. фарбаадб. 12,6. Т. 13 433 экз. Зак. 1029.

Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, вуліца Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 33-20-01; намесніка галоўнага рэдактара, адказнага сакратара, аддзела літаратуры — 33-02-29; аддзелаў грамадска-палітычнага, культуры і мастацтва — 33-20-53; аддзела мастацкага афармлення — 33-20-54.

220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79. Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

ФАКТ І КАМЕНТАРЫЙ

## «ЧАРОЎНЫ» ПАРАШОК

**Вытворчасць эфектыўнага біялагічнага заменніка натуральнага малака для харчавання маладняку сельскагаспадарчай жывёлы асвоена на Валожынскім масласыраробчым заводзе.**

Гэту падзею каменціруе галоўны інжынер завода **Мацвей Муратавіч Ясінскі.**

— Вучоныя з Беларускага філіяла Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута малочнай прамысловасці даволі хутка навучылі нас карыстацца сваім вынаходствам. Яго сутнасць: мікрабіялагічны сінтэз бялку і вітамінаў у малочнай сыроватцы з дапамогай спецыяльна падабранага штаму дражджэй.

«БіяЗНМ» — так называецца новая прадукцыя завода (заменнік) — мы выпрабляем у выглядзе сухога парашку. Вазьміце адзін кілаграм гэтага парашку, разбаўце яго ў 10 літрах вады пры тэмпературы каля плюс трыццаці па Цэльсію і атрымаеце ... вядро сырадою. І ён — што асабліва важна — сапраўды эквівалентны вядру смачнага і карыснага прадукту харчавання. **Дарэчы, у цане не эквівалентны: амаль у 3 разы танней будзе.** Але цяляты аб цэнах не пытаюцца і не па іх мяркуюць аб вартасцях «пачастунку». Можаце запісаць: апетыт не губляюць, растуць хутка і здаровымі. Завод жа атрымаў магчымасць сур'ёзна нарошчваць выпуск сыроў, тварагу, масла.

г. п. Валожын.



МОЙ АДРАС — САВЕЦКІ САЮЗ

## АТРАД ЗАДАННЕ ВЫКАНАЎ!

Аб ад'ездзе беларускага камсамольска-маладзёжнага атрада на будаўніцтва самай магутнай домны ў свеце газеты расказалі вельмі коратка: **пасланцоў рэспублікі, якіх у атрадзе сорак тры,** чакае наперадзе вялікая работа, вытворчае заданне — напружанае.

А нядаўна інфармацыйныя агенцтвы паведамілі, што домна № 5 Чарапавецкага металургічнага камбіната — яе назвалі «Паўночніца» — пачала даваць чыгун. І ў якой колькасці!

Амаль столькі ж, колькі ўсе астатнія 4 печы камбіната. Гэта значыць, **3,5 мільёна тон металу ў год.** І гэта толькі пачатак. Таму што пакуль у страі толькі першая чарга новай «агонь-машыны». Будаўніцтва працягваецца.

На самай высокай, 105-метровай адзнацы ўзведзенай домны працаваў і мантажнік Аляксандр Палкарпаў з Навалукомля. Ён расказаў, **што яму і яго таварышам па брыгадзе давялося змантыраваць 170 тысяч тон металаканструкцый. Што «Паўночніца» — гэта 200 аб'ектаў будаўніцтва.** Што камсамольска-маладзёжны атрад з Беларусі са сваім заданнем паспяхова справіўся, але байцы вырашылі застацца ў Чарапаўцы да поўнага завяршэння будаўніча-мантажных работ.

Шмат чым адметная гэта гіганцкая печ. І не ў апошнюю чаргу — сваёй безадходнай тэхналогіяй. Ні адзін літр бруднай вады не трапіць у вадаёмы з домны № 5.

Чарапавец — Мінск.

**На здымку: будаўніцтва падыходзіць да канца.**

**Фота Віктара ДРАЧОВА.**

9 ЖНІЎНЯ — ДЗЕНЬ ФІЗКУЛЬТУРНІКА

## ВАДА ПЛЮС СОНЦА І ПАВЕТРА!

Спаборніцтвы па сінхроннаму плаванню — гэта баль у басейне.

Сучасны від спорту. І малады. **У мінскім басейне «Блакітны» больш як 200 дзяўчат рэгулярна збіраюцца на трэніроўкі.** Але не трэба думаць, што фізкультурніцы трэніруюцца толькі ў вадзе. Усе яны і на лёгкаатлетычнай дарожцы, і ў гімнастычнай зале адчуваюць сябе ўпэўнена.

**Асаблівую ўвагу трэнераў звярнула нядаўна на сябе школьніца Наталля Урыцкая. Яна запрошана ў маладзёжную зборную СССР.** Віншуем і чакаем ад яе ўдалых выступленняў на міжнародных турнірах.

г. Мінск.



ДУМКА ЎДЗЕЛЬНІКА ЖНІВА

## СВІТАНКІ «РАССВЕТА»

Жніво... Вялікая цяжкая праца. Але яна — і радасная для тых, хто ведае цану хлеба, хто не ўяўляе сябе без гэтых клопатаў.

Цікава, што ў калгасе «Рассвет» Кіраўскага раёна вы не пачуеце такога папулярнага ў іншых гаспадарках выслоўя, як «бітва за ўраджай».

— Калі арганізацыя працы адладжана да дробязей, калі строга захоўваюцца ўсе графікі і падрыхтоўка да гарачай пары вялася як належыць — тады няма ніякай бітвы. А ёсць пэўны — адказны этап звычайнай і спрадвечнай сялянскай працы,— сказаў нам адзін з лепшых механізатараў калгаса «Рассвет» Валерый Сафончык.— Дарэчы, **сёлета, я і мае таварышы па рабоце павінны сабраць больш як 8 тысяч тон зерня.**

**На здымку: адзін з лепшых механізатараў Кіраўскага раёна Валерый Сафончык.**

**Фота Віктара ДРАЧОВА.**

Кіраўскі р-н.

ЮБІЛЕІ

## ВЫТОКІ КНІЖНАГА МОРА

У звычайных мораў вытокаў няма. А вось у мора кніжнага — ёсць. Гэта «фабрыкі кнігі», паліграфкамбінаты.

Мінскаму камбінату — 30 гадоў. Ведаю: многія мінчане добра помняць, як прыгажэла плошча Якуба Коласа, як будаваўся камбінат імя выдатнага песняра, народнага паэта. У рэспубліканскім архіве кінафотадакументаў захоўваецца здымак: аднапавярховыя драўляныя дамы вакол добра знаёмага будынка Беларускага дзяржаўнага інстытута фізічнай культуры. Будынак узвышаецца каменным востравам... Нібыта і нядаўна ўсё гэта было. І ўжо — тры дзесяцігоддзі мінула.

З чаго пачалася біяграфія паліграфкамбіната?

— Вучэбны дапаможнік для настаўнікаў матэматыкі — першая кніга, якую мы надрукавалі,— успамінае ветэран працы, начальнік друкарскага цэха Аляксандр Міхайлавіч Капусцін.— Радаваліся! 25 тысяч экземпляраў! Салідны тыраж.

Слова «тыраж» для друкара — асаблівае. Самае папулярнае тут. Як слова «плаўка» ў сталявараў, «ураджайнасць» — у хлебаробаў.

З часоў Францыска Скарыны ўдасканальвалася і ўдасканальваецца друкарская тэхніка.

— Скарына рабіў гравюры на дрэве. Затым быў вынайдзены такі сплаў — гарт. Доўга служыў людзям. Сёння мы карыстаемся фотанаборам і фотапалімернымі друкарскімі формамі. Эфектыўнасць працы высокая: адзін друкар за год 320 тысяч экземпляраў кніг выпускае,— растлумачыў нам старшы майстар А. С. Коктыш, пакуль мы ішлі па ўчастках вядучага цэха.

Машыны, машыны і яшчэ машыны. Іх шмат, яны розныя. У кожнай — сваё прызначэнне.

— Абсталяванне айчыннае. Самае сучаснае. Складанае,— працягвае свой расказ Коктыш.— Ужо зусім не тое, што было ў 1956-м.

Дарэчы, ён працуе тут з семдзесят пятага года. Пасля вучылішча паліграфістаў працягваў вучыцца. Скончыў тэхнікум. Цяпер на другім курсе Маскоўскага паліграфічнага інстытута.

— Колькі ж усяго кніг у гэтым годзе будзе тут надрукавана? — пытаем старшага майстра.

— Восемдзесят мільёнаў экземпляраў.

— Значыць,— падлічылі мы,— восем кніг на аднаго грамадзяніна рэспублікі. Нямала.

І ўсё-такі набыць творы некаторых лепшых паэтаў і пісьменнікаў (сучасных і тых, якія тварылі ў мінулыя стагоддзі, або замежных) пакуль што — цэлая праблема.

На паліграфкамбінаце мы даведаліся, што ў бліжэйшыя месяцы адсюль на прылаўкі кніжных магазінаў паступяць самыя разнастайныя кнігі: падручнікі і вучэбныя дапаможнікі, папулярныя аповесці і раманы, зборнікі вершаў, выдатна ілюстраваныя казкі і апавяданні для дзяцей.

І яшчэ такая прыемная навіна: у галоўным цэху прадпрыемства — друкарскім — будзе праведзена рэканструкцыя. А пасля яе абавязкова будзе назірацца магутны прыліў кніжнага мора. Прыліў, за якім не будзе адліву.

Так, гэта незвычайнае мора!

НАВУКА

# СЭРЦА МЯНЯЕ КЛАПАН

У першую чаргу я хачу пажадаць вам моцнага здароўя.

У другую — расказаць аб новай установцы, якая створана беларускімі вучонымі. **Доследны ўзор яе ўжо працуе ў Віцебскім аддзяленні Інстытута фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў АН БССР.**

Што гэта за ўстаноўка і для чаго яна патрэбна?

Штучны клапан сэрца толькі з выгляду — нескладаная рэч. А на самай справе вырабіць яго вельмі складана. Таму што неабходная паліроўка гэтай «запасной часткі» да сэрца не па сіле нават самым умелым ювелірам.

Вось перад віцебскімі фізікамі і была пастаўлена задача: стварыць установку для паліроўкі крывалінейнай паверхні штучнага клапана сэрца.

**Устаноўка ёсць!**

г. Віцебск.

На здымку А. Талочкі вы бачыце штучны клапан пасля яго апрацоўкі на ўстаноўцы.

ЭЛЕКТРОНІКА І ДЗЕЦІ

# «СВЕТЛЯЧОК» АСВЯТЛЯЕ ДАРОГУ?

Цікавае назіранне сацыёлагаў: пажылыя людзі садзяцца за камп'ютэр з пэўнай асцярогай і вучацца працаваць з ім прыкметна марудней, чым людзі сярэдняга пакалення.

Моладзь (у тым ліку і старшакласнікі) ахвотна і хутка асвойваюць разумную тэхніку. А... дзеці? Тыя наогул у захапленні ад магчымасці пасябраваць з ёй. І гэта — самыя здольныя, самыя рашучыя вучні: **яны ўжо сёння задаюць ЭВМ праграмы з такой радасцю, з якой мы ў дзіцячых садах заводзілі механічныя самазвалы.**



Ды вось паглядзіце самі на гэты **фотаздымак А. Талочкі.** Маленькая Іна Рымша з мінскага дзіцячага сада № 430 «Светлячок» трымае ў руках не проста прыгожую цацку, а цацку электронную. З ёй абыходзіцца — трэба ўмець! **Па сутнасці, у «Светлячку» (з дапамогай розных «электронных гульняў») усе малышы робяць першы крок да разумення азоў электронікі, інфарматыкі, нават кібернетыкі.**

Дзеці, якія ўмеюць задаваць праграмы, разбірацца ў схемах, «амперах» і «вольтах»? А ці добра гэта?

Добра! Таму што яны вучацца думаць, вучацца адказнасці. Вучацца гуляючы!

Такой думкі, дарэчы, і райана. Аддзел народнай асветы даў згоду далучаць дзяцей да электронікі яшчэ ў старэйшых групах дзіцячага сада «Светлячок».

Звернем цяпер увагу вось на што: у «Светлячку» — малышы работнікаў ВА «Інтэграл». А каму, як не «Інтэгралу»,— прадпрыемству, якое стаіць на передавых рубяжах айчыннай электронікі,— клапаціцца аб заўтрашняй змене, пашыраннi багажу яе ведаў і ўяўленняў аб навакольным свеце, распрацаваць серыю цацак на базе мікрапрацэсараў?

Трэба, каб «Светлячок» стаў не проста адным з першых, а адным з тысяч. Каб не нясмела, як сёння, асвятляў ён дарогу дзяцей да электронікі, а служыў добрым арыенцірам на гэтай дарозе, маяком.

ЗДАРЭННЕ НА ГРАНІЦЫ

# ЭЛТА І ЛАСТАЎКА

Пагранічная застава. Сігнал трывогі. Кароткія каманды, трывожная засяроджанасць абаронцаў заходніх рубяжоў Айчыны.

**Таварышы спяшаюцца на дапамогу радавому Васілю Панце. Ён жа разам са службовым сабакам Элтай спяшаецца затрымаць парушальніка граніцы.**

...Вынослівая і дужая Элта першая ўбачыла парушальніка.

Гэта было... аленяня. На ім — некалькі ран ад воўчых іклаў. Ратавалася!

Сабаку вучылі смеласці, кемлівасці, рашучасці. Але не жорсткасці.

Ён пачаў залізваць раны перапалоханага, аслабелага звера.

Убачыў усё гэта радавы В. Панця і не стаў перашкаджаць сваіму чатырохногаму сябру.

Аленяня не хацела расставацца з высакароднай Элтай. Яна — з ім. Пасябравалі за якія-небудзь паўгадзіны.

Давялося ўзяць «парушальніка» на заставу.

Аленяня пагранічнікі назвалі Ластаўкай.

Аб гэтым паведаміла газета «Гродненская праўда».

г. Гродна.

ПРЭМ'ЕРА

# ГАРОЛЬД І МОД ГАВОРАЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ

На малой сцэне Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы — чарговая прэм'ера. **Спектакль «Гарольд і Мод» па п'есе К. Хігінса і Ж.-К. Кар'ера пастаўлены рэжысёрам М. Пінігіным.**

Аб чым спектакль? П'еса расказвае аб складанасцях узаемаадносін людзей рознага ўзросту, аб неабходнасці беражлівых адносін адзін да аднаго. Адзначым, што пастаноўка афармлена мастаком А. Сяргеевым, музыку напісаў кампазітар У. Кур'ян.



На здымку: сцэна са спектакля. У ролі Мод — народная артыстка БССР С. Станюта.

Фота Уладзіміра ШУБЫ.

ФОТАФАКТ



# ТАМТАМЫ НА НАРАЧЫ

«Ад сесіі да сесіі жывуць студэнты весела».

А ў канікулы — яшчэ весялей.

Юнацтву ўласцівы запал, гумар, імкненне даведацца і ўбачыць як мага больш, знайсці новых сяброў.

Ва ўсім гэтым лішні раз пераконваешся, калі бываеш на студэнцкіх вечарах адпачынку, на выступленнях іх агітбрыгад.

У дзень, калі быў зроблены публікуемы фотаздымак, на беразе возера Нарач гучалі... тамтамы.

Студэнты з Афрыкі, якія цяпер вучацца ў БДУ імя У. І. Леніна, паказалі свае нацыянальныя танцы.

На адсутнасць апладысментаў маладым танцорам (дакладней — будучым спецыялістам) скардзіцца не даводзілася.

— У час летніх канікулаў замежныя студэнты разам са сваімі савецкімі сябрамі па вучобе ахвотна адпачываюць у спартыўна-аздараўленчым інтэрнацыянальным лагеры «Нарач»,— сказалі нам у прафсаюзным камітэце Белдзяржуніверсітэта.— Каля ста юнакоў і дзяўчат з Афрыкі, Лацінскай Амерыкі і Азіі пабываюць там гэтым летам па нашых пуцёўках. А яшчэ замежных студэнтаў, якія вучацца ў БДУ, кожнае лета чакаюць лагеры працы і адпачынку, дом адпачынку «Нарач», работа ў інтэрнацыянальных будатрадах... Словам, праводзяць яны канікулы цікава.

— А колькі беларускіх студэнтаў з БДУ пабывае за сезон у лагеры «Нарач»?

— Звыш тысячы.

Фота Міколы АМЕЛЬЧАНКІ.

г. п. Нарач.

Выпуск падрыхтаваў Валерый ЛАПІН.

# А ПАМЯЦЬ ВЯРТАЕ НАЗАД...

Мікола ДУБОЎСКІ



Белаазерская рыбаводчая гаспадарка. Адлоў рыбы вядзе рабочая Г. Бруйло.



Бярозаўская ДРЭС вядомая ў нашай рэспубліцы. Турбінная зала ДРЭС.



Каля ста юных музыкантаў навучаюцца ў музычнай школе саўгаса імя 60-годдзя Кампартыі Беларусі.



Нібы сучасны горад — пасёлак саўгаса «Малеч».



Белаазерскі энергамеханічны завод ганарыцца сваімі перадавікамі. Сярод іх токар механазборачнага цэха камуніст Мікалай Іванавіч Чайчыц.

Паехаць на Бярозаўшчыну, у родныя Самойлавічы, мы з братам Пятром меркавалі ў сакавіку. Аднак паездка паскорылася. Нечакана пазваніў старэйшы брат Іван: запрасіў прыехаць хутчэй, дапамагчы па гаспадарцы.

Вечарам за сталом гаварылі мы з бацькамі, гаварылі доўга пра былое і сённяшняе. Бацькі пакладаліся спаць, а мы, трое братоў, сядзелі і сядзелі. І колькі б ні ўспаміналі аб перажытым, усё ж вярталіся і да сённяшняга. Прыемна здзіўляліся заможнаму жыццю аднавяскоўцаў, хоць пра гэта ведалі даўно. Але ж, мабыць, і не будзем пераставаць здзіўляцца, бо ў нашай памяці яшчэ свежа і акрэслена пралягае тая мяжа, дзе па адзін бок — увесь сядомы шлях жыцця, гаротнага, трывожнага, галоднага, а па другі, як сведчанне недарэмных ахвяр, пакут, гора і слёз — заможнасць, упэўненасць у заўтрашнім дні.

«Я так вам скажу, браткі,— развітваючыся зазначыў Іван.— Цяпер хто не лодар, не абібок — жыве багата. Заўтра прайдзіцеся па Самойлавічах, паглядзіце на дамы, на сады, на прыбудовы, зайдзіце ў любую хату і ў кожнай — тэлевізар, халадзільнік, мэбля... Зараз не так, як калісьці — земляная падлога, закураная покуць і прусакі.

Заснуць я доўга не мог. Думкі адна за адной успыхвалі і тухлі. Праз акно глядзеў месяц і ўнепрыкметку калыхаўся зялёным квадратам на падлозе. «Родная хата! Колькі бачыла, што перажыла...» І зноў успомнілася вайна. Хата стаяла тады на хутары, у нізінцы ля альховага гаю. Улетку за жытамі з дарогі, што воддаль вілася на Хамічы, хаты не было відаць. Мабыць, такую зручнасць і выкарыстоўвалі партызаны, бо прыходзілі да нас амаль штоноч. Мы спалі за печчу, але чулі, як яны ціхенька-ціхенька стукалі ў шыбу і бацька ішоў адчыняць.

Партызаны былі знаёмыя: мужчыны і хлопцы, якія пайшлі ў лес з Хамічоў, Левашкоў, Самойлавічаў. Часцей прыходзіў наш сваяк Ціхан Літвінчук. Бацька браў газнічку і вёў яго ў камору, дзе яны доўга аб нечым шапталіся. Пра што — пачуць было нельга: дзверы каморы шчыльна прылягалі да вушакоў.

Раніцою, пасля прыходу Ціхана, бацька кудысьці знікаў надоўга. Мы дапытваліся ў маці, куды ён ходзіць. Але яна заўжды астуджвала нашу цікавасць: «Не ваша гэта справа».

Толькі адзін раз удалося падгледзець, як бацька ў каморы з-пад падлогі дастаў стосік нейкіх паперак. Толькі пасля вайны ён сказаў нам, што тыя паперкі былі партызанскімі лістоўкамі.

Яшчэ пазней, у шасцідзесятыя гады, калі перавязджалі з хутара ў Самойлавічы, бацька знайшоў пад падрубай хаты пажоўклы экземпляр падпольнай «Звязды». Ён, прысеўшы на зняты з падмуроўкі апошні вянок, доўга глядзеў на газету. Восеньскі вецер кучаравіў яго сівыя валасы, а стары ўсё глядзеў і глядзеў на сведку трывожнага часу, што з далёкай Міншчыны ўпотайкі перадавалася з рук у рукі і прыйшла да яго, каб прачытаў, пераканаўся, што змаганне з акупантамі шырыцца, расце, і расказаў пра гэта даверліва суседзям, таварышам, сябрам.

Знойдзены экземпляр падпольнай «Звязды» доўга знаходзіўся ў бацькавых паперах, а аднойчы ён мяне папрасіў: «Аддай там, у Мінску, куды трэба». Я выканаў яго просьбу.

Агледзець Самойлавічы мы сабраліся на наступны дзень зранку. Было туманна. Вёска заснежылася пад дахі і быццам знікла ў нізінцы. Толькі адным канцом выразна вызначалася ля самых сенажацяў, дзе яшчэ нядаўна павольна плыла ціхая Ясельда. Цяпер яна цячэ па новым рэчышчы — уздоўж смалістых бароў, што крочаць вякі ад Белавежы да Налібокаў. Там, як вокам глянуць, — угоддзі новага рыбгаса.

Мы прыпыніліся ля родных веснічак, паслухалі цішыню і збіраліся рушыць на агляд Самойлавічаў.

— Салют, Дубкі! Што, цягне на бацькаўшчыну? — раптам пачуўся знаёмы з дзяцінства голас Леаніда Пятровіча Пауховіча. Мы павіталіся і сказалі пра свой намер.

— Вось і пачніце з мяне. Дом мой у Баравіцы, ад яго і пацягнуліся новыя Самойлавічы.

Прапанова здалася слушнай, і нам захацелася пабачыць, як жыве сябар, з якім прагуло, праляцела наша грымотнае дзяцінства.

Вялікая сям'я Пауховічаў жыла таксама на хутары, але хата іх стаяла бліжэй да вёскі, па-над канаваю, за якою высіўся гай.

Бацька Лёні Пётр Андрэевіч у час першай сусветнай вайны апынуўся, як і іншыя нашы землякі, у бежанцах у Расіі. Там перад вачамі хлопца з беднай сям'і прашумела свежым ветрам Кастрычніцкая рэвалюцыя і захапіла яго на ўсё жыццё. Ён без вагання ўступіў у рады яе абаронцаў і біўся з інтэрвентамі і белагвардзейцамі да апошняга дня грамадзянскай вайны. Затым было вяртанне на радзіму, бо вярталіся ўсе родныя, блізкія, землякі, вярталіся з верай, што панская ўлада — часовая, што прыйдзе дзень і Заходняя Беларусь далучыцца да сваёй сястры — Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Мара земляко́ў здзейснілася: тое, што Пётр Андрэевіч бараніў на розных франтах грамадзянскай вайны, прыйшло ў яго край, у сям'ю, якая ў 1939 годзе ўжо налічвала восем дзяцей. Пасвятлеў твар салдата рэвалюцыі, пасвятлела ад радасці і ўсмешак дзяцей у яго хаце. Старэйшыя Гэля, Сяргей, Тэкля пайшлі вучыцца. Падрасталі меншыя, сярод іх і наш аднагодак. Асабліва радаваў Сяргей, рана пачаў убіраць у сталасць, быў камсамольцам, актывістам, адным з тых, хто з першых дзён Вялікай Айчыннай вайны паўсталі на абарону роднай зямлі.

З першых дзён акупацыі старэйшы брат Лёнькі — Сяргей стаў падпольшчыкам і партызанскім сувязным. Уладкаваўся на работу ў Бярозе, насіў туды падпольшчыкам узрыўчатку, лістоўкі, а ад іх — звесткі для партызан. Звесткі былі важныя. Колькі разоў паліцыя і жандармерыя, выходзячы на партызан, траплялі на іх міны ці засады. Пра ўсё гэта мы тады не ведалі, але пасля аднаго выпадку пачалі здагадвацца. Здарылася гэта ў пачатку лета трэцяга года вайны. Аднойчы ўвечары, калі трывожна прыціхла навакольле, бо наступіла каменданцкая гадзіна, мы сядзелі ля печы і нецярпліва чакалі, раз-пораз правяраючы, ці гатова бульба. Раптам гучна затрашчалі стрэлы: адзін, другі, трэці. Ля акон з шыпеннем пранесліся запальныя кулі. Мы кінуліся на падлогу, туліліся да сцен. А трасёры, як маланкі, усё высвечвалі і высвечвалі цёмныя куты. Затым страляніна сціхла, і нехта шпарка прабег па нашым двары. Бацька выглянуў у акно і ад здзіўлення аж усклікнуў: «Сяргей». Зноў пасыпаліся стрэлы і новы тупат. На гэты раз — паліцаі, якія гналіся за ім. Тады Сяргею ўдалося ўратавацца ў гаі.

Пасля вызвалення ад акупацыі Сяргей Пятровіч вучыўся, затым працаваў у камсамольскіх і партыйных органах. Усё свядомае, на жаль, кароткае жыццё (заўчасна памёр) ён нёс перададзеную бацькам эстафету барацьбы за справу партыі Леніна.

Жыццё шыбавала наперад, несла свае пераўтварэнні.

З нашых аднагодкаў першым родную хату пакінуў Лёня, пасля восьмі класаў паступіў у Ленінградскае ФЗВ. За ім астатнія браты — Яўген, Юзік, Іван. Некальні пазней пакінулі Самойлавічы і мы.

...Да Леаніда Пятровіча мы ішлі напрасткі: абагнулі кар'ер і ўзялі кірунак на школу, у якой вучыліся. Але цяпер яна зусім другая, чым раней, у вайну.

Шумелі ціха таполі — нашы равеснікі. Мы пастаялі, палюбаваліся цаглянымі прыбудовамі, дзе асталяваліся вытворчая майстэрня, фізкультурная зала. За імі разросся пладовы сад, далей былі — цяпліца, доследны градкі агароду.

Успаміналі дзяцінства. Да болю знаёмыя мясціны.

Вось тут Лёнька хаваў патроны, якія краў у варожых салдат, якія стаялі на былым школьным двары. Небяспека была на кожным кроку, але ж дзеці заставаліся дзецьмі, асабліва такія, як Пятро і Лёнька. Яны лезлі ў самае пекла. Не паспеюць унтэры, якія абучаліся ў гаі, пайсці на абед, а яны тут як тут: грабуцца ў акопах, шукаючы згубленыя патроны і гранаты.

Дзіцячая дасціпнасць неадночы вяла іх да рыскі смерці.

Перад самым вызваленнем у 1944 годзе немцы-сапёры збудавалі траншэі і ў адну ноч раптам зніклі, як скрозь зямлю праваліліся. У Самойлавічах, Хамічах і Левашках людзі радаваліся: «Гітлераўцы драпнулі — вось-вось і прыйдуць свае». Пра іх прыход гаварылі партызаны, ды і за Ясельдай, за лесам ужо чуўся гул артылерыі, а светлым днём некальні разоў з'яўляліся нашы знішчальнікі і дзёрзка нападалі на варожыя зенітныя батарэі, якія стаялі вакол Бярозы і ля чыгункі. Паверыў, што немца ўжо няма, і Пятро: цішком пакінуў двор і падаўся праз жыта да баракаў, дзе жылі сапёры. Зайшоў у адзін, другі барак і стаў збіраць раскіданыя па падлозе лісткі рознакаляровай паперы. Раптам данёсся цягучы скрып колаў. Ён выглянуў праз адчыненыя дзверы і затросся ад страху: да баракаў збочвалі вазы, за якімі крочылі эсэсаўцы. Хлопец кінуўся наўцёкі ў жыта. Аднак афіцэр з першага воза заўважыў яго, выхапіў у салдата карабін і стаў страляць па ім. Пятро бег разораю, мабыць, гэта яго і ўратавала: жыта было вышэй галавы, надзейна хавала васьмігадовага хлопчыка.

— Калі ласка! — адчыніў веснічкі гаспадар. Мы ступілі на двор і адразу прыкмецілі ўмелую планіроўку забудоў. Цагляны дом, павернуты тварам да саду, які разбегся роўнымі радамі па ўсім участку. Па ўскрайку ўчастка купіліся ягадныя кусты. Мы ўвайшлі ў дом — праз цёплую, светлую веранду, прасторную кухню ва ўтульную, з высокай столлю і вялікімі вокнамі залу.

— Там яшчэ тры пакоі,— паказаў Лёня на белыя дзверы. У пакоі не было нічога лішняга, мэбля не загрувашчвала плошчаў: стол, крэслы, тэлевізар, канапа, на падлозе дыван. На кніжнай паліцы — зборы твораў Шамякіна, Быкава, Адамовіча, Мележа і іншых беларускіх і рускіх класікаў. Было відаць, што гаспадары не для інтэр'ера сабралі кніжкі, а любяць чытаць.

Жонка гаспадара, Надзея, падаўшы на стол прысмакі, прысела ля нас, і пацякла нарэшце тая гаворка, калі час як мера знікае.

Лёня вучыўся ў Ленінградзе і атрымаў прафесію электразваршчыка. Вясковы хлопец, працавіты, просты, сяброўскі, хутка заваяваў павагу таварышаў. Праца захапляла, і грошы з'явіліся. Маці адсылаў. Амаль два гады Пауховіч дзень у дзень ранкамі ішоў на работу бадзёры і шчаслівы.

17 чэрвеня 1954 года партыя звярнулася да народа з заклікамі паехаць асвойваць цалінныя землі. У пастанове ЦК КПСС гаварылася, што асаблівы ўклад у гэтую высакародную справу павінна зрабіць моладзь.

І Леанід Пауховіч адным з першых камсамольцаў Смольнінскага раёна Ленінграда падаў заяву ў райком камсамола і атрымаў пуцёўку. Паказаў невялікую чырвоную кніжачку. Мы доўга разглядвалі яе, а Леанід Пятровіч вёў нас пуцявінамі свайго жыцця, дзе не шукаў заробку, славы, а працаваў сумленна і самааддана. Цяпер пуцёўка ў хаце Пауховічаў — свяшчэнная рэліквія. Яна, несумненна, дапамагала ім у выхаванні дзвюх дачок, якія ўжо набылі прафесію і далучыліся да стваральнай працы. Будзе яна, як будзёнаўка салдата рэвалюцыі, рэліквіяй і для ўнукаў.

У Леаніда Пятровіча мы заседзеліся доўга, а перад змяркannем усё ж прайшлі па новых Самойлавічах. Яны — у некалькі вуліц з абодвух бакоў чыгункі, выстраіліся сваімі камяніцамі, быццам спецыяльна для агляду. Прасторныя, светлыя дамы, дагледжаныя двары з маладымі садамі дабягалі аж да Бярозы. І старых Самойлавічаў не пазнаць — замест падслепаватых хатак і тут стаяць дамы са смалістай сасны, убраныя пад шыфер. Мы стаялі на вуліцы, радаваліся за земляко́ў. Сцямнела, запаліўся непадалёку вулічны ліхтар. Ля яго мітусіліся кволыя, лёгкія, быццам пух, сняжынкі. З крайняй хаты даносіліся аўтаматныя чэргі, грымелі выбухі — па тэлевізары ішоў якісьці ваенны фільм. Вельмі вядомыя нам гукі вайны вярталі памяць да цяжкіх часоў. Кожны з нас думаў пра адно — пра далёкае дзяцінства. Было яно і не было: тады ў вочы штодня глядзела нам смерць.

Фота БЕЛТА.

Мар'ян ДУКСА



Кім сказана, што шар зямны
асуджаны сысці з арбіты,
апошнім выбухам вайны
расколаты, ушчэнт разбіты?

І пахаваць у небыцці
свае і хаты, і палацы,
з магутным гулам адысці
у стан былых цывілізацый...

Кім сказана: наш чалавечы род
у век і жорсткі, і трывожны —
нібы прабіты параход,
што мкне на дно бездапаможна!

Распачынаю дзень з надзей:
не хлыне шторм тысячабальны.
Круг не вар'ятаў — круг людзей
і ёсць той круг ыратавальны.

## *Асеннія ставы*

Цяпла ў паветры выстылым няшмат.
Прыжухлі травы, ціхенька абвялі.
Паважна едзе па вільготным вале
апошні раз тутэйшы рыбнагляд —
уважлівы, бы едзе на парад.

Над воднай гладдзю сонца не пячэ —
у чаек выгляд не заміласаны.
Па самым дне сухога катлавана
раўчук маленькі борздзенька цячэ —
маўляў, жыццё не скончана яшчэ.

Зацятыя, чарнеюць чараты.
Запалі. І ад росквіту былога
амаль не засталося анічога.
Шапоча глуха ўвесь трыснёг густы,
хаця яго не слухаюць кусты.

Свой лёс па-свойму славяць журавы.
Здаюць свае пазіцыі бярозы.
На заняпад хачу глядзець цвяроза,
на заняпад і песень, і травы,
хоць думы — як асеннія ставы.



Відаць, адчуўшы нецярпенне дрэў
і зразумеўшы прагу цёплай глебы,
гром у паветры дзёрзка прагрымеў
і скалануў на міг зямлю і неба.

Не проста для пацехі, не на жарт
ён пракаціўся ўздоўж — дзеля карысці,
доўгачаканы абвясціўшы старт
траве, суквеццю, маладому лісцю.

І ў той жа момант распачаўся спех
сярод галля, на беласнежнай гронцы.
Стаў несупынным жыватворны бег
ад леташняга кораня да сонца.

Ужо буяць хацела сенажаць,
ужо квітнела яблыня ў зацішку...
Працягвалі вясне салютаваць
духмяным стрэлам гонкія пупышкі.

## *Над Страчай*

Памяці Артура ЦЯЖКАГА.

Рэчка Страча,
рэчка Страча.
Лёд пайшоў
пад тонкі хруст.
Ды схіліўся,
быццам плача,
над табою
вербны куст.
О як хутка
ўспыхнуць кветкі,
пойдуць травы
па зямлі.
Як хацелі,
тут улетку
мы з табой
не пабылі.
Над абрывам
у бязлюддзе
не пачулі
ўласных слоў.
І нічога
больш не будзе —
ні сустрэчы,
ні размоў.
Тут світаннем
і змяркannем
вечна б у д у ц ь
землякі,
што з тваіх
апавяданняў
выйдуць,
пойдуць да ракі.
Рэчка Страча,
рэчка Страча —
смутак
матчыных начэй.
Хоць каму
ад гэтай страты
ці зрабілася лягчэй?
Не змаглі мы
лёс адужаць,
выпіць
поўны збан святла
і аб вечнасці
падумаць,
бо яна
сама прыйшла.
Да ракі,
да вішні роднай —
імі трызніў
праз гады —
пераехаў моўчкі
з Гродна —
з вёскай зліцца
назаўжды.



Любімага возера
родны парог.
Я сяду, стамлёны,
з дарогі ахрыплы.
Ты, цёплая хваля,
спыніся ля ног,
да рук дакраніся
і ціхенька ўсхліпні.
Аддана
да пальцаў прыпаўшы на міг,
ты чуйна ўздыхаеш
у знак паслушэнства.
Праз гэты кароткі
і вусцішны ўздых
шчаслівая музыка льецца
з маленства.
О хваля,
табе я душу аддаю —
як некалі,
верыш ты ў наша адзінства.
І сёння
праз горкую пену тваю
мае караблі выплываюць
з дзяцінства.

## *Першы старшыня*

Драбнее тварам
і чым далей — меншы.
Зіма надыдзе —
кашляе штогод.
Не вылучаецца,
нічым не лепшы
сярод вяскоўцаў,
што жывуць праз плот.
Усхопіцца ледзь золак.
Маршыруе
ён па дварышчы —
не хапае дня.



Сякерай б'е.
У садзе вечаруе,
ідзе ў кантору
папрасіць каня.
Звычайны дзядзька.
У маршчынах скулы.
Крыху садоўнік
і крыху шавец.
З адной прыкметай:
ад кулацкай кулі
на целе фіялетавы рубец.
Але былое —
успамін не горкі...
Іскрыцца памяць...
Шафу адчыні —
зліняную
убачыш гімнасцёрку
і баявую дзягу старшыні.
Сыходзіць з дому,
як запахне сена,
блукае лугам
некалькі гадзін...
Яго наступнікі —
дыпломная замена —
мяняюцца,
а ён на ўсіх адзін.
Жыве,
дарогу саступіўшы часу.
Не хваліцца і тым,
на ўвесь раён,
што першы слуп
тутэйшага калгаса
цярпліва ўкопваў
уручную — ён.



Прыкінь і падумай,
які ты шчаслівы —
да справы сваёй
падступаеш не нашча...
Ты ўпэўнены сейбіт
дагледжанай нівы,
дзе пні выкарчоўваў
настойлівы прашчур,
што век свой кароткі
гультайствам не бэсціў.
Штодзённа,
як з даўняга часу вялося,
не так для сябе —
для нашчадка ён песціў
сваёй дабрыні і надзеі
калоссе.
Уведаць жадаеш —
і гэтым заняты,—
чаму ўсе прароцтвы дзядоў
не збыліся,
аматар і зух
выбракоўваць зярняты,
зярняты,
што ў спадчыну нам дасталіся.
Як сталася,
што пад пагрозай світанні
і сонца?
Імгненне — і згінуць адразу...
Збянтэжаны,
гулкія ставіш пытанні,
а трэба
хутчэй аваёўваць адказы.





# У ІМЯ ЧАЛАВЕКА

Апаленая, чорная дарога, уздоўж якой вакол балюча-чырвоных камілоў дымяцца пераплаўленыя ў прысак людскія крыкі і стогны. Апалены, чорны ранак, з якога насустрач ім, насустрач цяжкому рыпенню падводы, усё выступаюць, усё набліжаюцца голыя чырвоныя каміны, здаецца, самой зямлёй балюча ўскінутыя ў неба. Апаленая, чорная далеч, якую ніяк не могуць асвяціць каміны — гэтыя застылыя, акамянелыя языкі полымя, што толькі што адгуло, толькі што згасла. Чорна-чырвоныя водсветы на матчыным твары, залітым бязгучнымі, горкімі слязамі вяртання... Мажліва, згадваецца яшчэ менш: апаленая дарога, чырвоныя каміны, матчыны слёзы. Ды яшчэ паветра — незнаёмы, задушлівы пах яго, памяць пра які застанецца надоўга, на ўсё жыццё...

Не вазьмуся сцвярджаць, што гэта згадка вайны, згадка яго, пяцігадовага тады, у сорак чацвёртым, вызначыла шлях — лёс Васіля Шаранговіча. І ўсё ж, думаю, шмат што ў лёсе яго вызначыла. Вызначала. Бо ўсякі раз — і тады, калі трэба было выбраць жанр мастацтва (мастацкае вучылішча заканчваў па класу жывапісу — у Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут паступіў на аддзяленне графікі), і тады, калі трэба было з усіх графічных сродкаў выбраць найбольш прыдатныя ў рабоце над той або іншай тэмай ці серыяй ілюстрацый, і тады, калі трэба было вызначыць адносіны да шляху, да кірунку развіцця нацыянальнага мастацтва, станковай і кніжнай графікі рэспублікі (у трыццаць тры гады ён узначаліў кафедру графікі ў БДТМІ),— свядома, ці падсвядома, згадвалася яму тая дарога з партызанскай зоны дамоў, у вёску Качаны, што на Мядзельшчыне, трынаццаць кіламетраў на поўнач ад Мядзеля, згадваліся яму матчыны слёзы і тая нязбытая трывога, з якой гарнула яна іх, дзяцей, да сябе. Дарога тая прывяла ў мірнае жыццё, поўнае клопату і нялёгкае працы. Трывога тая перадалася яму, каб у ім, у душы ягонай, вырасці да трывогі за ўсю зямлю, за цэлы свет. І мінуць гады, дзесяцігоддзі, перш чым зможа, здолее мастак перадаць, штодня перадаваць гэту трывогу іншым, маладзейшым — сваім выхаванцам, студэнтам графічнага аддзялення. Здолее ж тады, калі выкрышталізуецца, набудзе сілу ў ім самім вера ў сваё прызванне, у свой шлях у мастацтве — шлях служэння мастацтву, шлях служэння сваім мастацтвам народу.

Прызванне... Служэнне... Словы трошачкі сцёртыя ад частага (і не заўсёды да месца) карыстання, але толькі яны (лёс, у іх пазначаны!) вызначаюць сапраўднасць таленту, вышыню духоўных намаганняў творцы. Вышыню, якая адно і дазваляе адчуць — убачыць! — праз якія пакуты, праз якія выпрабаванні ішоў народ да свайго сённяшняга светлага дня, якой крывёй аплачана яго свабода, якімі стратамі аплакана яго шчасце.

Даследуючы творчасць Васіля Шаранговіча, разважаючы над ужо зробленым ім і толькі задуманым, распачатым, адчуваеш усю вагу яго, мастакоўскага, роздуму. З самых першых работ, з першых самастойных крокаў у мастацтве імкнуўся Васіль Шаранговіч увасобіць не адно свой жыццёвы вопыт, імкнуўся наблізіцца да вытокаў неадольнай народнай сілы, да вытокаў нязгаснага святла народнай духоўнасці. Адразу — аграмадная, непасільная, здавалася б, задача: так часта трагічна вяршыліся лёсы сыноў і дачок народа, крыжуючыся то з навалай чужаземнай, то з жорсткасцю панскай, так шмат цемратворных сіл зла, так шмат несправядлівасці і гвалту было на шляху да волі, гэтулькі гадоў, стагоддзяў заліта крывёй змагання, што нават уяўленню мастака цяжка, немагчыма ахапіць увесь боль, усё гора і пераліць іх у пераканаўчыя мастацкія вобразы. Немагчыма — і ўсё ж, магчыма, у той ці іншай ступені магчыма! Трэба толькі ўглядзецца, услухацца ў простыя, непасрэдна шчырыя радкі народных песень, то тужлівых, поўных горычы, то вясёлых, поўных радасці, трэба толькі заглыбіцца ў гісторыю і сэрцам крануцца кожнай вяхі на пакутным, крывавым шляху яе, трэба толькі адчуць невычэрпнасць красы, шматаблічнасць харастваа роднай зямлі і народа яе, які сілай пачуцця і натхнення пераствараў радасці і беды, светлыя і змрочныя свае перажыванні ў песні, казкі, легенды, паданні. На працягу многіх стагоддзяў. Каб сёння, зараз, збудзіць у ім, мастаку, і сілу пачуцця і натхненне. Недасягальна высокі ўзровень паэтычнага (мастацкага!) мыслення народа, недасягальна высокі яго геній — і ўсё ж трэба, мусова трэба (калі ў тым тваё прызначэнне на зямлі!) прагнуць дасягнуць яго, рабіць, зрабіць крок, і яшчэ крок,



**Лінагравюра «Смерць Гражыны» (па матывах паэмы А. Міцкевіча «Гражына»).**

і яшчэ. Нават калі кожны крок каштуе многіх намаганняў, і часам (на думку калег ці крытыкаў) марных намаганняў.

Вось сказала: «марных намаганняў» і ўсумнілася ў самім праве ставіць побач два гэтыя словы. Калі ёсць намаганні, калі ў іх укладзена ўся сіла душы, уся сіла душэўнай энергіі, яны не могуць быць марнымі, як не можа быць марнай зробленая работа, няхай сабе яна і не прынесла жаданага выніку. Не прынесла — на гэтым этапе, часова, да новага намагання. З сябе ўчарашняга кожны вырастае — са зробленага, здзейсненага ўчора...

Кавальскі спрыт бацькі, вядомага на ўсю акругу майстра, дзівосныя ўзоры, што ткала ці вышывала маці, сапернічаючы з іншымі вясковымі майстрыхамі, хараство родных мясцін, якое хацелася занатаваць, увекавечыць... Змалку вабілі Васіля Шаранговіча мастакоўскія прылады, і, хоць працаваў поруч з бацькам, упадабаўшы кавальскае рамяство, хоць умеў і любіў што з касой, што з плугам упраўляцца, а марыў пра вучобу ў Мінску, марыў пра той час, калі







«Партызанскі каваль»,
«Блакадны агонь»,
«Вяртанне» — літаграфіі (з серыі «Памяці вогненных вёсак»). 1985.

зможа на палатне, на паперы расказаць пра ўсё, што любіў тут, на сваёй зямлі. Любоў вадзіла яго рукой у класах мастацкага вучылішча — дыпломнай работай стала жывапіснае палатно «Пасля сходу», на якім жылі, думалі пра заўтрашні дзень калгаснай гаспадаркі яго аднавяскоўцы, людзі, якіх ён ведаў змалку, сярод якіх рос і сталеў. Любоў вадзіла яго рукой у інстытуцкіх аўдыторыях, дзе, захапіўшыся графікай, упершыню спазнаў ён таямніцу прывабнасці кніжнай ілюстрацыі, упершыню паспрабаваў графічна ўявіць вобраз беларускай кнігі — дыпломнай работай стаў графічны цыкл з адзінаццаці ілюстрацый, адзінаццаці лінагравюр, да «Паэм» Янкі Купалы, які пазней, на адной з усесаюзных мастацкіх выставак, Акадэмія мастацтваў СССР адзначыла сваім ганаровым дыпломам.

Любоў... Любоў да людзей... Якое гэта няпростае, якое часам пакутнае пачуццё! Пакутнае — бо павінна даць сілу ўзняцца над сваім, асабістым, і перадаць узрушанасць мільёнаў чалавечых сэрцаў, спрадвечна светлую гордасць іх за сваю Радзіму, непахісную веру ў прыход шчаслівай для ўсіх будучыні. А яшчэ ж — і боль пранесеных праз усю гісторыю пакут, і высокі патрыятычны ўздым у барацьбе з варожымі наваламі, і прагу помсты, і горыч страт. А яшчэ ж — і жыццядзейны, моцны творчы дух чалавека, яго думкі і пачуцці, яго будзённыя судакрананні з зямным хараством і заўсёды святочную веру ў новы, лепшы дзень.

Творы Адама Міцкевіча і Максіма Багдановіча, Янкі Купалы і Якуба Коласа, кнігі Джона Рыда, Уладзіміра Маякоўскага, Максіма Гарэцкага. Лінагравюра, манатыпія, акварэль, пастэль, літаграфія, каляровая аўталітаграфія, вугаль, туш... Васіль Шаранговіч з усёй палкасцю звяртаецца да самых розных, часам супрацьлегла розных тэм і літаратурных твораў, свабодна мяняе тэхніку і графічныя прыёмы і — вучыцца, увесь час настойліва вучыцца пераадольваць, спасцігаць складанасць інтэрпрэтацыі. Ён разумее: тое, што мастак больш за ўсё любіць і лепш за ўсё ведае, ён павінен рабіць з усёй глыбінёй спасціжэння той рэальнасці, якую нясе літаратурны твор, з усёй паўнатой ведаў пра гістарычныя, геаграфічныя, сацыяльныя, бытавыя абставіны і асяроддзе, у якім дзейнічаюць літаратурныя героі, з поўнай аддачай сябе той паэзіі і праўдзе, дзеля якіх напісаны твор і дзеля якіх адно і варта аддаваць сілу, уяўленне і час, каб стварыць серыю ілюстрацый. Ён разумее: сапраўдны мастак павінен умець пабудаваць якой заўгодна складанасці драматургічнае дзеянне, павінен умець адчуць усе характары, усе вобразы, усе псіхалагічныя станы і душэўныя зрухі герояў твора. І — мала таго! — увесь час памятаць, што, гартаючы кнігу, чытач паступова ўваходзіць у асаблівы ўнутраны свет, што кніга, як і архітэктурнае збудаванне, успрымаецца ў часе. Характар гэтага руху, характар спасціжэння гэтага свету, раскрытага ў ілюстрацыях, і павінна накіроўваць — будаваць — афармленне кнігі: часам прыспешваць увагу чытача, часам прыпыняць, вяртаючы назад, змушаючы заміраць у паўзах.

Што ж, трэба сказаць: якую з работ, створаных Васілём Шаранговічам на працягу апошніх гадоў, ні ўзяць (цыкл каляровых аўталітаграфій «Памяці спаленых вёсак» ці ілюстрацыі да «Маніфеста Камуністычнай партыі», станковыя лісты «Дзе крыўда адвечная спела» ці багата ілюстраваны том Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш»), кожная з іх адпавядае яго глыбока вынашанай творчай канцэпцыі, кожная з іх у поўнай меры адпавядае пастаўленай ім перад сабой задачы, усякі раз новай, усякі раз большай. Так, Васіль Шаранговіч не працуе над выпадковымі тэмамі, не бярэцца за інтэрпрэтацыю любога аўтара, любога твора — заўсёды выбірае. Выбірае нават з таго, што блізка яму па тэме, па вобразнаму светаўспрыманню. І гэта дыктуецца не толькі яго правам выбару, але і неабходнасцю. Прыродай яго таленту. Уласцівасцямі яго бачання. Свабодная інтэрпрэтацыя ідэі, задумы вядзе, усё часцей прыводзіць мастака да высокіх абагульненняў, да графічных асацыяцый, калі работы (у тым ліку і шэраг ілюстрацый) набываюць эпічнасць, маштабнасць, манументальнасць і іх цяжка — нельга — уявіць камернымі (як нельга ўявіць трагічна-экспрэсіўнымі). Такі падыход заўсёды вымагае значнай тэмы, заўсёды выводзіць да агульначалавечага, якіх бы канкрэтных асоб, аўтараў, твораў ці тэм мастак ні кранаўся.

Характэрны прыклад — работа Васіля Шаранговіча над ілюстрацыямі да паэмы Уладзіміра Маякоўскага «Уладзімір Ільіч Ленін» і (праз дванаццаць гадоў) да «Маніфеста Камуністычнай партыі». Калі ў першым выпадку, здавалася, сам магутны поступ верша, сам размах,

з якім паэт паказвае рэвалюцыю і яе правадыра, дыктаваў мастаку імкненне выкарыстаць увесь комплекс графічных сродкаў і стварыць новую мастацка-паліграфічную форму, адпаведную ўнутранаму зместу паэмы, то ў другім — зместам, духам ілюстрацый, зробленых без паўтонаў, амаль «скульптурна», стаў рэвалюцыйны пафас дакумента, у якім так неабвержна выказана тэорыя класавай барацьбы і сусветна-гістарычнай ролі пралетарыяту. Калі ў першым выпадку Васіль Шаранговіч шукаў і знайшоў чыста графічныя сродкі (упершыню звярнуўшыся да літаграфіі), якія арганічна звязалі ілюстрацыі не толькі са шрыфтам, але і з усім стылем паэмы, то ў другім — праз асобныя, найбольш адметныя сацыяльныя зрухі, найбольш важныя моманты барацьбы (першы ліст прысвечаны Вялікай сялянскай вайне ў Германіі, другі — Парыжскай камуне, трэці — абуджэнню рабочага класа, абуджэнню яго самасвядомасці, чацвёрты — пранікненню марксізма ў Расію, пяты — дням напярэдадні Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі) імкнуўся і, на маю думку, здолеў паказаць час, эпоху зараджэння марксізма-ленінізма, па-мастацку вобразна раскрыць пераканаўчую выразнасць новага філасофскага вучэння.

Розныя падыходы, розныя графічныя прыёмы. Але як у першым, так і ў другім выпадку галоўным для мастака было паказаць, высвеціць найбольш важкія вартасці чалавека, найбольш важны гуманістычны сэнс барацьбы дабра і зла, новага і старога праз своеасаблівую гістарычную перспектыву, а гэта — адна з самых вялікіх задач, якія можа паставіць перад сабой мастак.

Малюнкі-думкі, малюнкі-ідэі, шмат разоў прапушчаныя ва ўяўленні праз пачуццё і ім, пачуццём, высветленыя, выграненыя, кладуцца ў аснову кожнай работы Васіля Шаранговіча, кожнага яго графічнага ліста. У кожнай рабоце імкнецца ён не проста аднавіць час і людзей, якія ў ім жылі, змагаліся і гінулі, каб справай сваёй, гарэннем сваім застацца ў памяці нашчадкаў, ён прагне аднавіць маральную, ідэйную, сацыяльна-псіхалагічную атмасферу той або іншай эпохі, суаднесці з ёй час, з пазіцый якога, ад імя якога ён, мастак, гаворыць.

«Памяці вогненных вёсак» — назваў Васіль Шаранговіч цыкл з дзевяці станковых каляровых аўталітаграфій. Так мог бы называцца рэквіем. Ды гэта і ёсць рэквіем! — рэквіем людской мужнасці, людской стойкасці ў часе Вялікай Айчыннай, у якім праз увесь жах, праз увесь трагізм страшных, жахлівых у сваёй бязлітаснасці падзей мастак хоча перадаць — і перадае! — спрадвечную каштоўнасць чалавечага жыцця, веліч чалавека нават у бесчалавечных умовах вайны. «Партызанскі каваль», «На папялішчы», «Хатынскае полымя», «Памяць», «Апаленае дзяцінства», «Блакадны агонь», «Мішэнь», «Мацярынская трывога», «Вяртанне», — нідзе, ніводным вобразам, ніводным штрыхом не пазначае, не паказвае мастак прыход перамогі (дзень вяртання ў родную вёску далёка ад Дня Перамогі), і ўсё ж увесь цыкл (нават самыя балючыя з лістоў) — гэта гімн перамозе, перамозе чалавека над жорсткасцю, бесчалавечнасцю фашысцкай машыны знішчэння, перамозе чалавека над страхам, які немінуча ператварыў бы яго ў раба. Верай сваёй, усімі падуладнымі яму сродкамі мастацтва выкрывае ён бяссільнасць таго, што здавалася ўсемагутным, стойкасць таго, што здавалася крохкім. Недарма самыя трагічныя старонкі аповеда змешчаны ў цэнтры, замкнёны двума лістамі — дзвюма дакладнымі вехамі часу, якімі час канкрэтызаваны, вельмі дакладна пазначаны. «Партызанскі каваль» — гэта вобраз, вобразны партрэт бацькі, каваля, праз чые рукі прайшло нямала партызанскай зброі, зброі барацьбы, «Вяртанне» — гэта вобраз, вобразнае ўвасабленне маці, якая ўратавала ад агню іх, дзяцей, і ўступае ў першы дзень мірнага жыцця з рушучай гатоўнасцю пераўтвараць і пераўтварыць яго...



Ілюстрацыі да паэмы У. Маякоўскага «У. І. Ленін». 1970.



Літаграфія «А хто там ідзе...» (па матывах верша Я. Купалы).




Лёс сям'і і шырэй — лёс народа ўвасобіў Васіль Шаранговіч у гэтай рабоце, і мужных, упэўненых нот у яго расказе больш, чым трывожных, трагічных: народ выстаяў, народ перамог! Так было. І так будзе. Ён верыць. Ведае. Без веры ў тое, што дарогі вайны, дарогі пакут, адчаю і змагання зліваюцца — сальюцца! — у шырокі шлях, які прывядзе да перамогі міру і братэрства ўсіх людзей, жыццё страціла б сэнс, гісторыя страціла б перспектыву. Гэтай верай жывое мастацтва, гэту веру яно сцвярджае. Не ўбачыць у муках цярпення вялікага маральнага супрацьстаяння чалавека чорнай фашысцкай навале, не пачуць у яго балючых стогнах невымерную тугу па вызваленню, па чалавечнасці, не заўважыць у пякучых слязах нязгасную мару аб шчасці, не адчуць за праклёнамі, у праклёнах, гнеў і нянавісць, якія выбухнуць, не змогуць (на страх, на смерць усім крыўдзіцелям) не выбухнуць,— гэта не адчуць, не адчуваць сябе сынам свайго народа, гэта быць не толькі ніжэй узроўню свайго часу, але і ніжэй задачы, якую ставіць перад кожным творцам мастацтва.

Калі прасачыць творчы шлях заслужанага дзеяча мастацтваў Васіля Шаранговіча спачатку, з самых першых самастойных работ, то становіцца відочна: вобразны лад, атмасфера яго малюнкаў, акварэлей і гравюр мяняліся — мяняліся спакваля, без спешкі, часам ледзь заўважна, характар жа светапогляду, адносіны да мастацтва і яго задач заставаліся надзва ўстойлівымі. Грамадзянскімі. Па-грамадзянску мужнымі і адказнымі. Таму, мне думаецца, так выразна пазначаны ў часе гэты шлях. Таму такую адметную, такую яркую старонку ў мастацкі летапіс рэспублікі ўпісаў, упісвае Васіль Шаранговіч на працягу ўсіх асветленых творчасцю гадоў.

Не аб сваім праве, а аб сваім абавязку, аб неабходнасці прымаць на сябе ўсё большую адказнасць і ў творчасці і ў грамадскай дзейнасці (ён, акрамя шматлікіх грамадскіх даручэнняў, нясе груз адказнасці прафесара, прарэктара Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута) — заўсёды клопат Васіля Шаранговіча. І гэта не можа не садзейнічаць таму, што кожны новы твор яго — гэта новы крок у спасціжэнні чалавека, у спасціжэнні велічы і харaства чалавека, што кожны новы твор яго — адметная, заўсёды адметная з'ява ў выяўленым мастацтве рэспублікі.

Таіса БОНДАР.

РЫТМЫ ПАСКАРЭННЯ

# МУЗЫКА ВЯСКОВАГА ВЕТРУ

Фотанавела
Людмілы СУХАНАВАЙ
і Яўгена КОКТЫША (фота)

Калгас імя Ламаносава — адна з перадавых гаспадарак Ляхавіцкага раёна, якая з году ў год перавыконвае заданні дзяржавы па продажу малака, мяса, збожжа, іншых сельскагаспадарчых прадуктаў. Заможна і шчасліва жывуць тут калгаснікі. Для таго, каб зразумець, як удалося кіраўнікам калгаса дасягнуць высокага ўзроўню рэнтабельнасці, спасцігнуць сакрэт іх гаспадарання, давялося б, відаць, нямала пагутарыць з людзьмі, правесці шмат назіранняў, даследаванняў і аналізаў. Наш сённяшні расказ — толькі пра адну сям'ю з гэтага працоўнага калектыву, але, спадзяёмся, ён дапаможа знайсці ключ да разгадкі таямніцы.







На падворку Кавальчукоў.
На калгасным рынку Валянціна Мікалаеўна адчувае сябе паўнамоцным прадстаўніком працоўнага .кааператыва.

З дапамогай суседзяў бульбу выкапалі за адзін дзень...













Цэлы дзень чакаў Віталік гэтага шчаслівага моманту.

Морква з градкі — любімы ласунак Жанны.

Маленькая гаспадынька.

Старшыні таксама трэба ведаць, ці ўрадзіла бульба ў калгаснікаў.

Хатні кансервавы цэх працуе без прастояў.

...Гараджане, прыкмеціла Валя, не любяць вецер. Гэты сваавольнік заўсёды парушае ўсталяваны парадак — то раскідае сабранае ў кучу апалае лісце, то ўзніме стаўбунок пылу на асфальце, пагражаючы запарушыць вочы, то сапсуе прычоску, а разам з ёй і настрой жанчыне. Дый павявае гэты вецер настылым бетонам ды разагрэтым асфальтам, нават у парке і скверы даносіць пахі сталовай, чад аўтамашын і аўтобусаў.

Іншая справа ў вёсцы. Тут вецер, калі і не памочнік, дык спадарожнік у кожнай тваёй справе. Вясною ён першы пакліча ў поле, данёсшы пах адталай зямлі, разамлелай на сонцы ігліцы з суседняга бору. У спякоту астудзіць разгарачаны працай твар, напоіць водарам лугавых красак і ўзбадзёрыць рачной прахалодай. А калі і сыпане іншы раз у твар снежнай крупой ці халодным дожджыкам, дык што ж крыўдаваць — на тое яна і зіма, на тое і непагадзь. Затое як прыемна і ўтульна адчуваеш сябе,

слухаючы, як шамаціць вецер лісцем старой грушы, што расце ў іх на двары! Прысядзе іншы раз Валя за столік пад грушаю, перабірае ягады або вяжа часнок, і слухае, як блукае вецер у садзе, прыгінае да зямлі важкія галіны, атрасае на зямлю яблыкі, і яны глуха падаюць у траву...

Усё яе жыццё прайшло пад гэты неназойлівы акампанемент. Нават калі вучылася ў горадзе, чула, здаецца, гэтыя родныя гукі і пахі, і яны неадольна вабілі да сябе. Вярнулася з Віцебска ў родны дом не адна — з мужам Пятром, выпускніком Віцебскага ветэрынарнага інстытута. З таго часу і крочаць па жыцці поплеч, і працу, і радасць, як кажуць, дзеляць папалам.

А працы і радасці на іх долю выпала нямала. Пятро з першага дня працуе ветэрынарным урачом у калгасе, спраў і клопатаў мае вышэй галавы. І ўсё ж заўсёды знаходзіць для яе і дзяцей чулае слова, ласкавую ўсмешку. Неаднойчы думалася Валі, што менавіта ад гэтай яго ўсмешкі ды сказанага да месца жарту — згода і радасць у іхнай дружнай сям'і. Калі нарадзілася дачушка Леначка, Валя ўладкавалася часова ў мясцовае аддзяленне сувязі — каб быць бліжэй да дому. Потым меркавала перайсці ў калгас, працаваць разам з мужам. Але не атрымалася — за Леначкай з'явілася Жанна, а потым і Віталік. Дый да работы прывыкла, зразумела, што і тут яе праца людзям карысць прыносіць.

Хапала клопатаў і дома. Са зруба, які застаўся ад Валінай бабулі, пабудавалі дом на 6 пакояў для сваёй немаленькай ужо сям'і. Стары запушчаны сад даявялося выкарчаваць, пасадзіць новыя дрэвы. Нямала папрацавалі, пакуль давялі да ладу прысядзібны ўчастак. Зямля ж любіць штодзённы клопат, ласку, патрабуе, каб яе рэгулярна ўгнойвалі, рыхлілі, палівалі... Вось і даводзілася, як жартуюць Кавальчукі, штодзень пасля работы заступаць на «другую змену». Але ж зямля заўсёды аддзячыць за працу, за шчырую любоў да сябе шчодрым ураджаем. Здаецца, і невялікі лапік зямлі апрацоўваюць, а забяспечвае ён сям'ю садавінай, гароднінай, кормам для хатняй жывёлы, дый яшчэ і на продаж нешта застаецца. Глядзіш, і з'яўляецца прыварак у сямейным бюджэце. Дзякуючы дадатковым даходам, атрыманым з прысядзібнага ўчастка, Кавальчукі абставілі мэбляй свой вялікі дом, купілі аўтамабіль, разам з суседзямі набылі міні-трактар. І ўсё ж работа на прысядзібным участку прыносіць нешта большае, чым толькі матэрыяльны дабрабыт.

— Ніколі не пашкадавала я, што вярнулася ў родныя мясціны, звязала сваё жыццё з сялянскай працай,— гаворыць Валянціна Мікалаеўна,— бо праца гэта прыносіць вялікае задавальненне. Выйдзеш раніцой у агарод — і адразу агорне цябе хваля знаёмых з маленства пахаў — кропу і толькі што палітага агурочніку, цыбулі і спелых яблыкаў... Такое хараство навокал, сэрца радуецца: палымнеюць кветкі ў гародчыку, пяшчотна зелянее салата, наліваюцца чырванню памідоры... І ўсё гэта вырашчана і выпеставана ўласнымі рукамі, успрымаецца як узнагарода за працу. Усе ў нашай сям'і ўмеюць і любяць працаваць, дзеці з маленства дапамагаюць нам з бацькам па гаспадарцы. Можа таму мы і спакойныя наконт іх будучыні: дзе б яны ні жылі — у горадзе ці ў вёсцы — яны ніколі не будуць цурацца працы, з павагай будуць адносіцца да хлеба, бо ведаюць, як нялёгка яго вырасціць...

Некаму можа здацца, што занятасць кожнай сям'і ў падсобнай гаспадарцы адасабляе людзей адзін ад аднаго, замыкае ў коле ўласных праблем. Але гэта калі весці гаспадарку па-старому, прадзедаўскімі метадамі. У калгасе імя Ламаносава работа на прысядзібных участках, як, зрэшты, і ўся работа ў калгасе, пастаўлена на навуковую аснову. Навошта кожнаму паасобку корпацца на сваім агародзе, калі можна купіць на некалькі двароў мінітрактар або выдзеліць з нарада аднаго-двух коней, каб акучыць або разагнаць бульбу? Навошта кожнаму клапаціцца пра дровы, сена, калі гэта можна зрабіць цэнтралізавана, праз калгас? Калгас жа забяспечвае і гатунковым насеннем, і ўгнаеннямі, і камбікормам для жывёлы. Дый парады спецыяліста бываюць не лішнімі. Вось і атрымліваецца, што без такой дзейснай дапамогі і падтрымкі калгаса наўрад ці змаглі б калгаснікі атрымліваць даходы з падсобных гаспадарак. А якую выгаду ад прысядзібных участкаў мае калгас?

— Выгада ёсць, і немалая,— гаворыць старшыня калгаса імя Ламаносава кандыдат эканамічных навук Генрых Міхайлавіч Трацццяк.— Па-першае, самі калгаснікі забяспечаны агароднінай, мясам, малаком, яйкамі, з'яўляюцца не спажыўцамі, а вытворцамі сельскагаспадарчай прадукцыі. Лішкі прадуктаў яны здаюць па дзяржаўнай цане калгасу і тым самым павялічваюць колькасць высакаякаснай і таннай сельскагаспадарчай прадукцыі, прададзенай дзяржаве. У мінулым годзе, напрыклад, мы здалі дзяржаве мяса і малака на 30 працэнтаў больш, чым у папярэднім, прычым пятую частку гэтых прадуктаў атрымалі за кошт прысядзібных участкаў, якія з'яўляюцца часткай калгасных угадняў, таму і клапаціцца пра іх неабходна гэтак жа, як і пра астатнія палеткі.

Па-другое, падсобная гаспадарка дазваляе далучыць да грамадскай вытворчасці пенсіянераў, людзей, якія шмат папрацавалі на сваім вяку, але і зараз не могуць сядзець склаўшы рукі. А такіх людзей у нас нямала: з 1200 членаў калгаса толькі 400 актыўна працуюць, астатнія — пенсіянеры. Самі ж ветэраны прапанавалі на агульным сходзе правесці эксперымент — перакласці выкананне часткі абавязацельстваў калгаса па продажу мяса дзяржаве на падсобныя гаспадаркі. Умовы прапанавалі наступныя: калгас забяспечвае жадаючых парасятамі, камбікормам, а калгаснікі адкормліваюць іх да вагі 100 кг і прадаюць калгасу па рознічнай цане. Мы падтрымалі гэту ініцыятыву і падпісалі дагавор. І не памыліліся. Справа аказалася прыбытковай, як для калгаса, так і для калгаснікаў. Выгадна гэта і дзяржаве, бо ў выніку захоўваюцца капітальныя ўкладанні для буйнамаштабнай вытворчасці, і пакупніку — ён атрымлівае больш мяса па нізкай цане.

Такім чынам, пенсіянеры і члены іх сямей, працуючы на прысядзібных участках, прымаюць удзел у грамадскай вытворчасці, уносяць уклад у выкананне Харчовай праграмы.

...Мрояцца старшыні абрысы новай вёскі, бачацца новыя формы вясковай кааперацыі, а бацькам, найперш, думаецца аб тым, кім вырастуць іх дзеці. Магчыма, таму так упэўнена глядзяць у свой заўтрашні дзень, у будучыню сваіх дзяцей Валянціна і Пятро Кавальчукі, што яны цвёрда пераканаваны: у нашай краіне інтарэсы дзяржавы заўсёды супадаюць з інтарэсамі кожнай сям'і, яе маленькай ячэйкі.





# СЯЛЯНСКІ ДОМ

Мікола ШЭЛЯГОВІЧ

☐ Такая яна — вёска Мышкавічы.

☐ У Жамчужным ёсць і вось такія катэджы для адной сям'і.



Сялянскі дом — гэта цэлая гісторыя, цэлы свет. Ад дзядоў да ўнукаў перадаецца гэта гісторыя: як куплялі лес, тралявалі яго, вазілі, як гуртам складалі смольны зруб, як шукалі майстра, каб выразаў адметныя ліштвы. А майстроў такіх усё меней і меней. Чаму?

Дом, зроблены сваімі рукамі. Здаецца, далоні тваё памятаюць моцнае тапарышча, цёплы дотык да агабляванай дошкі, холад звонкай цагліны. Але самі будуюцца цяпер усё радзей. Таксама пытанне, на якое шукаў я адказу. Можа таму, што многія вёскі, і нават вялікія, некім асуджаны на неперспектыўнасць. А можа, таму, што калгасы і саўгасы цяпер многа-такі будуюць жылля. І некаторыя паддаліся гэтаму практычнаму разліку: «Лепш матацыкл, машыну куплю, чым дом будаваць,— разважае сёння малады селянін.— А калгас кватэру дасць». А можа, не так лёгка «здабыць» зараз будаўнічыя матэрыялы, не так хутка згаварыцца з майстрамі. Ды і ці ёсць яны?

І ўсё часцей успамінаецца мне паляшуцкая вёска Агдэмер. Пра яе назву ў народзе жыве легенда: маўляў, «Огдэмыр» ад «биг дэ вмэр» — бог дзе памёр! Старэнькая шаша. Гэтую шашу насыпаў і мой дзед Сцёпа, хата якога была мне за жытло ў першыя мае гады, а цяпер — за крыніцу паляшуцкага духу, народнай мудрасці і народнага фальклору.

Не, дзедаву хату трэба называць харомаю — будавалася яна пасля вайны, бо старая згарэла,— і ў параўнанні з суседскімі выглядала дыхтоўным будынкам. Дзед Сцёпа адмысловы будаўнік, ставіў яе сам. У мадэрновым на тую пару стылі — да таго часу ён аб'ездзіў бадай што паўсвету: ад уральскага Троіцка, горада свайго камсамольскага юнацтва, да Быдгашча і Познані, праз якія яго правялі вайсковыя дарогі. Шмат нагледзеўся дзед на розныя дамы, практычнае сялянскае вока прыкмеціла ўсё лепшае, зручнейшае, прыгажэйшае. А дар будаўніка-майстра дапамог злучыць арганічна ў адзінае — і прыдатнае для пераймання з чужога і сваё нацыянальнае, апрабаванае за стагоддзі дзядамі.

У доме, большым за звычайныя на вёсцы, у яго чыстай палавіне, былі не толькі «хата» і «кухня», дзе стаяла вялікая печ з ляжанкаю, але і «апачывальня» і «прыхожая». Праз прыхожую — чысты ўваход. Быў на кухню і другі ўваход, абавязковы для паляшуцкай хаты,— праз «высцёнку» — пакой, дзе захоўвалася ежа, прадукты... Колькі памятаю, бабуля заўсёды хадзіла і ходзіць праз высцёпку. Абодва выхады з чыстай паловы хаты вядуць у сенцы, з якіх можна трапіць да каморы — там ляжала і вісела сёе-тое з горшай вопраткі, стаяў ровар... У кутку сенцаў, ля невялічкага акенца, дзедаў





□ У пасёлку Жамчужным Баранавіцкага раёна можна жыць пагарадскому.



□ Новыя дамы ў калгасе «Рассвет» імя Кірылы Арлоўскага.

варштат, на якім ён сталяраваў. А яшчэ ў сенцах стаяла, яна і зараз стаіць, лесвіца-страміна, па якой узбірацца на гару — таксама вельмі абходнае ў сялянскай хаце памяшканне.

Новаўвядзеннямі, апрача апачывальні і прыхожай, былі і зашклёны, з дзвярамі ганак, і вялікія светлыя вокны з папярочнымі на ўсю шырыню форткамі.

Адразу за хатай — лёх на бульбу, буракі, моркву, далей — садок, агароджаны жэрдкамі, а ўжо за ім — клуня на сена, закуткі для каровы і авечак; да клуні прыляпіліся хлеўчыкі для парасят і свойскай птушкі, а трохі на адлегласці, на невялічкім грудку — месца для капіцы саломы.

Планіроўка сядзібы, калі вольна ўжыць такі тэрмін, адпавядала патрэбам парадку жыцця селяніна, парадку, выпрацаванага за стагоддзі. У ёй усё разумна, мудра і — проста.

Не, дзедавы хата, сядзіба не выключэнне, яны тыповыя для вёскі, жыхары якой звычайна трымаюць немалую гаспадарку, маюць прыстойны агарод.

Замест усіх колішніх агдэмерскіх хат, сядзіб прыблізна аднолькавы, толькі, так сказаць, формаю яны адрозніваюцца — адразу відаць больш дбайнага і руплівага гаспадара, а то і проста — дужэйшага. Хаціна самотнай бабулі Хвэлі (некалькі гадоў назад яна памерла) здавалася мне паменшаным узорам сярэдняй вясковай хаты. Затое на палац выглядаў дом лесніка...

Аканіцы, а таксама ўсялякія мудрагелістыя ўпрыгожванні — зноўтакі толькі ў багацейшых, мацнейшых гаспадароў. Праўда, і бяднейшыя імкнуліся хоць якое ўпрыгожванне — хай нават фігурку пеўня на вільчаку,— але каб мець. Гэтая своеасаблівая аздоба паляшуцкіх хат з'яўлялася як бы формай спаборніцтва і на заможнасць, і на руплівасць, і на арыгінальнасць. Бо мала было мець толькі грошы, каб збудаваць дом прыгожы, патрэбны тут былі яшчэ і добры густ, і дараванне сталяра, цесляра...

Калі доўга не пабудзеш дома, то міжволі ловіш сябе на думцы, што прыедзь у вёску гадоў маленства, сустрэнешся з ёю колішняй. Нават як праводзілі там святло памятаю, бо да тае пары вясковую вуліцу — шашу Драгічын — Янава — асвятлялі водбліскі ад лямпаў за шыбамі. Раней хаты ставілі наўсторч да вуліцы, падступаючы да самага яе краю — можа каб з акон асвятляць вёску!?

Дзве шарэнгі дамоў, шаша, якую абавязкова падмяталі перад святамі і нядзелямі, гаманлівыя двары агдэмерцаў, лаўкі для пасядзелак амаль супраць кожнай хаты, а на іх людзі... старыя, маладзейшыя, дзеці — між іх, з імі гадаваўся і я.

Ды пры сустрэчах, якіх так неадольна прагну, бачу вёску іншай: з трохі забруджанай пяском шашой, на рэдкіх лаўках — толькі старыя. Нешматлікія, у параўнанні з колішнім, жыхары Агдэмера, таксама зведаўшыя хваробу ўцёкаў моладзі ў горад, усё радзей збіраюцца гуртам пагутарыць альбо паспяваць — магніт тэлескрынкі ўсё больш падпарадкоўвае людзей сваёй уладзе. Нават пачатковай школы ў вёсцы на сто з гакам двароў зараз няма — няма дзяцей адпаведнага ўзросту. Вось і гэтым годам у першы клас пайшло толькі двое — іх возяць за тры кіламетры да Гутава. Усяго дваццаць гадоў мінула... Так, толькі дваццаць...

У ліпені — жніўні па навуковых справах — даследаваў паляшуцкі дыялект — мне давялося наведаць амаль кожны населены пункт Драгічынскага, Іванаўскага і іншых раёнаў — самы асяродак заходнепалескай зямлі. Паўсюль ці, дакладней, амаль паўсюль, у вёсках карціна падобная да агдэмерскай. Бедныя на дзіцячыя галасы вёскі, а значыць — і бедныя на новыя хаты. Калі ж часам і густавата новых хат — дык у цэнтральных вёсках калгасаў, і то не ва ўсіх, а ў перадавых, заможных. І ўсе гэтыя новыя вясковыя дамы — на адзін твар, акурат бы дамы іншых гарадскіх мікрараёнаў. Можа, у горадзе такая аднатыповасць і апраўданая, хаця, на маю думку, гэта далёка не так, дык у вёсцы з ёю ніяк нельга пагадзіцца.

Што ж гэта за сучасная сельская хата? Усім вам добра вядома мадэль — фінскі домік натуральнага выгляду альбо абкладзены знадворку цэглаю. Такое найчасцей. Трэба вызначыць, што аднатыповыя дамы зусім няблага глядзяцца, але хай бы гэтая аднатыповасць грунтавалася на тыповасці нацыянальнай — грэбаваць традыцыямі, што грэбаваць народнымі, матчынымі, песнямі!

Згадваецца размова з жыхаркаю вёскі Баландзічы, што на Іванаўшчыне, Вольгай Васільеўнай Клімавец. Дваццаціпяцігадовая жанчына, сакратар Адрыжынскага сельскага Савета жыве з сям'ёю на хутары ў хаце, якая дасталася ў спадчыну ад дзеда. Традыцыйная, а значыць зручная, паляшуцкая хата, на колькі магчыма асучасненая. Але хутар далёка ад вёскі, ад работы, да таго ж — неэлектрыфікаваны. Запытаў у жанчыны, а ці не спрабавала яна з мужам будавацца ў вёсцы.

— Добрая хата, вядома ж, драўляная, каштуе дорага. Толькі за зруб пяць тысяч рублёў аддасі. А за шалёўку, за іншае...

Ці ж гэта не дзіва, што ў краі, які славіцца лясамі, амаль немагчыма, асабліва маладым, пабудаваць сабе з дзерава хату.

У некаторых вёсках будуюцца і дамы ў два паверхі — зусім як для гараджан. Калі ж я папытаў В. В. Клімавец, ці хацела б яна жыць у такой кватэры, дык адказ быў адмоўны:

— Ужо лепш у фінскім дамку.

А жыхарка вёскі Варацэвічы Ірына Дарафееўна Маружка, старэнькая бабуля, якая жыве ў слабенькай драўлянай, але тыпова паляшуцкай хаце, сказала, што ў «двухпавярхоўцы» і нават у «фінскім» жыць нізашто не пагадзілася б.

— Там жа немагчыма жыць па-вясковаму. Хіба пры доме пабудаваць летнюю кухню, дзе можна варыць ежу для свіней, кладоўку...

Маладзіца з Баландзіч Голя Антонаўна Клімовіч мяркуе так:

— У сучасныя дамы, якія ўзялі за моду будаваць апошнім часам на вёсцы, жыць ніколі не пайду. Нязручныя яны для жыцця. Нібы і не для вяскоўцаў яны ставяцца.

Сапраўды, жыццё ў такім доме ўжо само па сабе робіць чалавека — у горшым, кплівым сэнсе гэтага значэння — інтэлігентам, якога проста абставіны змушаюць не трымаць гаспадарку альбо трымаць невялічкую. А ў вёсцы ж без сапраўднай гаспадаркі — цяжка жыцца! Але нават будаўніцтва такіх, не зусім зручных для сельскага жыцця дамоў, не надта ўжо і дарагіх, не вырашае праблемы жылля на вёсцы. Людзі, найперш маладыя сем'і, не маючы сродкаў пабудавацца самім, павінны па пяць, а часам і па больш гадоў чакаць дом за калгасны кошт. Гэта ў калгасах сярэдніх.

Ці ж гэта не праблема!?

...На прыём да намесніка старшыні Іванаўскага райвыканкома

М. А. Коршака прыйшла маладая калгасніца. Прыйшла са слязамі ў вачах прасіць рады: мясцовае кіраўніцтва несправядліва абмінае яе сям'ю з выдзяленнем жылля. З яе слоў, слоў чалавека і па размове, і па выгляду вельмі сціплага і шчырага, а таксама і вельмі баязлівага, вынікала, што ў калгасе, дзе працуе маладая даярка, дзеюцца непарадкі з размеркаваннем жылля. Калі ж Мікалай Антонавіч памкнуўся пазваніць у калгас, каб разабрацца ў сітуацыі, дык жанчына стала прасіць, каб яе імя не называлася:

— А то яшчэ падумаюць, што я скарджуся, тады зусім...

Вось і яшчэ адзін бок праблемы. Ды ён не апошні. Некалькі гадоў назад, пад час летняга адпачынку мне давялося, шчыра кажучы, «пашабашыць» у складзе прафесійнай брыгады такіх універсальных будаўнікоў. У калгасе, дзе мы ў той час працавалі, і ў суседніх пра гэтую брыгаду ішла вельмі добрая пагаласка. А гэта, у сваю чаргу, гарантавала шабашнікам выдатныя заробкі. Побач з нашым аб'ектам — хатай для дыпламаванага спецыяліста, надзеленага ў калгасе немалой уладай,— мясцовыя калгасныя будаўнікі, і не чацвёра, як нас, а сямёра, узводзілі тыповы дом. Пачалі яны будаўніцтва яшчэ ўзімку. Праз месяц мы свой аб'ект здалі пад ключ з адзнакаю выдатна, а суседзі толькі закончылі настаўляць страху. Калі б іхняе будаванне вызначалася толькі маруднасцю, дык гэта было б паўбяды. Пасля такой якасці работы, як у тых — хай горшых за ўсіх астатніх — калгасных будаўнікоў, нас бы, брыгаду шабашнікаў, на гарматны стрэл не падпусцілі блізка да аб'екта.

Але мовіў я ўсё гэта не для таго, каб ахаяць адных будаўнікоў і хваліць другіх. Для іншага: калі будавалі дом мы, то ведалі, для каго ён, таму і ўзгаднілі з будучым гаспадаром планіроўку хаты — будавалі дом для жыхароў вёскі, а не для вясковых «інтэлігентаў». Нашыя ж суседзі будавалі свой дом, не ведаючы, каму ён дастанецца,— абы пабудаваць для колькасці, для плана. Нам жа ставіць сваю хату дапамагалі па сваёй ахвоце і яе будучы гаспадар, і будучая гаспадыня — а іхняя прысутнасць яшчэ больш стымулявала нас на самую якасную працу.

Вось такія бакі вясковай — найперш жыллёвай — праблемы пабачыліся мне, чалавеку староннямy. А можа гэта староннясць у дадзеным выпадку найбольш прыдатная! Хто ведае.

...Гэтым разам у Агдэмер ехаў пад уражаннем песні пра хату-паляшучку на словы валынскага паэта Міколы Чарняка. М. Пракаповіч пераклаў верш на беларускую мову, і атрымалася выдатная беларуская песня, якая не пакіне абыякавым ніводнага чалавека, які хоць год пажыў у вёсцы на Палессі. Уяўляліся хаты дзеда Сцёпы і бабулі Барбары, сцяжынкі маленства, абеганыя басанож, гнёзды буслоў над стрэхамі дамоў і клунь, колішні вясковы дух, настрой...

...Ад'язджаў з вёскі ў настрої тугі, шкадавання. Ад'язджаў, каб у сваім уяўленні прыехаць на доўгачаканае спатканне з вобразамі, колішняй па-сапраўднаму і сённяшняй у маіх думках, вёскі, спатканне з Агдэмерам, згадкі пра жыццё ў якім натхняюць мяне жыць, застаючыся верным традыцыям сваёй малой Радзімы.

Дзякуй, вёска, што ты была, ёсць, і будзь ты на далей — хай і асучасненая, але з паляшуцкімі рысамі на твары...

# ТАКАЯ ЯНА ЁСЦЬ, ТАКАЯ ЯНА БУДЗЕ, НАША ВЁСКА

**Роздум Міколы Шэляговіча пра сялянскі дом мы паказалі спецыялісту, начальніку аддзела капітальных укладанняў, сельскагаспадарчага будаўніцтва і меліярацыі Дзяржплана БССР Валерыю Аляксеевічу ДРАЗДУ.**

**Вось што ён сказаў:**

— Нельга не пагадзіцца з апошнімі словамі аўтара роздуму, адрасаванымі вёсцы. Хто з нас не ўдзячны вёсцы, роднаму дому, роднаму краю, за тое светлае, што ў нас ёсць у душы.

Што ж датычыцца іншых палажэнняў, то ў многім пункт гледжання М. Шэляговіча выклікае пярэчанне.

Пачнём з таго, што галоўнай канцэпцыяй развіцця сяла цяперашнім часам, і гэта знайшло пацвярджэнне на XXVII з'ездзе КПСС і XXX з'ездзе Кампартыі Беларусі, у Харчовай праграме, з'яўляецца ўсямернае ўмацаванне эканамічнай і сацыяльнай інфраструктуры сельскай гаспадаркі, стварэнне тут умоў жыцця, якія не ўступалі б гарадскім, разлічаных на як мага поўнае забеспячэнне матэрыяльных і духоўных патрэб работнікаў сяла.

Гэта неабходна для скарачэння і прадухілення ў будучым неапраўданых маштабаў міграцыі жыхароў сяла, асабліва тых прафесій, якія так неабходны сялу.

Канкрэтнае ўвасабленне і адлюстраванне знаходзіць даная канцэпцыя ў Дзяржаўным плане эканамічнага і сацыяльнага развіцця рэспублікі. Пры размеркаванні капітальных укладанняў перавага аддаецца невытворчай сферы сяла. Напрыклад, тэмпы росту капіталаўкладанняў, накіраваных на будаўніцтва жылля і аб'ектаў сацыяльна-культурнага назначэння, з 1981 па 1985 гады ўзраслі ў 1,9 раза, а на вытворчае будаўніцтва знізіліся на адну трэць. За гэты час сюды укладзена каля 2 мільярдаў рублёў дзяржаўных і калгасных сродкаў, што ў 1,8 раза больш, чым у дзесятай пяцігодцы. Такая агульная карціна.

Не вытрымліваюць крытыкі нараканні М. Шэляговіча на тое, што паміраюць вёскі, памалу забудоўваючыся аднатыпнымі «фінскімі» дамкамі.

Патрэба ў добраўпарадкаваным жыллі на вёсцы пакуль што яшчэ сапраўды вялікая. Каля 5 тысяч спецыялістаў сельскай гаспадаркі рэспублікі жывуць на прыватных кватэрах, больш чым 8 тысячам сем'яў механізатараў пажадана палепшыць жыллёвыя ўмовы. У пачатку 1984 г. на ўліку для яго атрымання налічвалася болей за 30 тысяч чалавек. Да гэтага трэба дадаць і тое, што 61 працэнт жыллёвага фонду ў сельскай мясцовасці ўзведзен да 1960 г. і з'яўляецца фізічна і маральна ўстарэлым.

Для паскарэння вырашэння жыллёвай праблемы ў рэспубліцы створана магутная база будаўнічай індустрыі, ідзе актыўны пошук найбольш рацыянальных тыпаў жылых дамоў з улікам запатрабаванняў сельскіх жыхароў, замежнага і айчыннага вопыту.

Праведзены шырокія сацыялагічныя даследаванні. І праектнымі ўстановамі распрацавана болей як 90 тыпавых і эксперыментальных праектаў жылых дамоў, якія дазваляюць разнастаіць архітэктуру жыллёвай забудовы, максімальна ўлічыць дэмаграфічныя абставіны на месцах, забяспечыць умовы для развіцця асабістай гаспадаркі.

З улікам магчымасцей базы будаўнічай індустрыі жылыя дамы могуць быць са сценамі з буйных панелей, сілікатабетону, цэглы, драўляных панелей, керамзітабетону, спалучэння розных матэрыялаў. Дарэчы, нядаўна з'явіўся ў продажы каталог праектаў жылых дамоў для індывідуальнага і кааператыўнага будаўніцтва ў сельскай мясцовасці рэспублікі, названы «Дом для сяла». У каталог уключаны праекты аднапавярховых, мансардавых і двухпавярховых дамоў сядзібнага тыпу, гаспадарчых пабудоў, прыклады планіровачных рашэнняў сядзіб, архітэктурнага ўпрыгожвання фасадаў, інтэр'ераў кватэр. Нават беглае знаёмства з ім абвяргае меркаванне аўтара аб аднастайнасці жылых дамоў, збядненні нацыянальнай культуры.

Усяго за 1981—1985 гады ў сельскай мясцовасці ўведзена 7,7 млн. квадратных метраў плошчы жылля, ці 105 тысяч добраўпарадкаваных кватэр. Гэта на 1,7 млн. квадратных метраў, ці на 23 тысячы кватэр больш чым у X пяцігодцы.

Такі вялікі прырост жыллёвай плошчы атрыманы таму, што ў апошнія гады ў сельскае будаўніцтва прыцягваліся капітальныя укладанні з невытворчых галін гарадоў і прамысловых цэнтраў, а таксама пераразмяркоўваліся сродкі на будаўніцтва жылых дамоў, якія накіроўваліся на вытворчае будаўніцтва аб'ектаў сельскагаспадарчага прызначэння. Узраслі аб'ёмы шэфскай дапамогі сялу прамысловых прадпрыемстваў і будаўнічых устаноў. Прычым галоўная ўвага надаецца будаўніцтву жылля ў эканамічна слабых калгасах і саўгасах. 70 працэнтаў агульнай плошчы жылля — гэта дамы сядзібнага тыпу з поўным інжынерным забеспячэннем. «Фінскія» дамы, аб якіх гаворыць аўтар, канечне, не маюць тых выгод і займаюць у агульным жыллёвым будаўніцтве меней чым 3 працэнты.

З 1984 года той, хто будуецца ці захацеў бы будавацца, мае магчымасць разлічваць не толькі на свае сілы, але і пакарыстацца паслугамі падрадных будаўнічых устаноў ці будаўнічых брыгад, якія маюцца ў гаспадарках. Ну, а калі ён будуецца самастойна, у яго карыстанні будаўнічых матэрыялаў, гандаль якімі значна палепшыўся.

Галоўным прынцыпам забудовы сёл з'яўляецца яе комплекснасць. Гэта азначае, што разам з жылымі дамамі ў сёлах узводзяцца культурна-бытавыя аб'екты. За мінулую пяцігодку на сяле пабудавана дзіцячых садоў на 52 тысячы месц, школ на 59 тысяч месц, бальніц на 4,8 тысячы ложкаў, паліклінік на 6,8 тысячы наведвальнікаў, клубаў — на 41 тысячу месц, магазінаў — плошчаю 102 тысячы квадратных метраў, сталовак — на 18,5 тысячы месц, лазняў — на 5,9 тысячы месц, 129 дамоў быту і комплексных прыёмачных пунктаў.

Задача зараз — звязаць надзейнымі дарогамі пасёлкі, фермы, вытворчыя ўчасткі. Толькі за адзінаццатую пяцігодку пабудавана 7,3 тыс. км такіх дарог, ці ў 7 (сем!) разоў вышэй плана. У вёсках асфальтуюцца вуліцы, кладуцца тратуары. Ужо добраўпарадкавана больш за тысячу кіламетраў сельскіх вуліц.

Цяпер некалькі слоў аб архітэктурна-вонкавым выглядзе сяла.

У 1981 годзе на Усесаюзным аглядзе-конкурсе на лепшую забудову і добраўпарадкаванне сёл 79 пасёлкаў рэспублікі ўзнагароджаны дыпломамі і граматамі Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі СССР. 36 з іх — палескія сёлы. Напрыклад, пасёлкі Клепачы, Парахонск, Тэльмы, Свяціца, Палескі Брэсцкай вобласці, Камунар, Крынічны, Жгунь, Новая Гута Гомельскай вобласці, Семежава, Янавічы, Высокая Ліпа, Сарачы, Гарадзішча Мінскай вобласці і шмат іншых.

У 1985 годзе дыпломы атрымалі 62 населеныя пункты. Большасць знаходзіцца на Палессі, на радзіме аўтара артыкула. Мы, безумоўна, далёкія ад думкі ідэалізаваць абставіны. У жыллёвым будаўніцтве яшчэ нямала недахопаў. Да іх у першую чаргу трэба аднесці выпадкі невыканання планаў будаўніцтва, нізкай якасці будаўнічых работ, дэфіцыт лакафарбавых матэрыялаў, санітарна-тэхнічнага абсталявання, неапраўданае завышэнне кошту жылых дамоў, адставанне рамонтных служб. Але драматызаваць абставіны няма падстаў. У 1986—1990 гг., напрыклад, вырашана падвоіць аб'ёмы жыллёвага будаўніцтва ў вёсцы ў параўнанні з адзінаццатай пяцігодкай. Таксама ў два разы больш будзе пабудавана дзіцячых садоў і ў 1,5 раза — клубаў.

За XII пяцігодку ў сельскай мясцовасці будзе праведзена 14 тысяч кіламетраў аўтамабільных дарог з цвёрдым пакрыццём.

Можна быць упэўненымі ў тым, што беларуская вёска ў недалёкім будучым поўнасцю перайначыцца, стане прыгажэйшай. Яе жыхары атрымаюць цудоўныя кватэры, прасторныя школы і спартыўныя пляцоўкі. У той жа час непаўторны нацыянальны каларыт яе будзе ашчаджацца і ўдасканальвацца.





**ДА АДКРЫЦЦЯ МУЗЕЯ НАРОДНЫХ МАСТАЦТВАЎ І РАМЁСТВАЎ ІМЯ ПАЎЛЮКА БАГРЫМА**

# ЖЫЦЦЁ Ў РАДКУ І Ў МЕТАЛЕ



Фрагмент жырандолі, выкаванай П. Багрымам.

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

У гісторыі сусветнай літаратуры ёсць мастакі слова, якія, пакінуўшы пасля сябе адну кнігу, засталіся назаўсёды ў памяці таго народа, які нарадзіў іх і выхаваў. Але я не магу згадаць ні аднаго паэта, які б увекавечыў сваё імя, высветліў, як паходняй, сваю постаць нашчадкам з сутоннняў мінуўшчыны ўсяго адным вершам... Аднак у нас, беларусаў, такі паэт ёсць.

Паўлюк Багрым.

На яго радзіме, у Крошынскай сярэдняй школе ва ўрачыстай абстаноўцы, у светлы сонечны дзень быў адкрыты музей народных мастацтваў і рамёстваў, названы ў гонар легендарнага паэта. Так, легендарнага, таму што пагалоскі аб яго жыцці яшчэ дасюль ходзяць не толькі ў наваколлі Крошына, але і па ўсёй Беларусі. На свяце паэзіі, прысвечаным адкрыццю музея і арганізаваным Саюзам пісьменнікаў рэспублікі, паэтка, зямлячка крошынцаў Ніна Загорская вельмі цудоўна сказала: «Жыццё Паўлюка Багрыма — гэта песня ў радку і ў метале».

— Я думаю пра тое, што мы вельмі багатыя,— гаворыць прадстаўніца Гродзеншчыны, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы Данута Бічэль-Загнетава,— у нас ёсць такія волаты-паэты, як Багушэвіч, Багдановіч, Цётка, Купала... І якія мы ўсё ж нешчаслівыя: мы страцілі ўсю паэзію Паўлюка Багрыма. Застаўся, цудам ацалеў усяго адзін яго верш. Усіх ён кранаў. Нікога не пакідае абыякавым. І праз стагоддзе дух Багрыма-змагара жыве ў іх балючых строфах.

Паэт Багрым быў кавалём. Дый яшчэ якім! Гледзячы на яго жырандоль у калгасным музеі, неўпрыкмет для сябе параўноўваеш іх з яго вершам-шэдэўрам «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» Якому твору — паэтычнаму альбо кавальскаму — аддаць перавагу? І, ведаеце, не хапае адвагі гэта зрабіць, так па-майстэрску, дасканала яны выкананы. Калі наконт аўтарства багрымаўскіх агароджаў у кагосьці могуць узнікнуць сумненні, дык жырандоль мае надпіс лацінкай, што яна кавана Паўлюком Багрымам з Крошына.

Вядучы свята паэзіі пісьменнік і літаратуразнаўца Уладзімір Калеснік як ніхто ведае вартасць паэтычнага слова славутага паэта, але і ён не мог стрымацца, каб не выказаць сваё захапленне Багрымам-кавалём:

— Паўлюк Багрым быў мастаком кавадла, бо кавадла — гэта чарадзейная прылада ў народным разуменні. Каваль — гэта не толькі той, хто ўмеў каваць, выплаўляць метал, ён быў чарадзеем. Лічылася, што каваль можа выкаваць долю.

Мы дзівімся, гледзячы на гэтую цудоўную жырандоль, упрыгожаную жаўранкамі, якія вяшчуюць вясну. А вясна радавала селяніна ў часы Багрыма асабліва, бо тады селянін залежаў ад прыроды. Яму ўсім хутчэй хацелася вылезці з курнай, халоднай хаты, паглядзець на гэтую вясну, на свет белы.

Жырандоль знаходзіцца ў калгасным музеі. З-за сваіх памераў яна не змагла памясціцца ў невялічкай школьнай зале музея народных мастацтваў і рамёстваў, аб якім наш роспавед. Нарэшце сімвалічная стужка перарэзана, сказана многа шчырых, усхваляваных слоў на адкрыцці, і мы разам з ініцыятарам стварэння музея мастаком Сымонам Свістуновічам правядзём першую выправу, якая пачынаецца партрэтам Паўлюка Багрыма, створаным Сымонам Свістуновічам: светлае, чыстае аблічча маладога Багрыма. Тонкія рысы твару, за якімі адчуваецца пяшчотная, даверлівая натура, але, у той жа час, гатовая да выпрабаванняў будучага жыцця, у якое скіраваны скрозь гады пільны позірк паэта.

— Фотаздымка ці малюнка Паўлюка Багрыма не захавалася,— апавядае Сымон Свістуновіч.— Але, як вядома, бюст яго зрабіў Заір Азгур, жывапісную карціну стварыў Сергіевіч. Кіраваліся яны чыста ўяўленнем. Я пайшоў па іншаму шляху, хаця і ў мяне інтуіцыя адыграла не апошнюю ролю. У Крошыне ёсць вельмі стары чалавек — Собка Міхаіл Станіслававіч, 1898 года нараджэння. З яго роспаведаў, бацька быў маўклівым чалавекам, а маці, Сандзюк Кляменцыя Вікторыеўна часта распавядала пра Багрыма. Пра жырандоль. Брат маці Язэп нейкі час працаваў памагатым у Багрыма. Сам жа Міхаіл Станіслававіч добра памятае сыноў паэта, яго кузню і касцёл, які разабралі ў першую вайну. Старэйшы сын Багрыма быў высокага росту. Малодшы — сярэдняга. Абодва светлавалосыя. Насы прамыя... Такім чынам успаміны чалавека родам з мінулага стагоддзя ляглі ў аснову гэтага партрэта.

А вось фотакопія верша Багрыма з арыгінала. Напісаны ён быў лацінкай. Хаця Паўлюк Багрым вядомы ўсяго адным вершам, тым не менш яму прысвечана дзесяткі паэтычных твораў і літаратуразнаўчых прац. Язэп Дыла напісаў драму «Юнак з Крошына». Уладзімір Караткевіч адным з першых і неаднойчы звяртаўся да вобраза Паўлюка Багрыма, пачаўшы з балады «Матчына душа».

А гэта веснічкі, выкаваныя Багрымам, ад агароджы з могілкаў, дзе пахаваны сам паэт. Каля адной з яго агароджаў спілаваны два дрэвы. Па гадавых кольцах няцяжка было вызначыць, што пасадка гэтых дрэў трапляе якраз на жыццё нашага знакамітага земляка. Акрамя чатырох у Крошыне, такія ж агароджы я знайшоў у Юшкавічах і пад Баранавічамі. Відавочна нават неспецыялісту, што іх рабіў адзін майстра.

Але музей, створаны Сымонам Свістуновічам, мае на мэце знаёміць наведвальнікаў не толькі з жыццём Паўлюка Багрыма, а і з тымі часінамі, у якія яму патрапіла жыць. Тут мы можам убачыць збор прадметаў беларускага кавальства: бусак, адметны сваімі неверагодна вялікімі памерамі, сякеры, бязмен, нажніцы, склюд — прылада для абчэсвання бярвенняў па тыпу сякеры, але ў разы тры-чатыры большая. Тут і пляценне, і ўласцівая гэтай мясцовасці серабрыстая кераміка. Ручнік, які можа служыць эталонам беларускага даматканага ручніка. У адрозненне ад пазнейшых, вышытых шоўкам альбо баваўнай, гэты вышыты льнянымі ніткамі. Вельмі цікавая набіванка 19-га стагоддзя і збор вышыванак таго ж часу. Майстры больш чым сто гадоў назад ведалі сакрэты прыгатавання тканінавых фарбаў. Гэтыя фарбы ні ў чым не ўступаюць сучасным, калі не пераўзыходзяць іх па ўстойлівасці: тканіны захавалі і сіні, і карычневы, і серабрысты колеры.

За немалым выключэннем вось пакуль што і ўся экспазіцыя. Аднак гэта толькі пачатак. У яго стваральнікаў яшчэ многа задумак і нават мар. Напрыклад, афарміць стэнды, прысвечаныя знакамітым людзям, жыццёвы шлях якіх пралёг праз Баранаўшчыну і лёс Багрыма: Міцкевічу, Яну Чачоту... Ёсць звесткі, што з паэтам сустракаўся Дамейка. Было б выдатна, калі б музей знайшоў сталае месца. Напрыклад, у Крошынскім касцёле, гэтым помніку гісторыі і архітэктуры, які ўжо колькі гадоў служыць мясцоваму калгасу як сховішча.

Як і ўсякі музей, Крошынскі заканчваецца кнігай водгукаў. Хочацца прывесці некаторыя запісы з яе. Вось словы Уладзіміра Калесніка:

«Выдатны майстра беларускага габелена Сымон Свістуновіч выступіў у новай якасці — арганізатара музея. І я б сказаў, гэта яму ўдалося зрабіць не толькі на даволі высокім прафесійным узроўні, але і на самым высокім узроўні чалавечай душы. Так з густам расстаўлены яшчэ нешматлікія экспанаты музея! Яны не «б'юцца» паміж сабой, не канкурыруюць... Няхай служыць гэта экспазіцыя справе выхавання ў моладзі павагі да спадчыны, якую прыдбалі земляні выдатнага каваля і паэта Паўлюка Багрыма».

А вось што піша Васіль Вітка: «Словы ўдзячнасці мастаку Сымону Свістуновічу, энтузіясту справы, якую мы вельмі высока цэнім і, можа быць, яшчэ не ведаем цаны таму, што зроблена. Пра гэта скажуць нашы нашчадкі, новыя пакаленні людзей. Свет трымаецца на добрых душах. Вялікая ўдзячнасць і вялікая пашана наша да людзей-падзвіжнікаў, захавальнікаў роднай спадчыны, якіх у нас пакуль што нямнога, але яны ўсё часцей і часцей з'яўляюцца. Слава, добрая пагудка ў народзе пра такіх людзей ідзе, і яна будзе ісці і шырыцца!»

**Анатоль СЫС.**




АПАВЯДАННЕ

*Волшебной силой песнопенья*
*В туманной памяти моей*
*Так оживляются виденья*
*То светлых, то печальных дней.*

*А. ПУШКІН.*

Як толькі ўзялася ў сілу трава і зашумелі клейкай лістотай бярозы, зноў на ўзлессі стаў цыганскі табар.

Ад колішняга маёнтка да гонкага хвойніка вяла абсаджаная старымі бярозамі дарога, у канцы яе, на ўтравянелай лагчынцы стаяла невялічкая каплічка з выбітым шклом, злінялаю і пакалечанаю фігуркаю маткі боскай. Тут і спыняліся кожны год адны і тыя ж цыганы: нацягвалі палапленыя, парыжэлыя ад дажджоў і дарожнага пылу шатры, загараліся вогнішчы, звінелі кавадлы, і чулася здалёк гамана. Цыганы лудзілі катлы і глякі, чаканілі бляшкі на аброці і набедрыкі, а цыганкі ў доўгіх стракатых спадніцах, чырвоных, жоўтых, зялёных і сініх хустках разыходзіліся па сёлах варажыць на картах і прысушваць каханых, ратаваць кароў ад ліхога вока, а дзяцей ад пераляку. Многія проста хадзілі з хаты ў хату прасіць лусту хлеба і скварку «сабе і свайму цыганяці».

Вечарамі ўсе збіраліся ў табары. Высока палалі вогнішчы, гучалі доўгія звонкія і тужлівыя песні. Ныла гітара, плакала скрыпка, адбіваў такт бубен з медзяным паразвонам. У іх былі жальба і надрыўны стогн па далёкіх дарогах і страчаным шчасці, спрадвечны боль прыгожага вандроўнага роду. Раптам віхурай закручвалася «Цыганачка» пад пляскат учарнелых і жорсткіх далоняў. У круг, заліты водбліскам полымя, урывалася гнуткая, як ракіцінка, маладая дзяўчынка ў вясёлкавай замеці шырокіх фальбонаў. Гарачым вуголлем палалі вочы, залацістымі маладзікамі гарэлі завушніцы, яна высока несла прыгожую галоўку, блішчалі даспелаю чырванню вільготныя губы, ад полымя здаваліся ружовымі роўныя, як часнок, зубы, звінелі маністы з мікалаеўскіх срэбных манет, пад цеснаю блузкаю ўздрыгвалі тугія грудзі.

Ёй насустрач выскачыў ладны цыган у лакіраваных ботах, шырокіх аксамітных шараварах, з-пад чорнай з разводамі камізэлькі языкамі полымя выбіваліся шырокія рукавы малінавай кашулі. Ён, як каршун з акрываўленым крыллем, кружыўся вакол прыгажуні, ляскаў далонямі па халявах, войкаў, эхкаў, якатаў, пайшоў упрысядкі, а цыганачка плыла па крузе, як лебядзіныя шыі, згіналіся яе смуглявыя рукі. Гэта быў не танец, а размова двух гарачых сэрцаў — стрымана-разважлівага, ганарлівага, з падкрэсленай недаступнай годнасцю і шалёнага ў няўрымслівай пагоні. Яно, здавалася, крычала, дамагалася неадкладнага водгуку на палымяны тэмперамент. А дзявочае, стрымліваючы прытоены жар, некуды клікала плаўнымі павевамі пяшчотных рук, засланялася вузкімі далонькамі, адмахвалася і вабіла да сябе. Гэта быў танец пачуццяў, размова без слоў.

Наўкруг стаялі і ляскалі ў такт цыганы і цыганкі. Над імі ўзвышаўся старэйшына табара дзед Даніла ў старым капелюшы, з-пад смольных кудзераў з павуцінкамі сівізны паблісквала вялікая завушніца, вусы звісалі ніжэй падбародка, арліныя вочы ад бляску полымя наліліся чырванню. На ім — чорны аксамітны сурдут, на расшпіленай кудлатай грудзіне блішчыць залаты медальён, а погляд адсутны, нібы ён тут і не тут, бачыць танец, а думае пра сваё, можа, і сябе ўспамінае такім жа маладым, і сваю каханую, пахаваную недзе край дарогі. І магіла згубілася, і табар ні разу не трапіў на тыя гасцінцы, і могілак цыганскіх нідзе не было. А можа пра нешта іншае думаў дзед Даніла.

Маладзіцы трымалі на руках мурзатых цыганят, большыя дзеці круціліся каля танцораў, прытупвалі ў лад музыцы, пускаліся ўпрысядкі. У вачах маладых і старых успыхвалі іскры, спякотным бляскам пераліваліся чырвоныя і жоўтыя атласныя кашулі на белазубых кучаравых цыганах. У крузе танцавала зусім маладзенькая, гнуткая і статная Рута. Можа гэта быў яе першы танец на людзях. У абліччы і ў характары Руты было мала цыганскага: светлы твар, шэрыя вочы, цёмна-русыя з падпалінамі валасы. Можа гэта выклікала сумненні ў табары, але Рута была яго аздобай.

Цыганы гэтае месца ўпадабалі даўно, і я Руту прыкмеціў з першай сустрэчы. Яна была негаваркая, сарамяжная, ніколі нічога не выпрошвала, не набівалася варажыць,— хадзіла па хатах са сваёю маці, гаваркою, але не нахабнаю, у самым цвеце цыганкаю Кацярынаю. Яны ніколі не міналі нашу хату. Заходзілі як добрыя знаёмыя. Кацярына расказвала маёй маме пра свае вандроўкі па Украіне і Волзе, па сёлах Случчыны і Любаншчыны. У Ніжыне і Пластку пад Любанню яны заўсёды зімавалі.

Рута моўчкі сядзела на ўслончыку, паклаўшы вузкія зграбныя рукі на калені. З-пад шырокіх спадніц вытыркаліся запыленыя маленькія ножкі з ружовымі пазногцікамі, на стане напінаўся расшыты блёсткамі тугі кабацік. Пакуль гаварылі жанкі, яна маркотна пазірала ў акно, а то падыходзіла да сцяны і разглядала малюнкі на адрыўным календары. Мама не давала ім кавалкаў, а запрашала за стол і, як гасцей, частавала.

Калі Кацярына з дачкою заходзілі да нас, у мяне пачынала часцей стукаць сэрца, я губляўся, апускаў вочы, ненатуральна мітусіўся і крадком аглядаў дзяўчыну ад малюпасенькіх пальчыкаў босых ног да хвалістых валасоў, пранізаных сонцам. На дарогу маці давала Кацярыне пару сухіх гомалак і ладны акраец хлеба. Тая далікатна аднеквалася, і падаянне знікала ў нейкіх патаемных кішэнях.

На змярканні я хадзіў да цыганскіх вогнішчаў. Слухаў працяжныя сумныя песні, глядзеў, як у вялікіх казанах паруе вячэрняе варыва, як дурэюць і скачуць галапузыя цыганяты, а часцей непрыкметна спыняўся каля Кацярынінага шатра, глядзеў, як Рута, падкурчыўшы ногі, падграбае ўкрытае белым прысакам вуголле пад трыногаю, а на ёй у закураным кацялку булькае засвараны кулеш. Мы часам гаворым з ёю. Пра што? Так, ні пра што — дзе была, што бачыла, куды збіраецца заўтра, а ці зойдзе да нас, спытаць не адважваўся. Калі пад гітару і скрыпку тужліва запяюць каля суседняга вогнішча, пытаўся, пра што тая песня.

— Табе рана пра гэта... Пра каханне і пра здраду пяюць.

— А табе хіба не рана?

— Я дзеўчына. Мне пара чакаць нарачонага. У нас рана замуж аддаюць,— сумна гаворыць Рута. Мне шкада яе і зайздросна таму, хто возьме яе ў жонкі, такую ладную, статную і ласкавую. Ён недзе тут, у табары.





— Гэта ты з ім танцавала?

— Не ведаю. Можа і з ім,— загадкава ўсміхаецца Рута і маўчыць. Каб толькі нешта казаць, пытаюся:

— А ты ўмееш чытаць? — Яна адмоўна круціць галавою. Мне аж не верыцца, што такая дзяўчына і не ўмее чытаць.

На другі дзень я прынёс у табар паэму Пушкіна «Цыганы». Каля вогнішча Кацярына мясіла жытняе цеста на праснакі, раскочвала яго і кідала на гарачую патэльню. Руцін бацька, сухі, чорны, як галавешка, цыган хутаўся ў старую кажушную безрукаўку, а яго доўгія худыя рукі бездапаможна ляжалі на каленях падкурчаных ног. Рута скубла курынае пер'е. Я павітаўся.

— О, каго бачу! Хадзі да шалаша, адагрэецца душа. І павячэраеш з намі,— запрасіла Кацярына. Я засаромеўся, патаптаўся, але сеў бліжэй да агню. На захадзе згасла залаціста-чырвоная паласа, на ружавата-зялёным небе выбліснулі першыя зоры, у суседніх шалашах чулася прыглушаная гамана, плач дзяцей, іржанне і тупат коней на ўзлессі. Руцін бацька спытаў, што ў мяне за скрутачак. Я разгарнуў кніжку і сказаў, што ў ёй вельмі складна напісана пра цыганоў.

— А хто і што можа пра нас ведаць? — не паверыў цыган.

— Пушкін,— адказаў я і паказаў партрэт.

— Дай, дай сюды,— цыган сухімі пальцамі ўзяў кніжку, паглядзеў зблізку, потым здалёк, пакруціў так і гэтак.

— Дык ён жа цыган. Палянь, Каця. Хіба не? Выліты Епіфан. Зірні, Руціца.

Я запярэчыў, што прадзед Пушкіна быў з Афрыкі.

— Дык і ў той Ахрыцы, думаеш, нашага брата бракуе? Дзе нас толькі няма! Чытай. Палядзім, цыган ён ці не.

Я прысунуўся бліжэй да вогнішча, побач сядзела Рута. Чуўся пах яе прадымленай і прапацелай сукенкі, рассыпаных па плячах валасоў. Ад святла вогнішча яны здаваліся то залацістымі, то чырвонымі. Я пачаў павольна, потым гучней і выразней вымаўляў кожнае слова. Усе прыціхлі, толькі сіпела патухлая люлька цыгана. Калі я дайшоў да радкоў

**«Огни везде погашены.**
**Спокойно всё: луна сияет**
**Одна с небесной вышины**
**И тихий табор озаряет.**
**В шатре одном старик не спит;**
**Он перед углями сидит,**
**Согретый их последним жаром,**
**И в поле дальнее глядит,**
**Ночным подёрнутое паром»,**

Рута цёмнай далонькай змахнула слязінку, а бацька перабіў мяне:

— Ану, пакажы яшчэ,— узяў з рук кніжку, доўга глядзеў на партрэт, вярнуў мне.— Складна напісаў. Відаць, усё ж цыган ён. Можа ўкраў яго той фрыканец. Чаго толькі не бывала!

Я і не заўважыў, як пападыходзілі суседзі. Яны стаялі моўчкі і чакалі, калі пачну чытаць далей.

Калі дачытаў паэму, дагарэлі кастры, замоўк табар. Рута сядзела, нізка апусціўшы галаву. Я развітаўся, адышоўся і азірнуўся. Яна заграбала пад трыногаю жар. З бярозавых прысад павольна зрываліся і падалі мне на твар халодныя расінкі, пад святлом поўнага месяца над жытам плыў зеленаваты туман.

Каб не будзіць маму, я спаў у гумне на лапіку леташняга сена. Лёг, укрыўся посцілкаю, але доўга заснуць не мог: праз шчыліны ў даху і няшчытных варотах сачылася месячнае святло, сухія сянінкі казыталі шыю і твар, у вушах стаяў камарыны звон, а ў вачах усё яшчэ дагарала вогнішча, сядзела задуменная Рута, кехкаў яе бацька. Я паварочаўся і выйшаў з гумна. Над полем гайдаўся зеленаваты туман, на схіле неба пачырванеў месяц. Здалося, што ў свеце я адным-адзін, і стала горна да слёз.

Табар з'ехаў нечакана. Я схадзіў на тое ўзлессе. На кастрышчах ляжалі астылыя галавешкі, вецер разносіў шэры попел, перацёртую салому, валяліся каляровыя стужкі старызны ды ўсеяныя жукамі конскія яблыкі. На месцы Руцінага шатра была толькі пажоўклая выкачаная трава.

Сяргей **ГРАХОЎСКІ**



Малюнак Анатоля **АЛЕКСАНДРОВІЧА.**

□□□

На другую вясну надвячоркам пацягнула дымком з таго цыганскага ўзлесся. Хацелася збегаць, паглядзець, але стрымлівала боязь: а што, калі Рута ўжо перайшла ў другі шацёр, да таго кудлатага цыгана, а то, чаго добрага, ужо і цыганятка носіць за спінаю. Узлез на плот, паглядзеў на дымкі над вогнішчамі, на белыя і шэрыя шатры за хвалістаю сцяною зялёнага жыта.

У першыя дні да нас ніхто не заходзіў: разбрыліся цыганкі па шляхецкіх засценках, цыганы конна гарцавалі з кірмашу на кірмаш, у табары млява ляпалі кволыя лудзільшчыкі ды плакалі дзеці. Я часам даходзіў да табара, а зайсці не адважваўся, спадзяваўся, што Рута з маткаю не абмінуць нас.

Спякотным днём я прывёз воз жэрдак і заскочыў у хату напіцца ад смагі вады. На табурэце насупраць мамы сядзела змізарнелая, з густою сівізною ў валасах Кацярына, на ёй была чорная сукня і гаматны запылены мужчынскі пінжак. На маміных шчоках відны равочкі ад слёз. Я ціха павітаўся, бо адчуў нешта нядобрае, зачарпнуў карэц, Кацярына зірнула на мяне запалымі вачамі і заплакала ўголас.

— Няма, дзеткі, маёй Руціцы, няма маёй ясачкі. Яна ж, бедненькая, усё ўспамінала тую кніжачку, што ты чытаў, усё прасілася вучыцца і часта прыгаварвала нешта з тых сцішкоў.

Я нічога не зразумеў з яе гаворкі, але адчуў, што стрэслася нешта страшнае і непапраўнае. Каўтнуў глыток вады і паставіў недапіты карэц.

— Ідзі, сынок, распражы кабылу, каб здракі не секлі,— выціраючы вочы, сказала мама,— я табе потым усё раскажу.

Я выйшаў з хаты, пазганяў дубцом з кабылы авадnёў і сляпнёў, распрог яе, адвёў у стайню, пачаў зносіць у штабель жэрдкі, а спакою не давала адна думка, што ж стрэслася з Рутаю. На ганку з мамаю развітвалася Кацярына, але не пайшла на вуліцу, а павярнула ў двор, каб загуменнем выйсці на лугавую сцежку, што вяла ў суседні пасёлак.

Калі цыганка параўнялася са мною, я на паўдарозе кінуў жэрдку, выцер аб штаны засмоленыя рукі, перагарадзіў сцежку і, запінаючыся, спытаў.

— Скажыце мне праўду. Што з Рутаю?

Яна памаўчала, акінула мяне поглядам знізу ўверх і ціха загаварыла:

— Ой, хлопча, хлопча, колькі яшчэ на зямлі лютасці і злосці, не прывядзі гасподзь. І гром іх не паб'е, і бог не пакарае.— Памаўчала яшчэ, відаць, думала, як пачаць. Я тады не разумеў, як цяжка маці гаварыць пра сваё гора і як трэба берагчы матчыны сэрцы.

Кацярына загаварыла, павольна, запінаючыся, і пачала здалёк:

— Зімавалі мы ў Загаллі. Ведама, хадзілі па сёлах і неяк карміліся каля добрых людзей. Стары мой вялы саўсім, нягеглы і нядужы. Я часцей аставалася пры ім. Па сёлах пайшла Руціца. Сарамлівая яна была, цыганскага ў ёй было мала, але людзі спагадалі ёй, і ніколі з пустою торбаю не прыходзіла, хлеб давалі, а пасля каляд і скваркай скароміліся. Ужо і на весну павярнула, дні пабольшалі, снег памякчэў. Пайшла мая Руціца варажыць у Язмін: дзевак там на выданні, не раўнуючы, як на кірмашы. Кожнай карціць. адкуль сватоў чакаць. Дачушка мая і суцяшала іх. Пайшла зранку. Змяркацца пачало, а яе ўсё няма. Трывога нейкая навалілася. Ужо і зоры высыпалі, а Руты ні слыху ні дыху. Такога зроду не было. Тая ноч мне за год сцяглася, вочы, няйначай, пяском засыпалі. Яшчэ і не вывіднела, паляцела я ў той Язмін: у адну хату, у другую. Была,— кажуць,— маладзенькая цыганачка, складна так варажыла і пабегла з сяла яшчэ завідна.

Дарогі тае ад сілы вярсты чатыры, а то і меней. На нагу яна была порсткая. Тут маё сэрца і ўпала. Ваўкі, думала, напалі: круцілася ж тут не адна гайня пасля піліпаўкі. Зблудзіла — суцяшаю сябе, але каб і хацеў, са сцежкі нікуды не звернеш, снег вунь які. Лясок — заяц у тры махі пераскочыць. Бегала я па ім, гукала, галасіла, па сумётах грузла — нідзе ні слядочка.— Кацярына шморгала носам і выцірала непаслухмяныя слёзы. Я стаяў аслупянелы.

— Так і не знайшлі? — не вытрываў я.

— Знайшлі, дзеткі, знайшлі. Лепш бы не бачыць, што з ёю зрабілі. Яна ж была, як лялька, і ты ж прыходзіў паглядзець на яе,— зноў замоўкла Кацярына. Відаць, самае страшнае сказаць было вельмі цяжка. Стаяла яна чорная, як здань, сцяўшы асмужаныя шурпатыя вусны, з поўнымі вачамі слёз.

— Два ірады, браты родныя, дзікія, як ваўкі кручаныя, запынілі яе, няшчасную, у лесе, скруцілі ручанькі паяском, знушчаліся з яе, як хацелі, рот хусцінкаю заткнулі, каб не крычала. А як нацешыліся, пабаяліся, каб не выказала, дык данеслі да рэчкі і ў пельку спусцілі пад лёд. За ноч мяцеліца зараўняла сляды, і — ні знаку. А мы ўсім табарам і кансамольцы з намі каля тыдня лазілі па лесе,— і нічагусенькі.

Толькі пад вясну вятры пазганялі з рэчкі снег, пад чыстым лёдам, як пад люстрам, убачыў яе наш хлопец. Адзін ён не пераставаў шукаць — ездзіў конна, дапытваўся ў людзей, хадзіў, як тручаны, і выхадзіўтакі на бяду сабе і на гора нам.

— Епіфан? — спытаў я.

— А табе адкуль знаць? Праўда, Епіфан. Высах ён, як тычка... Па тым паяску пазналі, хто яе са свету звёў. Тыя два ваўкалакі родныя ўсю зіму туляліся па лясах ды адзінокіх футарах. Бацькоў іх у Сібір саслалі, а сыны ўцяклі з таго кулацкага абозу. Цяпер іх шукалі не толькі мы, уласці шукалі: грэх убіўцам дараваць — пралітая кроў не дазволіць. І знайшлі-такі ірадаў аж недзе пад гэтым, як яго? Дай бог памяць, пад Чарнігавам аж. А судзілі ў Любані. Народу найшло, як у царкву на вялікдзень. Ваўкалакі тыя толькі нешта мармыталі і не адпіраліся. Людзі хацелі самі з імі каламі рашчытацца, дык міліцыя не дала. Я толькі паспела плюнуць у іх азвярэлыя хары. От так, дзеткі,— уздыхнула Кацярына,— няма нашай Руціцы, анёла нашага.

У мяне адняло мову, я не ведаў, што можна сказаць.

— А ты не цурайся. Прыходзь да нас, і тую кніжачку прынось, пачытаеш. Рута любіла яе. Ну, я пайшла.

Кацярына лёгка пераскочыла пералаз, збегла ў нізіну і праз некаторы час знікла ў алешніку. Я доўга глядзеў ёй услед, а ў табар болей не пайшоў. Заплюшчу вочы і бачу жывую Руту то ў шалёным танцы, то маўклівую і журботную каля вогнішча на тым колішнім цыганскім узлессі.

**Сяргей НОВІК-ПЯЮН**

# ЯДВІСЯ ЖЫЛА Ў СЛОНІМЕ

АБРАЗОК

У 1923 годзе ў Вільні ў Віленскім беларускім выдавецтве В. Клецкіна ўпершыню асобным выданнем выйшла аповесць Тараса Гушчы (Якуба Коласа) «У палескай глушы».

Адна з галоўных гераінь аповесці Ядвіся — не выдуманая, а рэальная асоба. Пра гэта я даведаўся ў Слоніме ў ліпені 1936 года ад паэта-нашаніўца Гальяша Леўчыка, з якім сябраваў.

Аднойчы Гальяш Леўчык спытаў мяне:

— А ці ведаеш, Сяргей, што ў Слоніме жыве Ядвіся, тая Ядвіся, аб якой піша Якуб Колас «У палескай глушы»? Прозвішча яе Бараноўская, а жыве яна ў доме на ўзгорку насупраць Ражанскага магільніка. У «Нашай ніве» яна друкавала свае вершы, падпісваючыся псеўданімам Юстына.

Я быў чалавек «паднаглядны». І таму мне даводзілася наведвацца ў Слонімскі магістрат на рэгістрацыю. І неяк у тым жа ліпені 1936 года да мяне падышла высокая, стройная кабета ў чорным паліто і капелюшы, з-пад якога спадалі пасмы сівых валасоў. Адчувалася, што яна была некалі прыгожая.

Кабета з ветлівай усмешкай прывіталася:

— Добры дзень! Я — Ядвіся!

Я запытальна глядзеў на яе.

— Але, але! Я тая Ядвіся, аб якой напісаў Якуб Колас у сваёй аповесці «У палескай глушы». Мы сябравалі. Якуб Колас і я друкавалі вершы ў «Нашай ніве», я свае падпісвала псеўданімам Юстына. Мне пра вас расказваў Гальяш Леўчык. Маё прозвішча Бараноўская.— І яна паціснула мне руку.

Да яе падышла маладая настаўніца.

— Гэта мая дачка,— пазнаёміла мяне Бараноўская.

Месца для гутаркі было неадпаведнае. На развітанне яна сказала:

— Калі ласка, заходзьце да нас! Гальяш казаў, што даў вам наш адрас.

Праз некалькі дзён я наведаўся да Ядвісі. Яна паказала мне гадавік «Нашай нівы» з сваімі вершамі.

А калі вясною 1961 года мне давялося быць у Слоніме і я прыйшоў у дом Бараноўскай, мне сказалі, што яна з дочкамі ў 1945 годзе выехала ў Польшчу.

28 лістапада 1978 года я быў у Слоніме, прайшоў па завулку Дастаеўскага (былы Цвінтарны) і спыніўся каля дома № 8, у якім жыла Ядвіся. З суседняга дома выйшаў сівы стары чалавек, які назваўся Міхаілам Пятровічам Юхновічам. Ен сказаў:

«Я добра ведаў суседку Ядвігу Бараноўскую». І дадаў: «Яна ўсё літаратурай займалася, пісала».

Я меў гадавік «Нашай нівы» за 1909 год, які ў 1961 годзе перадаў у Літаратурны музей Янкі Купалы.

27 лістапада 1983 года я наведаў музей Янкі Купалы. Захавальніца фондаў музея пляменніца Янкі Купалы Ядвіга Юльянаўна Раманоўская падала мне падараваную мною падшыўку «Нашай нівы» за 1909 год, і я перапісаў верш Юстыны. Вось ён:

Хто жыве на гэтым свеце
Толькі розумам чужым,—
Век на повадзе праходзіць,
Не пацешыцца ні ў чым.

Ня ўсё можна людзям верыць,
Праўдай толькі трэба жыць;
Мусіш дзесяць раз адмерыць,
Покі што пачнеш рабіць.

ЮСТЫНА.

Жэрэбілоўка.

Як склаўся далейшы лёс Ядвісі, не ведаю.

Фота Валянціна **ЖДАНОВІЧА.**

Мінскі касцёл бернардзінак.
17—18 стст.



СТАРАЖЫТНАЕ
ДОЙЛІДСТВА
БЕЛАРУСІ

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| 29 | 30 | | | | | |

**ВЕРАСЕНЬ**

Беларусь



АШ
ВЕРНІСАЖ

# ТВОРЫ БЕЛАРУСКІХ МАСТАКОЎ



Васіль ЯСЮК. Абсяг.





Алесь КІШЧАНКА. Мелодыя.



Мікалай КІРЭЕЎ. У купалаўскім краі.

# ТРЫ ГРАЦЫІ

Фларэнтыйскі жывапісец Сандра Батычэлі — адзін з самых праслаўленых майстроў эпохі Адраджэння. Італьянскія гуманісты неаднойчы падкрэслівалі пераемную сувязь культуры свайго часу з антычнасцю — адсюль і назва эпохі, якая пазначала адраджэнне менавіта антычнай культуры. Адметная рыса часу — сцвярджэнне абсалютнай веры ў чалавека, у яго неабмежаваныя магчымасці, яго непараўнальную прыгажосць. Надзвычай важную ролю пачынае іграць выяўленчае мастацтва, у многім апярэджваючы развіццё навукі, літаратуры, тэатра. Па словах Ф. Энгельса, «гэта быў найвялікшы прагрэсіўны пераварот з усіх перажытых да гэтага часу чалавецтвам, эпоха, якая мела патрэбу ў тытанах і якая парадзіла тытанаў па сіле думкі, пачуцця і характару, па шматбаковасці і вучонасці».

Тытанамі смела можна назваць сучаснікаў Батычэлі — Леанарда да Вінчы, Мікеланджэла Буанароці і Рафаэля Санці, якія склалі славу Высокага Адраджэння (канец XV — першая трэць XVI стст.), самага бліскучага перыяду эпохі. Творчасць самога Батычэлі не вызначалася такой шматграннасцю, хоць і ён быў па-свойму універсальным майстрам: займаўся манументальным і станковым жывапісам, станковай і кніжнай графікай, распрацоўваў свецкія, алегарычныя і рэлігійныя сюжэты. І ўсё ж менавіта Батычэлі як ніхто іншы тонка адчуў і перадаў духоўны сэнс сваёй эпохі. Складаная адухоўленасць, чалавечнасць яго твораў яскрава перадае гуманістычныя імкненні Рэнесанса.

Алесандра ды Марыяна ды Вані ды Амедэа Філіпепі (такое сапраўднае поўнае імя мастака) нарадзіўся ў Фларэнцыі ў сям'і гарбара Марыяна ды Джавані ў 1444 ці 1445 годзе. Пасля смерці бацькі яго выхаваннем займаўся старэйшы брат Джавані Філіпепі, біржавы маклер, таўстун і весялун. Мянушка брата — Батычэла, гэта значыць «бочачка», дасталася ў спадчыну і прыгажуну Сандра. Хлопчык рос хвараватым і ў той жа час эксцэнтрычным, капрызным да дзёрзкасці. Ён быў на рэдкасць (для сына рамесніка) начытаны... Гэтыя няроўнасці характару захаваліся на ўсё жыццё. Надзвычай рана праявіліся ў яго мастацкія схільнасці.

Сёння мы гаворым «Фларэнцыя Батычэлі»; у XV стагоддзі гаварылі — «Фларэнцыя Медычы», бо гэтым багацейшым і прыгажэйшым горадам Італіі на працягу многіх дзесяцігоддзяў правіла ўсемагутная сям'я Медычы. Багатыя банкіры, яны былі і мецэнатамі. У часы Батычэлі на чале ўсяго культурнага жыцця Фларэнцыі знаходзіўся Ларэнца Медычы, за раскошу двара названы Ларэнца «Пышны». Ён наблізіў да сябе многіх мастакоў, паэтаў, філосафаў, адкрыў для ўсеагульнага агляду свае вялікія мастацкія калекцыі, натхняў і дапамагаў развіццю новага свецкага мастацтва. Пры двары Медычы выспявала своеасаблівая вытанчаная культура, прасякнутая жывой цікавасцю да антычнасці, да рыцарскай гатычнай традыцыі, інтэрпрэтаванай у сучасным духу.

Сандра Батычэлі называлі самым «медычыйскім» з усіх фларэнтыйскіх мастакоў, настолькі поўна перадавала яго палітра атмасферу мастацкага жыцця таго часу. Асабліва характэрныя ў гэтым сэнсе дзве яго славутыя карціны — «Вясна» і «Нараджэнне Венеры». Абедзве яны прасякнуты светлай радасцю быцця і ў той жа час поўныя нейкага затоенага смутку; у абедзвюх выразна праяўляецца ўплыў антычнай культуры і адчуваецца настальгія па мінулай готыцы; абедзве яны ўяўляюць новы тып сапраўды рэнесанснай карціны «вялікага стылю».

Карціна «Вясна» была напісана ў 1478 годзе і лічыцца першай майстэрскай работай Батычэлі. Яна прысвечана багіні Венеры, заступніцы прыроды і хараства. Вакол гэтай цэнтральнай фігуры — Грацыі, Меркурый, Амур, Флора, Вясна, Зефір. Сюжэт карціны не зусім зразумелы. Мяркуюць, што ён навеяны творамі паэта Паліцыяна, які таксама належаў да кола Медычы. Напэўна, алегарычная тэма і сама атмасфера карціны падказаны тымі пышнымі ўрачыстасцямі, якімі славіўся двор мецэната. Мастацтвазнаўцы да гэтага часу спрачаюцца наконт персанажаў: адны з іх лічаць створаны вобраз юнай жанчыны ў белай сукенцы, усыпанай кветкамі, Флорай — багіняй расліннага свету, іншыя называюць яе Вясной... Адны бачаць у персанажы з крыламі, які даганяе жанчыну ў празрыстым убранні, Зефіра, іншыя — Барэя. ...Адны гавораць пра ўздзеянне Паліцыяна, іншыя ўспамінаюць пра Лукрэцыя і Авідзія. Але, так ці інакш, у наяўнасці галоўная задума твора — паказаць вясеннняе цвіценне жыцця.

Батычэлі змяшчае сцэну ў нейкі змрочны гай, акружае светлыя фігуры цёмнымі ствааламі. На дрэвах спеюць дзівосныя плады, дол усыпаны кветкамі, героі маладыя і прыгожыя... Аднак уся карціна напоўнена якімсьці пакутлівым смуткам. Ён — у задумлівых тварах без усмешкі, у скаваных жэстах, у далёкім светлым небе, што свеціцца між дрэў, небе без гарызонта і перспектывы, у халоднай змрочнай колеравай гаме. Персанажы карціны не звязаны агульным дзеяннем, кожная фігура і група замкнёны ў сабе і ўспрымаюцца самастойна. Важнае месца ў кампазіцыі адведзена Грацыям. Іх лёгкія высокія фігуры рухаюцца ў бясконцым танцы. Вясенні вецер надзімае празрыстыя і бязважкія тканіны іх адзення. Залацістыя сілуэты добра чытаюцца на цёмным фоне травы. Уся група вылучаецца рэдкай музычнасцю. Пры ўсёй розніцы рыс твару, прычосак, касцюмаў Грацыі ўсё-такі вельмі падобныя — гэта як бы варыяцыі аднаго аблюбаванага мастаком жаночага тыпу — выцягнутыя прапорцыі фігур, якім S-падобны гатычны выгін надае асаблівую кволасць, юныя сумныя твары, абрамленыя цяжкімі пасмамі светлых валасоў, якія віюцца, зграбныя жэсты прыгожых рук. Здаецца, што фігуры лунаюць над зямлёй, яны ледзьве кранаюцца яе і як бы злёгку перабіраюць нагамі, каб утрымліваць гэтую хісткую раўнавагу. Неспакойны рытм складак узмацняе пачуццё трывогі, якое выпраменьвае карціна. Здаецца, павее зараз халодны вецер ранняй вясны, падхопіць гэтыя бязважкія постаці, і не застанецца ад усеагульнай гармоніі і следу... Своеасаблівасць душэўнай інтанацыі абумоўлена ўсім душэўным складам Батычэлі, неардынарнасцю яго характару і трагічнасцю лёсу. Ды і сама атмасфера Фларэнцыі канца XV стагоддзя, у якой за вонкавым бляскам угадвалася няўпэўненасць у заўтрашнім дні, спрыяла ўзнікненню маляўнічых міражоў.

«Тры Грацыі» — адзін з самых улюбёных сюжэтаў у сусветным выяўленчым мастацтве. Многія майстры звярталіся да яго і, у залежнасці ад нацыянальных, стылістычных і іншых асаблівасцей, па-рознаму ўвасаблялі свае ўяўленні аб Прыгажосці, Жаноцкасці, Маладосці. Пазбаўленую лёгкасці простанародную прыгажосць Грацый Рубенса нельга зблытаць з вытанчанасцю форм Кановы, едкую насмешку Пікасо — з чароўнай паэтычнасцю Батычэлі... «Тры Грацыі» Сандра Батычэлі па праву лічацца адной з вяршынь творчасці мастака, гэтаксама, як і ўся карціна «Вясна» ў цэлым...

Батычэлі памёр у 1510 годзе ў Фларэнцыі. Жывапісец, які меў вялікую славу і поспех у маладосці, завяршыў жыццё ў невядомасці і адзіноцтве. Яго творы былі забыты, і толькі ў XIX стагоддзі яны «загучалі» зноў. Ідэал цудоўнага, створаны Батычэлі, цалкам адпавядае нашым сённяшнім уяўленням аб прыгажосці. Персанажы яго карцін, нягледзячы на ўсю гістарычную аддаленасць, здаюцца нам жывымі, пазнавальнымі. Праблемы, якія хвалявалі мастака, а гэта вечныя праблемы Дабра і Зла, Жыцця і Смерці, Цудоўнага і Агіднага, застаюцца актуальнымі і сёння. Сіла і абаянне мастацтва Батычэлі — у яго трапяткой шчырасці, паэтычнасці, якія дазволілі перадаць усю складанасць узаемаадносін мастака са светам. А гэтая складанасць, непасрэднасць, выразнасць адносін не могуць не хваляваць людзей і ў наш няпросты час.

**Рабіга КАРАВУЛАВА.**

**На каляровым здымку: «Тры Грацыі». Фрагмент карціны С. Батычэлі «Вясна».**

**Фота Георгія ЛІХТАРОВІЧА.**



# КУЛЬТ СОНЦА

**ШТРЫХІ ДА ТВОРЧАГА ПАРТРЭТА ДРАМАТУРГА АЛЯКСЕЯ ДУДАРАВА**

Аляксей Дудараў — тэатральны пісьменнік вядомы, прызнаны і модны.

Мода на тэатральнага пісьменніка — з'ява радасная, бо менавіта папулярнасці не стае нашаму тэатру. «Мода на Дударава» здзіўляе, бо п'есы ягоныя кідкіх навацый пазбаўлены, а іх героі «старамодныя» быццам знарок.

Герояў гэтых — Дзерваеда і Буслая, Мульціка і Дробава, Саляніка і Драгуна, Ганну і Аліну — сёння іграюць акцёры ў шматлікіх тэатрах краіны, як кажуць, «ад Буга да Курыл». П'есамі Дударава беларуская драматургія дэбютавала на славутых сцэнах «Дома Астроўскага» і ленінградскага Вялікага драматычнага. У ліку стваральнікаў купалаўскага спектакля «Радавыя» пісьменнік удастоены Дзяржаўнай прэміі СССР.

...А да юбілею — яшчэ далёка. Бліжэй адвандраваць у той час, калі быў Аляксей Дудараў выпускніком тэатральнага інстытута, пачаткоўцам на сцэне і пачаткоўцам у літаратуры. Тады і нарадзілася апавяданне «Цынічны профіль» — гісторыя пра тое, як вясковага хлопца запрасілі здымацца ў кіно. Апранулі ў форму фашысцкага афіцэра і прапанавалі перад вокам кінакамеры ўдарам наваксаванага бота адфутболіць бохан хлеба, які згубілі на дарозе бежанцы. Здавалася б, чаго прасцей, ды вось не здолеў Грышка з «цынічным профілем» збэсціць святыню, хоць і не ведаў, што менавіта так завецца ягоны ўчынак...

Згаданае апавяданне — з першага дудараўскага зборніка «Святая птушка». Я нават не ўпэўнены, ці лепшае гэта апавяданне ў кніжцы. Ды нават у ім адчувальнае аўтарскае ўменне прыкмеціць жыццёвую сітуацыю, выявіць канфлікт, глыбока суперажываць героям, імкненне спазнаць іх боль, акрэсліць той парог сумленнасці, праз які немагчыма пераступіць. Рысы гэтыя, у спалучэнні з дакладным веданнем і тонкім успрыманнем законаў сцэны, шмат у чым вызначылі творчае аблічча Дударава-драматурга, аўтара п'ес «Апошні ўзлёт», «Выбар», «Парог», «Вечар» і «Радавыя».

...Падбіты савецкі бамбардзіроўшчык. На зямлі экіпаж абараняўся, як мог, але трапіў ў фашысцкі палон. У засценку адбываецца дзеянне драмы «Апошні ўзлёт» — паядынак паміж нашымі лётчыкамі і гестапаўскім следчым.

...Дзень сённяшні. Вайсковыя манеўры. Па горнай дарозе імчаўся танк. Злева скала, справа — бездань, на дарозе раптам з'явіўся хлапчук. Баявая машына, скіраваная чалавечай рукою, рэзка прыняла ўправа... Паміж жыццём і смерцю героі атрымліваюць слова, спрабуюць вытлумачыць свой выбар.

...Нехта Бэра, нікчэмны п'янчужка, апрануў чужы палітон і пайшоў па бутэльку. Назад не вярнуўся — замерз у гурбе снегу. У кішэні знайшлі пашпарт з вясковай прапіскай, выдадзены на імя Андрэя Буслая. Сам бяспашпартны Буслай, галоўны герой «Парога», ледзь таксама не зведаў лёс свайго хаўрусніка, ды, выратаваны добрым чалавекам, адагрэецца ў нейкім дзіўным доме.

...Вечаруюць у вёсцы Вежкі два дзяды і адна бабка. Радуюцца і смуткуюць, сварацца, мірацца і нават ходзяць у сваты. Яшчэ — чакаюць. А больш нічога, здаецца, у драме «Вечар» не адбываецца.

...Апошні бой, апошняя атака, апошняя сустрэча з баявым сябрам, апошні стрэл... «Радавыя» — п'еса пра тое, як пражылі апошнія дні Вялікай Айчыннай пяцёра салдат.

Пяць дудараўскіх п'ес... Умовы драматургічнага дэбюту ў параўнанні з літаратурным больш жорсткія — першая спроба не карысталася папулярнасцю і, думаецца, справядліва. «Выбар», пастаўлены на сцэне Рэспубліканскага ТЮГа, таксама не меў поспеху і адкрыўся нашаму гледачу ў спектаклі гастраліруючага ў Мінску ТЮГа кіеўскага. П'есы «Парог», «Вечар», «Радавыя» хутка і смела заваявалі тэатральныя падмосткі краіны. Зірніце ў рэпертуарныя зводкі — творы беларускага драматурга лідзіруюць і па колькасці пастановак, і па сабранай глядацкай аўдыторыі; разам з іншымі добрымі п'есамі далёка адкінулі заўсёдныя «шлягеры». Маскоўскія тэатралы ходзяць «на акцёра» — Ю. Сцяклова, які ў спектаклі Тэатра імя Станіслаўскага «Парог» выконвае ролю Буслая. Набраў моцы «Вечар», «хітра» напісаны на тр[illegible] паважанага веку акцёраў і выдатна ўвасоблены сярэднім пакаленнем коласаўцаў. Да 40-годдзя Перамогі амаль кожны трэці драматычны калектыў краіны паставіў «Радавых», незвычайнай сілы рэквіемам прагучаў гэты спектакль на акадэмічнай купалаўскай сцэне. Чарга дайшла і да «Апошняга ўзлёту» — тэатры, не маючы новых «паступленняў», узяліся за архіў драматурга...

Сцэнічнае спасціжэнне свету п'ес Дударава і рэпертуарная «мода на аўтара» ідуць побач, адно аднаму не замінаючы.

З часу «Святой птушкі», адкуль пачаўся «радавод» дудараўскіх герояў, пісьменнік крочыць звычным шляхам. Свядома — у адным з інтэрв'ю прызнаецца: «Я не думаю, што драматург у кожнай п'есе адкрывае нешта новае». Сапраўды, не навіна — яшчэ раз нагадаць чалавеку: «Ты — добры». Гэтым займалася не адна тысяча літаратараў, сярод якіх быў дзесятак выдатных

□ **Аляксей Дудараў з артыстамі-купалаўцамі, удзельнікамі спектакля «Радавыя».**

**Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ.**

майстроў. А шлях усё бяжыць і бяжыць за небакрай... Куды?

Ты добры, я добры, усе мы — добрыя. Дзе ж яно, доўгачаканае царства ўсеагульнай любові і спагады? Адкуль грэх, мана, звады? Гаючыя «пілюлі» хараства не ўсім па кішэні, ёсць больш танны прафілактычны сродак — не страчваць пачуццё рэальнасці. Ніхто не хоча быць падманутым і абяззброеным. Маралістыка раздражняе, адмоўная на яе рэакцыя — цынізм. Напэўна, ёсць каліва горкай праўды ў тырадзе Гастрыта з п'есы «Вечар»? Паслухайце: «Што за народ?! Б'юць іх — добра, апошняе адбіраюць — хай, дзеці забыліся — так трэба, смерць у вочы глядзіць — заходзь, любая, чарку дам! Лапухі! Увесь век перад усім і ўсімі гнуцца, скараюцца!»

І наўрад ці толькі абурэннем адгукнёмся мы на «сюжэцік», расказаны Буслаем,— як ніводзін з соцень прахожых не падышоў да чалавека, што ціха сканаў на лаўцы сярод гарадской мітусні. Жыццёвы «сюжэцік»... І злосць Буслая на невядомага нам казачніка Пакутовіча таксама ў нейкі момант ці не падзелім? «Дзе ж ваш гаспадар?!» — няхай бы крэмзаў свае казачкі, ды не лез людзям у душу, сектант. Не-не, падмену мы, вядома, адчуем амаль імгненна,— свет жа загіне, калі бліжняга не ўратаваць, але было — «амаль»?..

Драматург кажа, што «Парог» нарадзіўся з «пазычанага» анекдота. Невясёлы, праўда, анекдот,— гэткая «чорная гумарэска». Знайшлі пад снегам нябожчыка — быў п'яны, замерз. Апазнаць ужо ніяк не выпадала, акт склалі на падставе пашпарта... І хавалі на падставе пашпарта. Нябожчыку купілі касцюм, якога ён, небарака, пры жыцці і не насіў. Але хутка высветлілася памылка — чужы, аказваецца, быў пашпарт. Значыць, і нябожчык чужы. Усё было б нічога, ды хто верне грошы, на касцюм «не свайму» патрачаныя? Ледзь не на хаўтурах усчалася сварка...

Што ж, таксама «сюжэцік». Са спружынай, з драматургічным патэнцыялам. Не горшы за той, які Буслай прапануе Пакутовічу. Дудараў прыняў «пазыку». Цікава пагля-дзець, што ў драматурга атрымалася. Больш таго, параўнанне «анекдота» з п'есай — прынцыповае.

«Парог» — ці не самая прыдуманая дудараўская п'еса. Аўтар упэўнена рассек яе на «гарадскія» і «вясковыя» сцэны. Рэзка ўзняў агульнаадукацыйны «цэнз» апівохі Буслая. Сачыніў казачніка Пакутовіча і ягоную кватэру, дзверы якой адчынены і ўдзень, і ўначы. Ужыў «забаронены прыём» — у фінале на тэатральныя падмосткі вывеў дзіця.

«Анекдот» апынуўся на перыферыі п'есы. Загінуў чалавек,— дзесьці «там», амаль абстрактна — што пэўным чынам адбілася на існаванні герояў. Але ж, калі ўдумацца, смерць Бэры — самая жахлівая рэальнасць, бязлітасны дакумент. Найбольш востра гучыць гэта ў спектаклі Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы — у атмасферы сцэнічнага твора нібыта разліта жалоба, адчуванне непапраўнай бяды. На такім фоне, мякка кажучы, наіўнай выглядае маральная рэфлексія наведвальнікаў «салона» Пакутовіча.

Дык ці няма «нажніц» паміж пякучай жыццёвай праўдай і «надпобытавым» аўтарскім асэнсаваннем дабра і зла? Ёсць, і ў іх трапіла непрыкаяная душа Андрэя Буслая.

Хто ён, Буслай,— другі Федзя Пратасаў? Яшчэ адзін Бэра. І невядома, ці пашчасціла Андрэю, што знайшоў яго Пакутовіч зімовай наччу за горадам. Так, загінуў бы, але ж сам зрабіў усё дзеля гэтага. Гвалтоўная не смерць, а вяртанне да жыцця. Чалавек на папялішчы свайго лёсу — драма Андрэя Буслая. Зірнуў навокал — жахнуўся. Душа курчыцца ў пакутах абуджэння.

«Ты — добры!» Што гэта, здзек? З літасці запалены агеньчык надзеі? — Абяцанне новых пакут.

Пропуск з гразі ў князі Буслай не атрымаў. Героя толькі падвялі да сапраўднага парога. Забыўся на сорам? Паспрабуй глядзець цяпер людзям у вочы. Сплаці доўг сумленнасці. Жыві, калі стане сіл.

Хістанням алкаголіка, няхай сабе і «разумнага»,— малая цана. Усплёск душэўнай энергіі — бясцэнны.

Дудараву паверылі.

Хто хоць збольшага ведае, чым жыве тэатр паміж прэм'ерамі, зразумее, як гэта важна. Да драматургаў, якім вераць, стаўленне асаблівае. Іх чакаюць, пакідаюць вольныя графы ў рэпертуарных планах. Іх творы на сталах загадчыкаў літаратурных частак ляжаць асобна альбо і ўвогуле зберагаюцца ў сейфах. Рэжысёры «хварэюць» на такія п'есы, акцёры мараць пра рэпетыцыі, па горадзе ходзяць чуткі — у тэатры «нешта» адбываецца. Ёсць (ці будзе) п'еса, творчы калектыў спакойны за свае «тылы».

Каб напісаць «Радавых», Дудараву спатрэбіўся, напэўна, увесь «крэдыт веры», атрыманы за «Парог» і «Вечар». Апанентамі новай п'есы маглі выступіць і літаратура, і жывая памяць франтавікоў. За ваенную тэму рызыкнуў узяцца чалавек, які асабіста акопнай праўды не зведаў.

...Неяк апоўначы на кватэры драматурга зазвінеў тэлефон.

— Добры вечар, гаворыць Таўстаногаў. Толькі што прачытаў «Радавых»... Прабачце, колькі вам гадоў?

— Трыццаць тры.

— Нічога, бывае... Я буду ставіць вашу п'есу.

Гучыць як паказка, паказкай няхай і застанецца, але...

Прэм'ера «Радавых» у Вялікім драматычным тэатры імя М. Горкага адбылася ў красавіку 1985-га, у Малым тэатры Саюза ССР — трыма месяцамі раней, годам раней — у Акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы. Віцебск, Рыга, Мінск, Масква, Ленінград, Кіеў, Тбілісі... Пераможным было шэсце «Радавых» па сцэнах тэатраў краіны.

Мне пашчасціла бачыць цікавыя спектаклі. Але не здзівіў мяне і артыкул сталічнага часопіса, дзе гаварылася пра невыразныя сцэнічныя версіі дудараўскай п'есы. Пры ўсёй тэматычнай — «пра п'янства», «пра вёску», «пра вайну» — зручнасці твораў беларускага драматурга, пры ўсёй іх пададлівасці і «непраўльнасці», яны вартыя ўдумлівай трактоўкі. «Радавыя» — не выключэнне.

Невядома, колькім яшчэ пасляваенным пакаленням будзе балець







□ «Радавыя» ў пастаноўцы Малога тэатра СССР.

□ «Вечар» на сцэне Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы.

□ Сцэна са спектакля «Парог» у пастаноўцы Маскоўскага драматычнага тэатра імя К. Станіслаўскага.

Фота Аляксандра ДЗМІТРЫЕВА.

рана, нанесеная чатыры дзесяцігоддзі назад. Дарэчы тут прыгадаць «Вечар» і ўважліва ўслухацца ў роздум-роспач Ганны пра свой лёс, пра лёс свайго «няўдачнага» сына Віцька (магчыма, яшчэ аднаго Буслая): «І ў каго толькі такі ўдаўся? І хто вінаваты? Можа, Піліп, што не ў час ад сваіх ран ды кантузіі памёр? А можа, я, што нарадзіла яго такім. А можа... Вунь дактары па радзіву на жанок цяжарных сварацца: і піць няможна, і курыць няможна, і хвалявацца няможна... А то дзіцёнак дрэнным родзіцца. А пад бомбамі ляжаць можна? А жыўцом гарэць у сваёй хаце можна? А сядзець во з такім жыватом у сцюдзёнай балотнай твані можна? А ўвесь час калаціцца ад страху, што цябе во-во схопяць і заб'юць — можна? А галадаць, а трох дзетак за месяц закапаць, а страляць самой у людзей можна?.. Ён, мой Віцёк, яшчэ там, у мяне пад сэрцам на ўвесь свет абазліўся...» Праз гады жанчыне нібыта азываецца Дзерваед з «Радавых»: «Мы плаціць будзем. Гітлеры шалеюць — мы плацім...» У адмаўленні вайны — самага жудаснага злачынства супраць чалавечнасці п'еса Дударава аднадзначная.

Неадназначны лёс людскі. Для радавых вайна — крывавая праца. Няма іншага выйсця, як падымацца ў атаку, страляць трапна, знішчаць ворага. Але скончаны бой, на зямлю апускаецца цішыня і нясцерпна баляць душы, вайной скалечаныя. Адуванчык... Салянік... Бушцец... Дугін... Дзерваед...

Ролі гэтыя ў бачаных мной спектаклях выконвалі акцёры самых розных індывідуальнасцей. Аднолькавымі былі імкненні — зжыцца з героямі, не пакінуць ані шчылінкі паміж сабой і вобразам. На сцэнах узнаўляўся густы, суровы ваенны побыт. Яго гранічная праўдзівасць рабілася галоўнай умовай пастановак «Радавых» Г. Таўстаногавым у Ленінградзе, В. Мазынскім у Віцебску, Б. Львовым-Анохіным і В. Фёдаравым у Маскве, В. Раеўскім у Мінску. Разам з тым, шукаючы ключ да ўвасаблення самага запаветнага, каштоўнага ў п'есе маладога драматурга — сувязі часоў як сустрэчнага руху душэўных парыванняў, духоўных токаў. Нам, сённяшнім, баляць раны тых, хто ў апошнія ваенныя імгненні напружана думаў пра дзень заўтрашні. Мы глядзім на іх, яны — на нас. У ленінградскім спектаклі быў скарыстаны адкрыта публіцыстычны прыём: раз-пораз з глядзельнай залы на сцэну павольна выходзіў, перабіраючы гітарныя струны, пасучаснаму апрануты хлопец і спяваў песні У. Высоцкага. У Малым тэатры дзеля гэтага ствaралася сцэнічнае «паветра» — светлае, празрыстае, лёгкае...

Няцяжка і ў купалаўскіх «Радавых» вылучыць шэраг пастановачных прыёмаў: строгіх, скупых, лаканічных, арганічна ўплеценых у тканіну відовішча. Узнікае адчуванне вязкай цішыні, якая шчыльна прыціснула да зямлі ўсе гукі. Цішыня гэтая выбухае то пакутлівай споведдзю, то шчымлівай песняю, якую старанна выводзіць высокі чысты дзявочы голас, то шматтрубным арганным гулам. Напружанне нарастае з кожным эпізодам. У фінале здаецца, што Дзерваеду не хопіць сіл на апошнія крокі — цяжар горa невыносны... Дайшоў, данёс. З вачэй хлынулі слёзы, рэхам коціцца пераможнае «ўра!», з куліс ападае чорнае покрыва,— увышкі рванулася разняволеная душа. Загучаў рэквіем, музыка прасветленага трагізму.

«Адбудуем,— чулі мы словы Дзерваеда.— Не прывыкаць. Абы трохі ціхага часу далі... Добраму чалавеку нічога не трэба... Абы ціхі час... Ён і хлебам накорміць усіх, і дзяцей вырасціць, і песню добрую складзе, і зямлю кветкамі засее... Дайце яму гэту часіну! Не чапайце вы яго! Не дадумаліся людзі яшчэ, што на зямлі на ўсіх нас адна душа... Што пачынаць ваяваць — супраць сябе ж ваяваць, што пачынаць забіваць — сябе ж забіваць... Адна ж душа...» Не здолеў зразумець гэта Бушцец. Мульцік з «Вечара» разумее: «Усё на зямлі ад цяпла і святла... Зямля халодная і неба халоднае, космас яшчэ халаднейшы... Даў нам бог жыццё, каб мы ўсё гэта сагрэлі... Душамі сваімі сагрэлі! І зямлю, і неба, і адзін аднаго... Дык грэй жа, грэй!»

«Вечар»... Самая спеўная дударaўская п'еса і самая сонечная. Для разумення аўтарскага «веравызнання» — вызначальная.

Інтанацыі, уласцівыя прыпавесці, філасафічнасць, узнёслая паэзія твора карані маюць надзвычай зямныя. Мульцік, Ганна, Гастрыт напісаны драматургам падрабязна, рэльефна і сакавіта. Гэта жывыя людзі з «глыбокімі» біяграфіямі. Кожнаму выпала align рознае, а на схіле дзён сваіх нібыта зрасліся яны — сапраўды, на ўсіх адна душа.

Жыццёвая плынь п'есы цячэ няспешна, запаволена. Час, здаецца, адлічваюць старыя ходзікі з пазелянелымі меднымі гірамі,— не бягуць і не спяшаюцца, цік-так, цік-так... Ці так? У памяці герояў сышліся-змяшаліся эпохі, пакаленні, аблічы. Жыццё мяжуецца з нябытам, праўда — з няпраўдай. Памерці хочацца ў праўдзе. Таму і пытаецца Ганна: «Навошта я нарадзілася?». Таму так чуйна ўслухоўваецца ў свой душэўны разлад Гастрыт.

Мульцік моліцца Сонцу... Ён нічога не просіць для сябе, гэты дзіўны і светлы чалавек. Ні лішняга дня, ні тлусцейшага кавалка. Жыве ў суладдзі думак і пачуццяў, слоў і ўчынкаў. Ён з крыві і плоці, бясспрэчнасць ягоных высноў выпакутаваная. Мульцік — тая частка агульнай душы, што выпраменьвае цеплыню.

Дударaўскі «сонечны культ» — гэта прага актыўнага дабра.

У спектаклі Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа, зноў пазначаная «першародствам» еднасці драматурга і сцэнічнага калектыву, адкрылася моцнае сацыяльнае гучанне «Вечара». Праз трапную метафарычнасць, элегічную няспешнасць, падрабязнасць акцёрскага існавання прарываецца набалелае, вечаровая гармонія раз-пораз парушаецца. Дабром і злом правяраецца мінулае жыццё, кожны яго зрух. Дабро тварылася заўжды, толькі не заўжды брала верх. Даўняя спрэчка паміж Мульцікам і Гастрытам разгараецца з новай сілай. Горка і прыкра не так ад таго, што Гастрыт мала любіў, мала шкадаваў, мала плакаў,— горка, што ў яго — «трыццаць шэсць і шэсць», што ён — «нармальны»...

Іх памірыць вечнасць. Мульцік моліцца Сонцу:

«Ні за адну, нават самую горкую слязінку не наракаем на жыццё... Дзякуй за тое, што жылі, мучыліся, смяяліся, плакалі... Дай і нашым дзеткам цяпла і святла... Сагрэй іх...»

**Андрэй ГАНЧАРОЎ.**



**Зінаіда ДУДЗЮК**

Перакінуць бы кладку між зімою і летам
І ляцець напрасткі у абдымкі твае.
Там рамонкі вятрамі геніяльна апеты,
Там багоўка чаруе на дождж у траве.

Там наш човен самотны да мары прыкуты,
І лілеі зіхцяць на вадзе белатой.
Не палічаны шчасця ні дні, ні мінуты,
Не разгорнуты сцежак імклівых сувой.

Там таемнаю згадкай уколе ажына,
І мінулым няўзнак крапіва апячэ.
Не раўную цябе да тваіх успамінаў,
А раўную да часу, што зараз цячэ.

І гукаю цябе праз завею з-за свету,
Як мне шчырай усмешкі тваёй не стае.
Перакінуць бы кладку між зімою і летам
І ляцець напрасткі у абдымкі твае.

Фота Яўгена КОКТЫША.



Генадзю БУРАЎКІНУ — 50

па рэцэнзіях ды артыкулах атэстацыя, што ён паэт адкрытага грамадзянскага пафасу, трыбуннага напалу і гучання (што само па сабе і някепска, і не беспадстаўна), дык і па сёння трымае ў «крытычным цяні» бадай ці не палову зробленага ім у творчасці.

**Я не знаю, удаўся ў каго я такі:**
**Цягне дзіўная сіла мяне да ракі.**

**Цэлы дзень у прадоннях крынічных віроў**
**Бачу гульні язёў, чуйны сон шчупакоў.**

**Я не знаю, удаўся ў каго я такі:**
**Цягнуць, нібы магнітам, мяне сасniakі.**
**..............................................................**
**Чую, гліцу і мох прабіваюць грыбы...**
**Каб не быў чалавекам, я б жаўранкам быў**

**І спяваў бы нястомней за ўсіх і званчэй,**
**Каб рабілася людзям ад песні лягчэй...**

# НА КРОНЕ ПЯШЧОТЫ І ГНЕВУ

Усё гэта было так даўно — і зусім нядаўна. Скажам, як у казцы: трыццаць гадоў, і паўгода, і яшчэ адзін дзень... Мы хадзілі тады, студэнты-бульбакопы, вуліцаю вёсачкі Сініло, кватаравалі ў бывалага дзеда Альшэўскага, слухалі яго — ледзь не мюнхгаўзенаўскія — легендарныя ўспаміны, любілі пасядзець на скацістым узвалку, ля ўзножжа якога перамывала пясок яшчэ светлая і яшчэ рыбная Свіслач, і не здагадваліся ці не зважалі, што недзе зусім блізка, побач амаль, толькі вышэй нашага ўзбярэжжа, месціцца беларускі Парнас — Каралішчавічы — Дом творчасці пісьменнікаў. Не ведаў дзед Альшэўскі, што і мы тое-сёе папісваем, а то парасказаў бы, відаць, нямала і каралішчавіцкіх гісторый — «в назидание юношеству»...

А што да нас — то нам і сапраўды няблага тады было — нават лацвей! — і без Парнаса. Гэта сёння неяк павялося: «стварыўшы» два — тры вершы, бегчы з працягнутаю рукой да жывога класіка — паздароўкацца ці папрасіць?..— хаця б рэкамендацыю ў Саюз пісьменнікаў...

Аднак — забудземся на гэтыя трыццаць гадоў і паўгода, пакінем сабе адзін дзень, каб зрабіць тое, што робім зараз не так ужо і часта: сядзем зноў на тым крутым беражку і пагамонім, а то і памаўчым, прыслухаемся да асенняга верасnёвага надвячорка...

Мякка падае на дол у недалёкім садку, неяк аж сакавіта гупнуўшы, яблык — пэўна, антонаўка, і лёгка выпрамляецца прыгнутая толькі што фунтовым цяжарам галінка. Дзесьці на лужку, пазвоньваючы цуглямі, нязлосна робіць (паверхі на паўтары) вымовы гнядзьку дзед Альшэўскі. У расшпіленай, як заўсёды,— на два гузікі зверху — каўбойцы, з поўным вядзерцам вады падымаецца ад рэчкі Сеня Блатун, сябра наш, аднакурснік, паэт-летуценнік. Ён ідзе, набліжаецца, вырастае, як з глыбіні, з-пад зямлі (мы яшчэ не ведаем нічога таго, што будзе,— яно гэтак толькі здаецца) і нешта насвіствае. Загадкавае, як асенняе развітанне з нядоўгім верасnёўскім днём, шчымлівае і зразумелае аднаму яму...

Паслухаем вечнасць...

А яна ў кожнага з нас, дваццацігадовых, а то і маладзейшых, была свая, з дакладным адрасам, канкрэтным абліччам. Кожны нёс яе ў сэрцы як часцінку роднага кутка, бацькоўскай хаты, як голас матчынай песні, як подых першых спатканняў... Вечнасць была рэальнасцю, якую ніхто асабіста не звязваў з часам: яна заставалася ўсяго толькі філасофскай катэгорыяй, якая патрабавала семінарскіх ды заліковых тлумачэнняў. А ў астатнім вечнасць была сама па сабе, а час — сам па сабе. Яны змыкаліся хіба толькі ў тым, што часу ў нас, як кажуць, была цэлая вечнасць (за выключэннем сесій, калі яго, здаецца, заўсёды ў абрэз, катастрафічна мала). Мы плавалі ў вечнасці, як рыба ў вадзе. Мы мелі на гэта права, бо юнацтва — сама вечнасць...

Генадзь Бураўкін (а ён якраз, сённяшні пяцідзесяцігадовы юбіляр, і ёсць адзін з дзейных удзельнікаў таго верасnёвага юнакавання і роздумаў), сын старажытнай Полаччыны, з першых паэтычных крокаў адчуваў, дзе яно — вечнае:

**Не шукайце красы за марамі,**
**Узбярэжжаў з крыштальнымі зорамі,—**
**Прыязджайце да нас на Полаччыну,**
**Пахадзіце яе прасторамі,—**

гэта запрашэнне-заклік (праўда, чамусьці ўпарта — ці не з першага чытання? — сядзіць у памяці: «Не шукайце экзотык за марамі» — замест «красы»...) мае ўсе падставы, бо «тут пад кожным курганам і каменем — ці быліна, ці казка чароўная», а яшчэ «тут на кожнага закаханага салаўёў па чатыры тузіны»... Так яны сыходзяцца — вечнасць-гісторыя і вечнасць-юнацтва. І для Генадзя Бураўкіна гэта паэтычная еднасць дзвюх стыхій стане вызначальнай. Прыгадаем: Скарына, Каліноўскі, Ленін, Чэ Гевара, Гагарын,— нязгасныя зоркі на шляхах гісторыі сталі зоркамі натхнення паэта, як і лёс яго аднагодкаў, пакалення дзяцей вайны, сэрцам і вуснамі якога было сказана крылатае: «Я з твайго неспакойнага племені, Партыя, хоць ля сэрца білет твой яшчэ не нашу. Гэта ты разам з маці дала мне ўпартую і няўрымслівую душу...» і сонечна-юнацкае: «Сёння я незвычайна радасны, ну, не хлопец — усмешка адна: цеплынёю дваццацігадуснай абагрэла мяне вясна... Я іду — дваццацігадовы, і дзяўчаты глядзяць на мяне...»

Такі дыяпазон душэўнага настрою Генадзя Бураўкіна — ад верша-прысягі да верша-гарэзніка — хочацца асабліва падкрэсліць яшчэ і з прычыны звыклага ў крытыцы нашай «ярлыкавання»: як пайшла з нечае «лёгкай» рукі гуляць

Радаслоўная? Ці творчае крэда? Відаць, і тое і другое. А мы сабе прыкмецім яшчэ адну акалічнасць: адчуванне паэтавай сувязі і еднасці з жыццём не толькі ў сферы «надбудовачнай», але і «базіснай».

Асцерагаючыся зноў жа «аднабокасці» ці «аднавокасці», толькі з іншым, супрацьлеглым, знакам,— схілім усё ж увагу да Генадзя Бураўкіна «нечаканага», не запраграміраванага крытычнымі стандартамі. І пабачым свет шырокі і шматфарбны, свет, які дадзены нам і які мы ствараем, свет, які паглынае нас і які творыць нас, свет — зямны і нябесны, свет — як быццё і вечнасць. Свет просты і складаны — як жытні колас:

**Хто раней,**
**хто пазней,**
**Толькі ўсе**
**Зноў і зноў**
**Мы прыходзім**
**Да простых,**
**як хлеб і паветра,**
**Выснoў:**

**Што жыццё чалавеку —**
**Любому —**
**Даецца адно,**
**І што,**
**як ні надточвай,**
**Кароткае вельмі яно,**

**І што праўда на свеце**
**Адна —**
**Без крупінкі маны,**
**І што шчасця на свеце**
**Няма**
**Без сваёй стараны...**

І свет — як міг кахання:

**Ты не ішла —**
**асыпаная зорамі,**
**Хмурынкай лёгкай да мяне плыла —**
**Уся з адчаю, чысціні і сораму,**
**З даверлівасці, страху і святла.**

**Цьмянелі,**
**аддаляліся**
**і чэзнулі**
**Зямныя і нябесныя агні.**
**І я ступіў насустрач цёплай бездані**
**Здзіўлення,**
**шчасця,**
**тайны,**
**цішыні...**

Засведчым і тую немалаважную асаблівасць вострапубліцыстычнага Генадзя Бураўкіна, што піша ён на тэмы інтымныя ці не сама больш з усіх паэтаў-равеснікаў (а гэта ў нашай паэзіі зусім

не лішне), і што вершы пра каханне займаюць у кожным яго зборніку (як бы паэтычны контртэзіс спрошчанаму тэзісу крытыкі) добрую трэць, а то і палову. І ці не з доляю палемічнага падтэксту выдаў ён, нарэшце, кнігу «Пяшчота» — з вызначэннем «Вершы пра каханне». Нібы сказаў: паэт — гэта сэрца, наросцеж адкрытае жыццю, гэта свет з усімі яго радасцямі і трагедыямі, з яго пяшчотаю і суровай барацьбой, гэта космас — і далёкіх зор, і вясновай травінкі.

Мы хочам зразумець галактык мову.
А хто мне скажа,
думае аб чым
Сцяжынка ў полі,
спелы бор сасновы,
Рачулка,
што прыцмоквае ўначы!..

І зноў — як гаварыў Маякоўскі — «Про это»:

Яна ішла сцяжынкай вузкай
Да вечаровага сяла.
І ветразем над сіняй блузкай
Касынка белая плыла.
..........................
Ах, незнаёмка, незнаёмка,
Неспадзяваная бяда!
І прыпыніць цябе няёмка,
І адпусціць цябе шкада...

Ці не першымі з чытачоў нашы кампазітары здагадаліся, што крытыка нешта не дагаворвае пра Генадзя Бураўкіна, заўважылі яго светлую — і з добрай усмешкай, і шчымлівую — лірыку, і ўзнялася яна на песенных крылы, загучала і ў канцэртных залах, і на сябрынах, і проста так — напаўголасу, для сябе:

Патухаюць, цямнеюць высі,
Зоркі ўспыхваюць над сінявой.
Да пляча майго прыхініся
Залатою сваёй галавой.

Чуеш вецер і чуеш вечар!
Чуеш, ціха бярозы рыпяць!
На твае худзенькія плечы
Асыпае звон зарапад.

Гэта я з табой вечарую,
Туманамі цябе чарую.
Васількоў шапатліваю моваю
Зачароўваю, зачароўваю.
Роснай сцежкаю, рэчкай ціхаю
Закалыхваю, закалыхваю...

Імгненне непаўторнае і высокае, імгненне вечнасці. І — музыка, музыка: у радку, у дыханні, у цішыні...

А вось цяпер, пасля зробленых вытлумачэнняў, катэгарычна пагодзімся і з тымі, хто сцвярджае: так, Генадзь Бураўкін — паэт, чуйна настроены на сучаснасць, паэт грамадзянскай наэлектрызаванасці, паэт-палеміст.

Добра помніцца, як усхвалявалі нас, і нязменна адчуваецца, як нясуць байцоўскую службу яго вершы «Адышлі у нябыт панегірыкі», «Кампрамісы», «Не рабіце з людзей багоў...», «Уцякаюць хлопцы ў гарады», «Ад залысін да лысін...» — апошні з такой — па высокаму рахунку — сённяшняй высновай: «Той сумленна рассудзіць, хто сабе не даруе»...

Ці заўважылі вы, што ўсё глыбей і глыбей караніцца ў нашу размоўную практыку «сімбіёз»-неалагізм — «жывое жыццё»? Першая рэакцыя была адмоўная: расце пустазелле — таўталогія, стылёвая неахайнасць. Ды моўная рэальнасць — рэч упартая: нагадвае і нагадвае пра сябе «жывое жыццё»... Значыць, ёсць яшчэ і другое жыццё — мёртвае? І міжволі задумваешся: а што ж яно такое? Магчыма, вось яно? — у накрэсленых паэтам «штрыхах да знаёмых партрэтаў»:

Меней слоў і паболей справы! —
Заклікае імклівы час.
Ды ўхмыляецца злева і справа
Бюракратаў тупая арава,
Не адпраўленая ў запас...
...У паперы ўлягаюць зацята,
Развярэджваюць сверб стары —
Ужо з новых прамоў цытаты
Засцілаюць прывычна сталы.
Зноў стагуюць інструкцый салому...

Грамадзянская пазіцыя Генадзя Бураўкіна ставіць звышзадачы: мала сказаць праўду (хоць і слова — таксама справа), трэба і самому рабіць гэту праўду, змагацца за яе. Паэзія, усё ж, не стырно, не руль, што адзіным паваротам можа рэзка мяняць кірунак чалавечай душы, наіўна чакаць ад паэтычнага слова імгненных вынікаў уздзеяння. Яна, паэзія, хутчэй — плуг, што рыхтуе глебу, на якой узрастаюць духоўныя, маральныя шуканні чалавека.

Калі мы глядзім праграму Беларускага тэлебачання, то варта ўспомніць, што не адразу яна акрэслілася, што яе арганізацыйная ўстойлівасць і самастойнасць афармлялася намаганнямі ў першую чаргу старшыні Дзяржаўнага камітэта па тэлебачанню і радыёвяшчанню Генадзя Мікалаевіча Бураўкіна.

І тады мы яшчэ глыбей разумеем і ўспрымаем боль і трывогу паэта:

Словы жудасна паміраюць,
Патухаюць,
як светлякі.
Забываюць іх, не паўтараюць
І газеты, і языкі.
Толькі недзе
ў далёкай вёсцы
З плёску рэк і шуму лясоў
Узляцяць,
як забытыя вёсны
Салаўямі на сто галасоў...
...Ды цяжкім, раўнадушным нарогам
Іх завальвае час і быт.
І здаецца,
не словы —
народы
Адыходзяць моўчкі ў нябыт.

І тады мы павінны, нарэшце, паглядзець праўдзе ў вочы, не рабіць, прынамсі, выгляд, што нічога не адбываецца. Калі ў нас ёсць намеры застацца народам, калі мы хочам ісці ў гісторыю беларусамі, Беларуссю, мы павінны падумаць пра лёс нашай мовы. Няма народу бязмоўнага. І з размываннем нацыянальнага ці не ідзе прасоўванне касмапалітычнага, усталяванне спажыўца той якраз бязроднай, «масавай» культуры, якую нам паслужліва прапануюць, падкідваюць, падшэптваюць розныя замежныя «апекуны». Сапраўдны інтэрнацыяналізм трымаецца на грунце нацыянальным.

Генадзь Бураўкін дапытлівы назіральнік, востра бачыць жыццё ў характэрных прыкметах. Пабачыў і паслухаў ён ігру духавога аркестра ля ваенкамата, дзе маці праводзяць на службу ў армію сваіх сыноў,— і як шчымліва і трывожна падумалася паэту:

Духавыя аркестры,
Паходныя трубы
Папулярнымі робяцца
Перад вайной,—

так і заглядвае ў сэрца наш неспакойны час. Заглядвае тым — Хатынскім — снегам, што «ў памяці вечна стыне»:

Белы снег,
Чырвоны снег,
Чорны снег
Нашай святыні —
Хатыні.

Пра паэму «Хатынскі снег» цяжка, ды і немагчыма, гаварыць як наогул пра паэзію: гэта боль людскі, які стаў болем асабістым:

...І бабы загаласілі:
— А дзеткі!
А вы ж не паспелі пажыць!
А вашы ж ногі не паспелі нахадзіцца.
А вашы ж рукі не паспелі напрацавацца.
А вашы ж вочы не паспелі наглядзецца.
А вы ж не паспелі ўнукамі парадаваць нас.
Крывіначкі нашы!
Сонейкі нашы!
Дзеці!
За што ж яны вас!!.

Крэўнай, глыбіннай, асабістай прысутнасцю пазначана і «Паэма расстання», і паэма «Ленін думае пра Беларусь». Гэта ў жанры ліра-эпічным. Што ж тычыцца ўласна лірыкі, вершаў, то голас паэта, яго інтанацыя, тэмперамент, нават жэст прачытваюцца тут выразна, дакладна і непаўторна.

Удзельнік Сусветнага фестывалю моладзі ў Хельсінкі, член беларускай дэлегацыі на XXXI сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, карэспандэнт газеты «Правда» — Генадзь Бураўкін шмат паездзіў, шмат пабачыў. Шырэлі далягляды яго паэзіі. Але клопат яе заставаўся адзін — клопат чалавека-камуніста: несці святло праўды, змагацца за яго ў імя шчасця людзей. «Гняздо для птушкі радасці» назваў сваю новую кнігу лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы і прэміі Ленінскага камсамола Беларусі Генадзь Бураўкін. Гняздо для птушкі радасці — яно і ў сэрцы паэта, і на санцасяжнай, высокай кроне жыцця, кроне пяшчоты і гневу.

**Васіль ЗУЁНАК.**

Яму даўно было за сорак. Высокі, мажны, з сівізной у валасах, заўсёды маладжавы і чыста пагалены Віктар Барлюк кожнаму ўнушаў павагу, і з ім усе гаварылі падзелавому проста, канкрэтна. Ніякага панібрацтва ў абыходжанні з дырэктарам на камбінаце не было, Барлюк адразу сябе так паставіў. Рабочыя, калі прыходзілі з просьбамі, гаварылі мякка і ветліва. Начальства, прыезджае і мясцовае, гарадское, з ім гаварыла па-сяброўску, не давала адчуць, што яно начальства. Бываюць людзі, сярод якіх нядобра адчуваць сябе начальнікам; Барлюк, відавочна, і быў адным з такіх.

Галоўнае ў абыходжанні з людзьмі — адразу сябе паставіць. Барлюк быў у гэтым перакананы.

Паступова, сам таго не заўважаючы, ён пачаў жыць толькі самім сабою. Ён стаў меней думаць пра справу, а болей пра тое, як найвыгадней паказаць сябе ў гэтай справе.

Калі прыходзіў хто з сяброў ці добрых знаёмых, заўсёды на развітанне сардэчна гаварыў:

— Калі якая просьба, адразу да мяне. Магу, праўда, я не так і шмат, аднак прыходзь...

Паўторных візітаў чамусьці было мала.

Ішоў час, усё радзей ён сустракаўся з сябрамі па-за межамі кабінета. Бракавала часу, ды і не выпадала неяк яму, кіраўніку вялікага працоўнага калектыву, хадзіць пешкі па вуліцы абы з кім. Што скажуць, як перакажуць...

Сам дырэктар не задумваўся над тым, чаму пры сустрэчы з землякамі, да іх ён заўсёды быў прыхільны, або таварышам далёкай і небязгрэшнай маладосці не паспяваў ён сказаць «заходзь да мяне. Прама ў кабінет. Без усялякіх званкоў. Ведаеш, дзе наш камбінат, там і паталкуем. Заходзь»,— як яго перапынялі:

— А як жа. Зайду. Спатрэбіцца што, таксама зайду. Прама да цябе. У кабінет.

Людзі не прыходзілі.

Некалі, калі Віцька Барлюк быў калгаснікам, потым рабочым, студэнтам-завочнікам, інжынерам, у яго было шмат сяброў, а потым яго перавялі са Слуцка ў іншае месца, прызначылі дырэктарам, сябры пры сустрэчы шумна віталіся. Барлюк адказваў. Чаму першымі заўжды вітаюцца яны, не думаў. Меркаваў, так і павінна быць, і прывык да гэтага. Паступова прывык і да таго, што многіх з іх з цяжкасцю вылучаў сярод натоўпу. Стаў адказваць на прывітанні хуткімі кіўкамі. У часы абходу цэхаў забываў часам і на гэта.

— Заняты чалавек.

— І не кажы,— гаварылі часам услед людзі.

А ён як не чуў. Не прыслухоўваўся, не меў звычкі, а калі чуў — не надаваў увагі. Зайздроснікі, плеткары і абывацелі любому ярлыкі прывесяць, чужыя думкі не прыгладзіш.

Барлюк жыў, працаваў, ацэньваў людзей, думаў пра недахопы ў характары іншых, але толькі не ў сваім уласным.

Адна кепская рыса чалавечага характару, калі ёй даць волю, можа перакасіць увесь характар: так маленькая міна ўзрывае вялізны будынак...

Мажліва, так бы ішло ўсё ў жыцці Віктара



**Валер САНЬКО**





# НЕ АБКРАДЗІ СЯБЕ

АПАВЯДАННЕ

Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

...Званок тэлефона ўнутрыкамбінатаўскай сувязі празвінеў коратка і рэзка.

— Слухаю,— адказаў незадаволена Барлюк.

— Затрымалі работніцу адну з грэбенечасальнага цэха. Паўкіло воўны нясла. Украла. Ганна Бялько прозвішча яе,— адказала трубка голасам начальніка аховы Івана Тураўца.

«Бялько...» — уздрыгнуў Барлюк. Прозвішча гэта ён чуў.

На камвольным камбінаце кожны выпадак зладзейства дакладваўся адразу цэхаваму начальству ці намесніку дырэктара.

— Нікога з адміністрацыі няма... Яно можна было і ў панядзелак сказаць, але ж у цэха першае месца ў спаборніцтве за квартал, цяпер зноў добрыя паказчыкі... Я думаю, пазваню Лукашонку, яго няма... Надта дзяўчо задзіркавата трымаецца. «Хоць Барлюку скажыце, падумаеш...»

Туравец гаварыў, нешта пытаў. Барлюк яго слухаў і не слухаў: прозвішча нагадала пра навекі дарагую яго сэрцу Случчыну, сям'ю Пятра Бялько, сям'ю, якая так шмат зрабіла ў свой час для Віцькі Барлюка.

— Дык я адпускаю яе, дзяўчо гэтае,— як пра справу вырашаную сказаў Туравец.— Час позні.

— Адпускайце, што ж з ёю зробіш,— пагадзіўся Барлюк.

Але тут жа нечакана для самога сябе Барлюк распарадзіўся зусім інакш:

— Прывядзіце яе да мяне. Паглядзім...

Невысокая, худая дзяўчына гадоў васемнаццаці з маладым яркім румянцам на мілавідным бялявым твары праз колькі хвілін стаяла на парозе кабінета.

Нясмела прычыніла за сабою дзверы, зрабіла крок да дырэктарскага стала і спынілася. Дапытліва паглядзела на дырэктара. Яго сур'ёзны позірк, відаць, не спадабаўся Ганне Бялько. Гэта тут жа заўважыў дырэктар, загаварыў:

— Як думаеце, добра вы зрабілі ці не?

У адчужаным позірку дзяўчыны была ўсё тая ж упартая непрыязнасць. Яна маўчала.

— Вы не са Случчыны? У мяне на Случчыне вельмі добрыя знаёмыя засталіся. Можа вы іх ведаеце? — дырэктар выйшаў з-за стала.

— Німа ў нас там нікога.— Яна хуткім цікаўным позіркам акінула чалавека перад сабою.— І не было. Мы з Нясвіжчыны, адвеку тамашнія.

Барлюк з палёгкай уздыхнуў. Яму стала раптам радасна на душы ад таго, што Ганна Бялько ніякая не сваячка дарагой для яго сям'і Пятра Аляксеевіча Бялько, майстра, які навучыў яго працаваць, жыць, які стольki зрабіў, каб вясковы хлопчык Віцька Барлюк выйшаў у людзі, стаў чалавекам.

— Камсамолка? — Яна маўчала, але і не пярэчыла.— Вось бачыце... На сходах адно, на справе другое.

Дзяўчына яшчэ больш пачырванела.

Барлюк адчуваў, як нарастае ў ім нецярплівая раздражнёнасць.

— Калі ўсе будуць па жмені браць, цэх расцягнуць. Каторы раз такое, першы?

Ганна хуценька кіўнула:

— Першы.

Тоўсты палец Барлюка націснуў кнопку. Увайшла сакратарка, яшчэ маладая жанчына, вокідкам азірнула Ганну.

— Ніна Пракопаўна, гляньце, траплялася раней Ганна Бялько з крадзяжом? Нешта мне не помніцца,— папрасіў Барлюк.

Яны зноў засталіся ўдваіх. У Барлюка не было часу, але знешне ён аставаўся спакойны і сур'ёзны.

— Гэта ў яе не першы раз, Віктар Харытонавіч,— увайшла сакратарка. Жанчына з асуджэннем пазірала на маладую танклявую прыгажуньку.— Паўгода таму пападалася. Паўкіло воўны і тады пазычала.

Работніца маўчала. Нецярплівае раздражненне ахоплівала Барлюка.

— Як жа цяпер будзем? Выходзіць, гэта ўжо не пяршынка.

— Як хочаце.

— Дзе вы жывяце? — позірк дырэктара спыніўся на маладой работніцы.

— Навошта? — у дзяўчыны здзіўлена нахмурыліся бровы, вусны ўпарта сцяліся.

— Проста так.— Справа была вырашана. Аб'явіць ёй трэба вымову і пазбавіць прэміі. «Проста так» Барлюк вымавіў па інерцыі, каб пачуць адказ на пытанне.

— У горадзе,— заўпарцілася дзяўчына.

— Адрас пытаю.— Усё больш раздражняючыся, амаль крыкнуў Барлюк.

Дзяўчына перамінала ў руках насоўку, запаволена паміргвала, быццам вейкі мружыў сон, маўчала.

— Вады ў рот набрала? То занадта порсткая была, а зараз язык пракаўтнула. Гавары. Захочуць даведацца, дык званок у аддзел кадраў, і ўсё,— праказала сакратарка.

Урэшце, мабыць, зразумела, што маўчаць больш нельга, ціха сказала:

— Не трэба дадому ехаць,— ступіла наперад, да стала дырэктара.— Тутака, самі карайце, а дадому не едзьце.

Пудлівасць гэта спадабалася Барлюку. Дзяўчына баіцца бацькоў, і яе заядае сорам, значыць, ёсць сумленне ў прыгажуні.

— Пасля дома скажаш, столькі зарабіла за месяц, маўляў, мала тут плацяць, і там будуць наракаць на камбінат.

— Не трэба дадому ехаць,— прасілася дзяўчына. Паўтарала просьбу ўпарта, з безвыходнасцю.

Барлюк нічога не разумеў. Яму захацелася зрабіць наперакор гэтай наравістай дзяўчыне. Была і яшчэ адна думка: калі гэта для яе страшней, чым удар рублём, трэба наведаць яе дом.

— Хто ў цябе дома? Маці і бацька ёсць?

Дзяўчына зацята маўчала. Сакратарка назвала адрас работніцы. Барлюк наважыўся з'ездзіць да Бялько.

— Плакаць не трэба. Хай бы раней думала, перад тым, як красці. Дадому да цябе я з'езджу. Пагляджу на бацькоў, якія выгадавалі такую дочачку...

На адным з акон прыземістага, ашаляванага доміка хітнулася фіранка: мільгануў твар. Барлюк быў упэўнены, што гэта Ганна, але як быццам не заўважыў нічога, гаварыў далей.

Віктар Барлюк і Ганніна маці, пажылая, нервовая жанчына з гладка зачэсанымі назад валасамі, якія раз-пораз папраўляла, стаялі каля веснічак і ўжо доўга-такі гаварылі. Дырэктар расказваў пра недарэчны выпадак з яе дачкою. Жанчына моўчкі слухала яго, пазірала пільна і дапытліва. Дырэктару не падабаўся гэты цікаўны, пільны позірк. Якая бочка, такая клёпка, якая маці, такая дочка.

«Я ўсё ведаю. Вы дырэктар камбіната»,— прамовіла яна, адчыніла нарэшце веснічкі.

«Усё роўна пагаворым, я ненадоўга»,— зайшоў на падворак Барлюк.

На нейкі момант здалося, ён дзесьці бачыў пажылы маркотны твар з уніклівымі блакітнымі вачамі. Гэта адчуванне хутка прайшло.

Чэзлы вішняк, разлапістыя кусты парэчак і агрэсту туліліся да нізкага плотчыка. Да маленькага драўлянага дамка вяла вузкая сцежка.

— Вы, пэўна, не ведаеце, што вырабляе ваша дачка. Украла паўкіло воўны. Гэта ўжо другі выпадак, між іншым. Такая дарога да дабра не давядзе. Пагаварыць з бацькамі, ведаеце, здалося мне неабходным.— Барлюк азірнуўся на службовую «Волгу», шафёр сядзеў за рулём, матор не выключаў.

Жанчына пазірала ў садзік, па-веснавому голы і ад таго няўтульны.

— Вы да ўсіх ездзіце... выхоўваць? — тая ж іронія ў голасе, якая з самага пачатку размовы нядобра кальнула Барлюка.

— Не, па шчырасці скажу, не. Не мой абавязак. Прозвішча ў яе... Карацей, вы дачку прыструніце.

— Гэта ўжо само сабою. Так не астанецца.

Размова канчалася. Барлюк усё выказаў, а маці вінаватай нічога фактычна не сказала пра дачку і яе ўчынак. І Барлюк з прыкрасцю падумаў, што не трэба было ехаць. Гэта ў яго абавязкі не ўваходзіць...

— Па дарозе хоць было ці наўмысна заехалі? — Ізноў Барлюка непрыемна кальнула прыхаваная іронія ў голасе жанчыны, ён не адказаў, спытаў пра іншае:

— Дзе ж ваш муж? Можна яго бачыць?

Паўза зацягнулася.

— Хіба маці сказаць недастаткова? Ці і бацьку парадаваць хочаш?

Барлюк уздрыгнуў.

— Эх, Віця, Віця,— уздыхнула жанчына, не даючы яму азвацца.— Задраў ты нос, задраў. Сумленным выглядаеш... Як улез у службовую машыну, ад людзей адцураўся. У чужым воку былінку бачыш, а ў сваім...

— Пачакайце...

— Чаго чакаць,— сказала жанчына проста, хутаючы, нібы ад холаду, твар у вялікую канаплянку.— Забыў ты Пятра Бялько, першага свайго майстра. Фабзайцам як прыйшоў на наш заводзік, ён у цябе першым настаўнікам быў. Ён і ў восьмы вячэрні клас цябе піхнуў. «Вучыся. Чалавекам мо будзеш». Прайшло ўжо, праўда, дай божа, часу (яна памаўчала, відаць, лічыла), дваццаць шэсць гадоў ці што... У нас трэцяя дачка нарадзілася і вырасла, Ганна гэтая...

Віктар Барлюк далонню выцер спацелы лоб. Нездарма здавалася, ён дзесьці бачыў жанчыну, ведае характэрнае ўтульванне галавы ў хустку. Як жа яна змянілася! Зусім другі чалавек. Ганна — дачка Пятра Аляксеевіча... І прыгадаў: калісьці даўно прыходзіла да яго гэтая жанчына, гадоў са тры таму назад ці што. З дачкою штосьці было звязана. Барлюк цвёрда памятаў, ён папытаў у яе, як і ў дачкі нядаўна, такое прозвішча не забудзеш, ці не са Случчыны яны. Адказ быў адмоўны. Абяцаў разабрацца, дапамагчы і не дапамог. Перадаверыў усё намесніку. Помніцца, потым было пісьмо ад жанчыны, скарга. Прасілася на прыём.

Пісьмо таксама пераадрасаваў намесніку. Хіба можа кіраўнік шасцітысячнага калектыву памятаць усе пісьмы?

«Апраўдвайся, апраўдвайся, а чаму ў вочы ёй не глядзіш?» Віктар Барлюк пачуваўся вельмі нядобра. Хацелася праваліцца скрозь зямлю...

Жанчына гаварыла далей:

(Заканчэнне на 36-й стар.)



## З ДАЛЁКІХ І БЛІЗКІХ ДАРОГ

Калі паглядзець на Будапешт з вышыні птушынага палёту (а такая магчымасць ёсць у кожнага, хто падымаецца на гару Гелерт), бачыш яркае, вясёлкавае кола гарадской забудовы, якую амаль папалам падзяляе блакітная стужка Дуная. З абодвух бакоў у яго «люстэрка» глядзяцца Буда і Пешт. І ў адбітку гэтым ужо нішто не адмяжоўвае зялёную гарыстую Буду з яе сярэднявяковымі крэпасцямі, якія нібыта вянчаюць горад, і шумны раўнінны Пешт з каменнымі карункамі парламента, сабора Мацяша, кварталамі новых жылых дамоў. Два гарады, што з сівой даўніны існуюць паасобку і ўсё-такі з'яўляюцца часткамі аднаго цэлага, і гэтаму служаць славутыя будапешцкія масты цераз Дунай.

Нават проста зірнуўшы на карту Венгрыі, заўважаеш, што Дунай цячэ праз усю краіну і падзяляе яе на дзве амаль роўныя часткі. Крыху ўяўлення, і здаецца, што ўся Венгрыя глядзіцца ў «люстэрка» вялікай ракі, і ў ім адлюстроўваецца не толькі цудоўная прырода і велічная архітэктура, а і гмахі сучасных прамысловых прадпрыемстваў, багатых кааператываў з белаcнежнымі ангарамі жывёлагадоўчых ферм, масівамі абрыкосавых садоў, хлебнымі нівамі, вінаграднікамі...

Успамінаецца фільм-прытча Петэра Бачо «Каторая гадзіна, Пан Будзільнік?». У глухім мястэчку Венгрыі жыве майстар гадзіннікаў, які мае здольнасць дакладна вызначаць час, не пазіраючы на гадзіннік. Краіну акупіруюць гітлераўцы, і камендант гарадка арыштоўвае майстра, загадвае выбіць з яго гэту здольнасць. Загад выконваецца, і той перастае адчуваць ходу часу. Але ў фінале фільма чуецца гарматны гром, да гарадка набліжаецца Савецкая Армія — вызваліцельніца. І да Пана Будзільніка зноў вяртаецца яго цудоўны дар.



Адлік новага часу пачаўся ў сорак пятым. У параўнанні з часам даваенным у 15 разоў павялічылася ў народнай рэспубліцы прамысловая вытворчасць, у 6 — нацыянальны даход, амаль у 4 — узровень спажывання. Ну а спачатку, адразу пасля вайны, шмат якія машыны, сыравіну і матэрыялы, прадукты харчавання дасылала насельніцтву Венгрыі наша краіна. Цяпер узровень супрацоўніцтва іншы, ён адпаведны новым магчымасцям. Толькі ў Будапешце пятая частка ўсіх дамоў узведзена з удзелам савецкіх будаўнікоў. Нарэшце, з дапамогай нашай краіны венгры пабудавалі сваю першую атамную станцыю ў Пакшы, якая забяспечвае 12 працэнтаў усёй электраэнергіі, якая спажываецца ў рэспубліцы.

Плённа развіваюцца і непасрэдныя сувязі працоўных Венгрыі і Беларусі. Наладжаны кантакты паміж калектывамі Мінскага і Чэпельскага аўтазаводаў, мінскімі і будапешцкімі трактаразаводамі, Акадэміямі навук ВНР і БССР. З поспехам праходзілі Дні венгерскай культуры на Беларусі і Дні беларускай культуры ў Венгрыі. На беларускай мове выходзілі «Венгерскія апавяданні», «Венгерскія народныя казкі», творы Пецёфі, Адзі, Матэ Залкі, Ілеша, Гідаша і іншых пісьменнікаў Венгрыі. А венгры пазнаёміліся на роднай мове з творамі Я. Купалы і Я. Коласа, М. Танка і П. Панчанкі, В. Быкава і А. Адамовіча...

...Калі мы развіталіся з Венгрыяй, лета па календару ўжо заканчвалася, але Будапешт заставаўся па-летняму светлым, цёплым, прыгожым. Сонечных дзён у венгерскай сталіцы больш чым у астатняй Сярэдняй Еўропе. І ў нас засталося ўражанне: над Дунаем з абодвух яго бакоў маляўнічая, багатая, квітнеючая краіна, нібы вясёлка — яркая і радасная.

Такой Венгрыя прыгадваецца і сёння, у жнівеньскія дні, калі венгры святкуюць гадавіну прыняцця новай Канстытуцыі і абвяшчэння краіны народнай рэспублікай.

**Віктар ЖУК.**











# Вясёлка над Дунаем



Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.



□ Такім выглядае з крапаснога раёна старой Буды пешцкі бераг Дуная з будынкам парламента, які стаў сімвалам венгерскай сталіцы.

□ Аблічча горада — гэта і твары яго жыхароў. Гэты партрэт зроблен на адной з вуліц Будапешта.

□ Манумент Вызвалення (работа скульптара Жыгмунда Штробля), узведзены на гары Гелерт у гонар Савецкай Арміі. Тут выгравіраваны імёны загінуўшых у Венгрыі савецкіх воінаў.

□ Штогод 10-мільённая краіна сустракае каля 16 мільёнаў турыстаў. Падарожнічаюць па Венгрыі парознаму. Вядома, можна на аўтобусе, на цягніку, на цеплаходзе... Да паслуг жа аматараў стылю «рэтра» параконныя фіякры. І ўсё ж самы даступны транспарт гэты: «сядзеш і проста націскаеш на педаль».

Фота аўтара.

# «Я ЎСЁ ТОЙ ЖА...»

Лічыцца, што ў любога папулярнага ансамбля ёсць толькі два шляхі: няўхільна ўверх, або імкліва — уніз. Трэцяга, як кажуць, не дадзена. А як расцэньваць тое, што робяць «Песняры»? Мы чулі, быццам яны зноў «пачынаюць спачатку»...

**Сям'я РЫГАРЧУКОЎ з Чэрыкава.**




Даўно сачу за творчасцю «Песняроў», і вось што заўважыў: варта распаўсюдзіцца чуткам пра чарговую задуму Уладзіміра Мулявіна, як адразу ж і без таго наэлектрызаваную атмасферу вакол ансамбля пачынаюць працінаць новыя іскры: «Бач на што замахнуліся», «Наўрад ці ў іх што-небудзь атрымаецца»... Так было пры падрыхтоўцы рок-оперы «Гусляр», так паўтарылася пры стварэнні музычнага цыкла на вершы Янкі Купалы і праграмы «Праз усю вайну». Прычым падзеі заўсёды развіваліся ў звыклай паслядоўнасці: неразуменне таго, што робяць артысты, рашучае непрыняцце іх ідэй паступова змянялася зацікаўленасцю, якая пераходзіла затым ва ўстойлівы інтарэс, каб неўзабаве перарасці ў захапленне...

Можна ўявіць, якой веры ў сваю зорку, дый проста чалавечай мужнасці патрабавала і патрабуе ад Мулявіна і яго сяброў пераадоленне гэтага непрыняцця, нявер'я, сумненняў, а ў некаторых выпадках — што там утойваць — і «зацікаўленага» чакання правалу. Сумняваюцца ж не проста экзальтаваныя слухачкі, «выхаваныя» на «Александрыне», якая ўпершыню прагучала пятнаццаць гадоў назад, і не падлеткі, якія, ідучы на канцэрт, наіўна мяркуюць, быццам «Песняры» збіраюцца прапанаваць ім што-небудзь з «хэві метал». Сумненнямі жывуць самі артысты, і спрыяе гэтаму, як ні дзіўна... музычная крытыка. У сярэдзіне сямідзесятых гадоў яна, помніцца, папракала «Песняроў» у... «прамалінейнасці». Гучалі заклікі браць прыклад са «Спяваючых гітар», «Добрых малайцоў», іншых вакальна-інструментальных ансамбляў, якія, на думку знаўцаў, «чуйна рэагавалі на працэсы, што адбываліся на эстрадзе». Чаго толькі не заносіла на нашу музычную ніву мода-ветрагонка. Не жадаючы развітвацца з высокімі месцамі ў так званых «хіт-парадах», разнастайныя дамарослыя ВІА адгукаліся на ўсе яе капрызы, нават калі гэта патрабавала адмаўлення ад сваіх творчых прынцыпаў. Увайшлі ў моду балады, і эстрада застракацела барадатымі менестрэлямі, якія запаланілі эфір сентыментальнымі гісторыямі аб каханні, што «прыйшло, нікога не знайшло і пайшло...» З'явіўся «ф'южн» — і ўчарашнія барды з энтузіязмам ударылі па струнах электрагітар і клавішных сінтэзатараў, капіруючы «баевікоў» з «Лед зэпелін». Потым быў проста рок, потым хард-рок, потым зноў успомнілі пра балады...

Здавалася б, на тое і эстрада, каб адлюстроўваць шырокі спектр музычных плыняў і напрамкаў. І ўсё ж, не магу не адзначыць непераборлівасць нават лепшых з нашых ВІА. «Апетыт» да новага, незвычайнага прымушаў іх кідацца з адной крайнасці ў другую, выпускаць дыскі, якія поўнасцю перакрэслівалі тое, што рабілася раней. «Усёеднасць» куміраў выклікала спачатку радаснае здзіўленне прыхільнікаў, услед за якім рана ці позна прыходзіла расчараванне. Вось і задаеш сабе пытанне: ці не таму нават таленавітыя музыканты становяцца «каліфамі на гадзіну», што замест упартага пошуку ўласных шляхоў у мастацтве спакушаюцца эпігонствам, слепа давяраючы зменлівай модзе? Дзе яны цяпер — эстрадныя матылькі, што стрымгалоў кінуліся на зыркае полымя славы? Можна спачуваць «Спяваючым гітарам», якія шмат абяцалі першымі сваімі работамі і неяк неўпрыкмет «сцішыліся» ў далейшым. Можна шкадаваць, што не спраўдзілі і паловы авансаў музычнай крытыкі некалі звышпапулярныя «Блакітныя гітары». Асобная гаворка — аб «Вясёлых рабятах». Вывеўшы на эстрадную арбіту такую неардынарную сцэнічную асобу як Ала Пугачова, яны не знайшлі сябе менавіта таму, што ў іх кіраўніка П. Слабодкіна не хапіла ў свой час смеласці спыніцца, азірнуцца, асэнсаваць няпростыя законы развіцця сучаснай эстраднай музыкі.

Прыгадваю ў сувязі з гэтым адно даўняе інтэрв'ю. «Вясёлыя рабяты» былі тады ў зеніце славы, і Слабодкін не без спагады гаварыў журналістам пра тое, што нядоўга будзе ззяць на музычным небасхіле зорка «Песняроў», што вінаваціць у гэтым ім няма каго, таму што самі артысты адмаўляюцца рабіць тое, што даспадобы асноўным «спажыўцам» папулярнай музыкі — падлеткам. Гэтае інтэрв'ю прыйшло мне на памяць летась у Маскве, на Плошчы мітынгаў, дзе сабралася некалькі тысяч удзельнікаў XII Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў. Яны выступалі ў адным канцэрце — «Вясёлыя рабяты» і «Песняры». Ветлівымі апладысментамі аддзякавала публіка першых і громам авацый сустрэла песні «Песняроў». Усё, як кажуць, стала на сваё месца. Сам час рассудзіў Уладзіміра Мулявіна і ягоных крытыкаў. Там, дзе яны бачылі ці вельмі хацелі ўбачыць «прамалінейнасць», на самай справе была вернасць аднойчы і назаўсёды абранаму шляху — вернасць традыцыі, народнаму меласу, глыбокая павага і сыноўняя любоў да тых вытокаў, што даюць жыццё любому сапраўднаму мастацтву. Жывая гісторыя «Песняроў» — У. Мулявін, У. Місевіч, А. Дзямешка, А. Кашапараў. Ветэраны ансамбля, стваральнікі яго, яны многае могуць успомніць і расказаць...

Так, «Песняры» засталіся вернымі сабе, не паддаліся на спакусы. Нялёгка аднак даюцца ім поспех, слава, усеагульнае прызнанне. Сумуючы ў далёкіх гастролях па дому, яны, варта ім апынуцца ў Мінску, адразу ж пачынаюць рыхтаваць чамаданы да новых дарог. Мы бачым іх на залітых святлом эстрадах, на каляровых экранах тэлевізараў, і міжволі, недзе ў падсвядомасці, узнікае прывідны вобраз гэткага бязвоблачнага, бесклапотнага існавання любімцаў фартуны. Афрыка, Амерыка, Еўропа... «Жывуць жа людзі!» — не раз даводзілася чуць мне зайздросныя «охі» хуткіх на ацэнку і выснову людзей. «Песняры» сапраўды пабывалі амаль што ва ўсіх кутках свету. Аднак нават свайму нядобразычліўцу не пажадаю паспытаць той жоўтай ну[illegible] гасцініц, дзе прайшла значная частка жыцця артыстаў. Не кожнаму, нават таленавітаму музыканту, па плячы знясільваючыя марафоны іх рэпетыцый і канцэртаў, калі нельга дый няма каму паскардзіцца на стому, выказаць нежаданне выходзіць на эстраду, спяваць вясёлыя песні, на якія няма ўжо ні настрою, ні сіл. Але ж гастролі працягваюцца, публіка чакае — значыць, трэба ісці на сцэну і працаваць.

З болем у сэрцы ўспамінаю залітую пяшчотным вячэрнім сонцам эстраду ялцінскага летняга тэатра, усхваляваную ўдзячную залу, якая пасля кожнага нумара праграмы выклікала «Песняроў» на біс. Яшчэ і яшчэ раз выходзіў да публікі Уладзімір Мулявін, спяваў, ведаючы, што літаральна за якую-небудзь гадзіну да канцэрта ў гэтым жа горадзе невядомымі злачынцамі быў забіты яго родны брат Валерый... «Канцэрт адбудзецца ў любое надвор'е» — не проста фраза. Калі глядач заўважае слёзы на вачах артыста, а артыст бачыць перад сабой расчуленага гледача, абодва яны павінны быць упэўнены, што не адно толькі пачуццё ўдзячнасці перапаўняе сэрца — абуджаецца сама душа, лунаючы ў тых





□ Нараджаецца новая песня...

□ Фрагмент праграмы «Праз усю вайну».

□ Сустрэўшы іх на вуліцы, вы адразу пазнаеце: ідуць «Песняры». І ўсё ж нагадаем іх імёны. Злева направа — Аляксандр Растопчын, Алег Мартакоў, Ігар Пеня, Уладзімір Мулявін, Уладзіслаў Місевіч, Валерый Дайнека.

**Фота Юрыя ІВАНОВА і Генадзя СЛЕСАРОНКА.**

...ысях, дзе няма месца шалёнай злосці, нецярпімасці і чалавечай бядзе. Дзеля гэтага варта жыць і працаваць «у любое надвор'е»...

Заўжды бывае трывожна, калі пасля трыумфальнага поспеху чарговай канцэртнай праграмы трэба брацца за стварэнне праграмы новай, садзіцца за чыстую партытуру. Тры гады назад разам з заслужаным артыстам рэспублікі Уладзіславам Місевічам мне давялося пабываць у курортным пасёлку Нарач. Зайшлі ў кнігарню, дзе на вочы трапіў зборнік вершаў Валянціна Тараса «Две тетради, два сшыткі». Узялі ў рукі, каб проста пагартаць, і не зрушылі з месца, пакуль не дачыталі кнігу да апошняга радка. Місевіча вершы проста зачаравалі, і ён адразу ж памчаўся ў Мінск, каб паказаць іх Мулявіну, які ў той час якраз рыхтаваўся да новай праграмы, прысвечанай 40-годдзю Перамогі, і падбіраў тэксты будучых песень. Вершы ветэрана вайны, былога партызана, а цяпер вядомага паэта Валянціна Тараса, вершы, якія сталі часткай яго жыцця, узрушылі Мулявіна сваёй шматмернасцю, спалучэннем высокага трагізму і светлага аптымізма. Неўзабаве яны сустрэліся ў маім рэдакцыйным пакоі — паэт і кампазітар. Вынікам гэтай сустрэчы стала шырокавядомая сёння праграма «Праз усю вайну».

Памятаю, пад час яе прэм'еры, пасля таго як прагучалі апошнія словы песні пра хатынскага хлопчыка Мішу Камінскага, пранізлівую цішыню канцэртнай залы скалануў стогн. Успыхнулі люстры. Недалёка ад сцэны, абхапіўшы галаву рукамі, галасіла па-вясковаму апранутая старая. Галасіла так, што адразу ж сцішыліся апладысменты, якімі публіка хацела аддзякаваць артыстаў. Маладая прыгожая жанчына, мабыць, дачка старой, скрозь слёзы тлумачыла: «Яна з Лагойскага раёна... З вогненнай вёскі...» Гэткія ж эмоцыі выклікала ў людзей песня і ў далёкай Індыі, куды ансамбль выязджаў на гастролі. Слухаючы яе ў гарачым Бамбеі, гледачы таксама плакалі і не сароміліся сваіх слёз. Песня не патрабавала перакладу, яе разумелі сэрцам.

Праграма «Праз усю вайну» па праву набыла вядомасць як адна з самых сур'ёзных і змястоўных эстрадных праграм апошняга дзесяцігоддзя. Але надышоў час брацца за новую працу... Аднойчы пасля канцэрта, калі дзверы філармоніі зачыніліся за апошнім гледачом, а рабочыя сцэны ўжо рыхтаваліся прыбіраць апаратуру, Мулявін, які да гэтага, схіліўшыся над гітарай, сядзеў на суфлёрскай будцы, раптам рашуча ўстаў, узяў некалькі акордаў і задуменна, быццам самому сабе, але так, што пачулі ўсе, хто знаходзіўся побач, сказаў: «Ёсць у Маякоўскага дзіўныя радкі... «Лілічка»... Сказаў і нечакана змоўк. Размову на гэту тэму ў той вечар ён больш не заводзіў... Было гэта гады два ці тры назад, і я, прызнаюся, не надаў тады належнай увагі эпізоду, які, па сутнасці, стаў пачаткам доўгай і напружанай працы ўсяго калектыву. Прыгадаў той выпадак нядаўна, калі, сустрэўшыся з Мулявіным, пачуў ад яго: «Рыхтую праграму на вершы Маякоўскага. Назвы пакуль няма, але, хутчэй за ўсё, яна будзе такая: «Ва ўвесь голас».

Уяўляю, як здзівяцца паклоннікі ансамбля. «Песняры» і Маякоўскі?! Здавалася б, што агульнага? Зноў жа — многія спрабавалі, але нічога не атрымлівалася. Тым больш, на эстрадзе.

І ўсё ж, упэўнены, новая праграма, як і папярэднія, будзе мець поспех і стане значнай з'явай менавіта на эстрадзе. Перш за ўсё таму, што паэзія Маякоўскага вельмі сугучная нашаму часу з яго рашучым патрабаваннем карэннага пералому і паскарэння ва ўсіх сферах жыцця. Што тычыцца «Песняроў», то яны заўжды імкнуліся да публіцыстычнасці. Прыгадаем хаця б паэму Я. Еўтушэнкі «Ванька-ўстанька», якая дзякуючы ім атрымала сцэнічнае жыццё, ці вядомую антываенную кампазіцыю Ігара Лучанка, яго балады «Хатынь» і «Памяці Віктара Хары». Асабіста ў мяне няма ніякага сумнення ў тым, што зварот да вершаў і паэм Маякоўскага надасць публіцыстычнай палітры «Песняроў» яшчэ большую гармонію і выталчанасць. Плённым абяцае быць і выкарыстанне блізкіх ім па шчырасці і глыбіні выказвання лірычных матываў у творчасці знакамітага паэта.

Мяняецца не толькі рэпертуар, абнаўляецца і склад ансамбля. Нічым не быў азмрочаны выхад з саставу «Песняроў» па прычынах чыста творчага характару (што з'яўляецца справай звычайнай для выканаўцаў высокага ўзроўню) такіх таленавітых музыкантаў як Ігар Палівода, Уладзімір Ткачэнка, Барыс Бернштэйн... Гаворачы пра сённяшні дзень «Песняроў», нельга не прыгадаць створаную пры ансамблі студыю. Да гэтага часу такія творчыя майстэрні існавалі толькі пры тэатрах, і Мулявіну няпроста было пераканаць сваіх «апанентаў» у мэтазгоднасці разгортвання «класаў» пры гастрольна-эстрадным калектыве.

Студыя, перш за ўсё, патрэбна для папаўнення эстрады маладымі талентамі, бо сёння (даруйце мне за далёкае ад мастацтва слова) «безгаспадарчыя» да іх адносіны прывялі да таго, што ў рэспубліцы не засталося ніводнага калектыву сучаснай маладзёжнай музыкі. У «Песнярах», «Верасах» і «Сябрах» працуюць людзі ўжо дастаткова сталыя, а творчай змены ім пакуль што не відаць. Між тым у нашых гарадах, вялікіх і малых, ёсць нямала таленавітых музыкантаў, якія пры адпаведнай падрыхтоўцы могуць з поспехам выступаць на прафесійнай сцэне. Нікім не заўважаныя ў рэспубліцы, яны стараюцца звярнуць на сябе ўвагу розных ансамбляў за яе межамі. Што дасць студыя? Вучоба ў такога арыгінальнага кампазітара і выканаўцы, як Мулявін, дапаможа маладым талентам спазнаваць сакрэты эстраднага мастацтва дома, без дадатковых маральных выдаткаў, надасць імпульс іх творчасці. На карысць будзе такое супрацоўніцтва і самім «Песнярам», заўжды гатовым чуйна рэагаваць на ўсё цікавае, арыгінальнае з таго, што змогуць прапанаваць ім студыйцы. Тыя, хто прайшоў адбор у студыю і ўжо займаецца ў ёй, сваімі поспехамі даказваюць, наколькі своечасовым было яе стварэнне.

Такі ён, сённяшні дзень эстраднага ансамбля «Песняры». Рэпетыцыі, заняткі са студыйцамі, пераезды, сустрэчы і развітанні з домам, з публікай... Звычайнае жыццё артыстаў. Іншага яны сабе і не жадаюць.

З якой бы праграмай ні выступалі «Песняры», заўсёды ў іх рэпертуары знаходзіцца месца песні з такімі словамі: «Я ўсё той жа, я ўсё той жа, я такі ж, як быў...» Гэту песню яны выконваюць з асаблівым задавальненнем...

**Павел ЯКУБОВІЧ.**



Фота Віктара ДРАЧОВА.

напалеонаўскія гвардзейцы, адбылася «ўсяго толькі» адна катастрофа. А іменна: саўгас «Бродаўка» Барысаўскага раёна забрудзіў аміячнай вадой раку Сха (басейн Бярэзіны). У выніку на 18 кіламетраў уніз па рацэ загінула ўся жыўнасць.

Заканамернае пытанне: якія меры прыняты? Адказ:

— Размер страты кампенсаваны. 14.712 рублёў і 84 капейкі гаспадарка выплаціла добраахвотна.

Вінаватыя, мяркуем, і спяшаемся пакаяцца. Не тое што іхнія скупаватыя таварышы па няшчасцю з Гарадзейскага цукровага завода. Вось ужо, між іншым, адчайныя галовы. Тоны гразі ў рэчку Уша вылілі, а потым зрабілі выгляд, што ніякага дачынення да гэтай справы не маюць. У выніку ім усё ж давялося заплаціць 273 чырвонцы: Дзяржарбітраж сказаў сваё слова.

IV

Пасля вяртання з камандзіроўкі я прыйшоў у Белрыбвод да старшага дзяржінспектара аддзела санітарна-рыбагаспадарчага нагляду Анатоля Канстанцінавіча Ляпляніна і пацікавіўся:

— Як часта за прынесенае рэкам зло адказваюць канкрэтныя асобы?

— За апошні год мы спрабавалі прыцягнуць да адказнасці 600 службовых асоб,— гаворыць ён.— Накіравалі звыш 100 хадайніцтваў аб пазбаўленні людзей прэмій за поспехі ў сацспаборніцтве. Таму што працоўныя перамогі пры адкрытай пагардзе да аховы прыроды — піравы перамогі. І дзяржаве такія «ўдарнікі» не патрэбны.

— Вы сказалі «спрабавалі»...

— Правільна, спрабавалі. Паколькі нашы патрабаванні аб розных спагнаннях задаволены толькі на 90 працэнтаў.

— І то нядрэнна.

— Так, але іншыя кіраўнікі яшчэ знаходзяць пралазы, па якіх вінаватыя ўюном увільваюць ад пакарання. Ці яно змякчаецца да «грознага» вокрыку. Аднак усё радзей у іх гэта атрымліваецца. Час не той...

У гутарцы з А. К. Ляпляніным даведваюся, што:

— 8 з 10 залпавых забруджванняў вадаёмаў Беларусі цяпер «забяспечваюць» не гіганты індустрыі і магутныя хімічныя прадпрыемствы, а... саўгасы і калгасы. Прычым часцей за ўсё адстаючыя.

# АПАЛЕНЫЯ ХВАЛІ

I

Мы і напалохацца не паспелі, калі катэр крутнула і ён узляцеў у паветра. Усё працягвалася некалькі імгненняў. Маленькае судна плюхнулася на хвалі з ужо заглухлым рухавіком.

Нас, вядома ж, імгненна раскідала са зручных сядзенняў глісера. Непрыемна трапіць у такую сітуацыю на фарватэры. Ды яшчэ ў гадзіну ночы. Ды яшчэ пры тэмпературы вады плюс пяць градусаў.

Райдзяржінспектар Белрыбвода Мікалай Дзмітрыевіч Саўчук уплаў дагнаў напаўзатопленае судна. Ухапіўся за борт і пачаў лічыць:

— Другі, трэці, чацвёрты...

Гэта паказваліся над паверхняй Бярэзіны нашы збянтэжаныя твары.

Трэба сказаць, што аварыя на фарватэры адбылася наступным чынам. Пражэктар катэра ўдарыў у бераг і выхапіў з цемры дзве згорбленыя фігуры з сеткай. Браканьераў мы бачылі выразна.

Глісер змяніў курс і... на гранічнай хуткасці наляцеў на «вандроўнае» бервяно.

II

Раніца.

Снедаем і ўспамінаем, як усё ж затрымалі браканьераў, хто якія рэчы ўтапіў...

— Галоўнае — самі цэлыя,— гаворыць Саўчук і прапаноўвае паспяшацца да прыстані.

Запасной курткі ў мяне няма. Таму вельмі спадзяюся, што высахла «вымытая» ноччу.

Здымаю яе з вяроўкі для бялізны, камячу ў далоні рукавы, каўнер. Здаецца, парадак. Але тут жа настрой зусім псуецца: заўважаю нейкія чорныя і бліскучыя плямы.

Катэр — на бензіне. Да таго ж, бак не быў пашкоджаны. А тут — мазут. Адкуль?

Пытаюся ў энцыклапедыста рачных таямніц інспектара Уладзіміра Рыгоравіча Арэшкі. Ён паціскае плячамі: здзіўлены маёй някемлівасцю. Але адказвае:

— Вось мы праз бервяно ледзь не загінулі. А чыё бервяно? З «Бабруйскдрэва» яно. Упусціў яго нейкі разявака. Можна знайсці гэтага чалавека? Можна. Але вельмі цяжка. І ніхто не будзе гэтым займацца...

— Але пры чым тут мазут?

— Чый мазут у рэчцы, таксама можна выявіць. А вось даказаць — што дысертацыю абараніць. Калі, гэта вядома, не залпавае забруджванне.

— А што ўяўляюць сабой «залпавыя»? Чаму яны здараюцца?

— Растлумачыць гэта нават у некалькіх словах няцяжка. Але лепш сам пабывай на рэках, у інспекцыях Белрыбвода, у некаторых гаспадарках...

— Менавіта так і зраблю.

III

Ёсць такое вызначэнне: каштоўныя пароды рыб. А гэтыя жыхары нашых вадаёмаў страшэнна не любяць, калі праз іх шчэлепы пачынае перапампоўвацца атрутная каламуць. Яны або гінуць, або ў паніцы спяшаюцца далей ад родных затok.

Але ўступ зацягваецца. Пяройдзем да фактаў.

Бярэзіна. За цэлы год брыгады дзяржаўнага ўлову (з участка ракі па Магілёўскай вобласці) здабылі... 11 кілаграмаў язёў і 22 кілаграмы ліnёў. Гэта значыць некалькі рыб такіх каштоўных парод.

А вось і шырэйшая характарыстыка «блакітнай артэрыі» цэнтра рэспублікі: за апошнія пяць гадоў рыбапрадукцыйнасць вагалася тут ад 40 да... 160 кілаграмаў з гектара воднай гладзі. Сур'ёзная розніца?

Самы час цяпер успомніць Л. П. Сабанеева. Гэты класік літаратуры па спартыўнай лоўлі рыб расказваў без малога стагоддзе назад пра галаўлёў у 100 сантыметраў даўжынёй і вагою ў паўтара пуда. Пра язёў у рост рыбалова-дашкольніка. Пра далікатэснага і асцярожнага вусача-міrона. І пры гэтым дадаваў, што ў вярхоўях Дняпра такой рыбы шмат. Як і ў Бярэзіне.

Багацейшай была прырода? Багацейшай. Дарэчы, у некаторых краінах Заходняй Еўропы нават беднякі не лічылі фарэль ці шчупака за ласунак. Але з таго часу сотні вадаёмаў свету ператварыліся ў мёртвыя сцёкавыя каналы, а Беларусь, як і даўней, называецца блакітнавокай. Прычым справядліва называецца. Але ўсё ж не трывожыцца за чысціню рэк і азёр рэспублікі сёння нельга. Па шматлікіх прычынах.

Яшчэ раз назаву лічбы: 40 і 160. Значыць, у рыбніках вудзільшчыкаў то густа, то пуста. Адпаведна і рыба то гуляе і адчувае сябе выдатна, то імкліва знікае. А чаму знікае — мы ўжо ведаем.

За апошні год на рацэ, дзе бясслаўна гінулі

V

Вось, да прыкладу, сціплая рэчка Кернава. І свінаферма «Медрыкі» калгаса «Дружба народаў» Смаргонскага раёна.

Што прымусіла нас наведаць гэты ціхі куток на Гродзеншчыне?

Тут з чыстай Кернавы ледзь не зрабілі брудную канаву.

Аднак, заўважым, абсалютна без злога намеру. Па прычыне «вялікіх вытворчых цяжкасцей».

А «цяжкасці» тыя наспявалі з кожнай скормленай свінням калорыяй.

І вось сабраліся за канцылярскім сталом загадчык гаспадаркі Лідзія Іванаўна Чаховіч, галоўны заатэхнік Мікалай Пятровіч Гайдукевіч ды камандзір вытворчасці сярэдняга звяна Надзея Мікалаеўна Кірдзік. На сумных уздыхах і недагаворках была замешана гэта спакойная размова-нарада.

— Ведаеце, за паўкіламетра да фермы — пах. Нядобра. Нос пальцамі зацісну хочацца,— паведаміў заатэхнік.

— Вядомая справа. Гной атмасферу не азануе...

— Жыжказбіральнікі пяць месяцаў не ачышчаліся! Да краёў, прабачце, дабра гэтага самага поўныя.

— Рашэнне прыняць трэба.

— Чысціць трэба.

— Добра б...

— Добра б шэфаў ці студэнтаў выклікаць. Га?

— Ой, добра б!

Пагаварылі. Паразважалі. І разышліся.

Мінуў тыдзень. Лівень хлынуў на зямлю, а атрута з ёмістасцей — у Кернаву.

Роснай ранiцай выйшлі вудзільшчыкі к берагу і аж за галовы ўзяліся: усе жыхары рачныя самі ў рукі плывуць. Як адзін! Ад двухграмовага малька да сівога каварнага шчупака.

Аднак толькі аптымісты з рыбаловаў-аматараў адважыліся напоўніць рыбнікі.

Прынеслі «трафеі» дамоў. Выпатрашылі, знялі луску, пачалі смажыць.

Але панёсся ад патэльняў смурод.

Чым усё гэта закончылася? Народным судом.

У якасці адказчыкаў (дакладней — падсудных) людзі ўбачылі Л. І. Чаховіч, Н. М. Кірдзік, М. П. Гайдукевіча.

З іх спагнаны ўрон — 767 рублёў.

А мясцовыя жартаўнікі сталі раіць заезджым турыстам:

— Злавіў карася? Аднясі ў хімчыстку.

VI

Той, хто не любіць трайную юшку і вараных ракаў, можа адкласці часопіс. Таму што далей яму будзе нецікава: мы цяпер пачнём гаварыць толькі аб тых праблемах, якія вельмі хвалююць прыхільнікаў смачнай і багатай фосфарам кухні.

Пачнём з галоўнага: брыгады дзяржлову з планавымі заданнямі спраўляюцца.

Прычым у мінулым годзе дабіліся рэкордных уловаў і накіравалі работнікам прылаўка дадаткова 200 тон далікатэсаў.

Пацiснем моцныя рукі рыбакоў, а затым запытаем:

— Дзе купіць ляшча для пірага, шчупака для юшкі?

У фірменных (не гаворачы ўжо аб звычайных) рыбных магазінах — адны карпы ды карасі. І то рэдка. А хацелася б разнастайнасці.

— І нам таксама хацелася б! — хмураць бровы капітаны рачных маламерных рыбалавецкіх суднаў.— Але што ў нашых сетках — тое і ў гандлёвай сетцы. Пабывайце ў любым рыбгасе, і ўсё зразумееце самі.

Мы так і зрабілі.

У рыбгасе «Сокалава» (ён недалёка ад Брэста) давялося сутыкнуцца з даволі сумнымі статыстычнымі выкладкамі. Іх сутнасць: у рэках Рыта і Лясная да 95 працэнтаў — суцэльная плотка. І якая...

— Косці ды луска. Толькі свінням на корм. Што і вымушаны рабіць часам,— сказалі ва ўпраўленні.

Рыбапрадукцыйнасць гэтых вадаёмаў — 10 кг на кіламетр. Шчупакі і ляшчы амаль адсутнічаюць.

Цяпер пераносімся на Котру. Багатую ў мінулым раку. Але і тут:

— Усяго чатыры віды рыб. Пераважна плотка, карась.

Касякі каштоўных парод ударылі хвастамі-плаўнікамі і паплылі ў невядомым напрамку. Напэўна, моцна лаялі яны па дарозе Скідальскі цукровы камбінат.

— Не соладка, відаць, рыбе давялося?..

— Вядома, не соладка! Але яна сігнал «SOS» не падасць...

Што ж, наведаем цяпер вадасховішчы Чыгірынскае, Цяцерынскае і Асіповіцкае.

Вада ў іх даволі чыстая. Ва ўсякім разе такой думкі прытрымліваюцца спецыялісты. А ловіцца што?

— Карась. Паколькі ім і зарыблена.

— І буйныя ўловы?

— Пяць-сем кілаграмаў. З гектара.

VII

Рэкі Беларусі даўно абходжаны і абмераны. Іх агульная працягласць — 33 тысячы кіламетраў. І тройчы тры тысячы разоў маюць рацыю тыя, хто перакананы:

— Вадаёмы могуць і павінны стаць чысцейшымі. Бо за лета здараецца (паводле падлікаў сумнай статыстыкі апошняга дзесяцігоддзя) 12—15 залпавых забруджванняў. А гэта зусім не так мала, як можа здацца.

Слова якое — залпавыя! Нібы вораг жорсткі падкраўся, нацэліўся і скамандаваў:

— Плі!

Што ж, з шэрага буйных незвычайных здарэнняў на рэках ёсць і загадзя спланаваныя, спакойна ажыццёўленыя. Як ні дзіўна гэта гучыць, але — што праўда, то праўда. Есць такія.

Ды вось і свежы прыклад...

Для пачатку назаву дзеючых асоб і выканаўцаў. Рабочыя саўгаса «Тракельскі» Воранаўскага раёна Гродзенскай вобласці Яўген Іосіфавіч Гурскі, Іван Канстанцінавіч Кайлевіч, Рамуальд Андрэевіч Мацук і Іосіф Іванавіч Валюшкевіч. Чацвёра.

Сонечным майскім днём яны выйшлі за аколіцу. Прыселі на траўку.

— Суседзі,— сказаў Рамуальд.— Мы жывём на рацэ. А суп з фарэлі, катлеты з вусача, смажанага галаўня з зялёным гарошкам калі апошні раз паспыталі?

— Талковае пытанне,— сказалі трое.— Але ўжо не актуальнае. Сёння будзе рыбны дзень. Станем лавіць на трактар і маленькую цыстэрну. Усё прадумана.

Ці трэба ўдакладняць, што ў саўгасе якраз у гэты дзень аказаліся беспрытульнымі магутны «Т-150» і 200 літраў аміячнай вады?

Аміячная вада была прызначана для ўнясення ў глебу ў якасці мінеральных угнаенняў. А трактар... З трактарам, прызнацца, поўная няяснасць. Напэўна, ён павінен быў угнаенні транспартаваць.

Але саўгасныя нівы сваёй падкормкі не атрымалі. Таму што цяжкая машына адвозіла «рыбакоў» і вадкасць, якую з гэтага радка правільней называць гiганцкай атручанай пілюляй, да хуткаплыннай Жыжмы.

Рачныя піраты пакінулі пасля свайго налёту жудасныя сляды: апалены ўчастак берага, чатыры кіламетры каламутнай, у белай пене ракі.

Залп удаўся.

Хвалі аднеслі на водмелі паўсонных шчупакоў, акунёў, фарэль, язёў, галаўнёў, вусачоў і ляшчоў...

Плотку, печкуроў і карасёў «рыбакі» не бралі. Яны па іх хадзілі.

І была юшка. Валюшкевіч, Гурскі, Кайлевіч і Мацук яе «заварылі»...

Але акрамя юшкі і выплаты ўрону браканьеры атрымалі таксама па два гады папраўчых работ.

VIII

Можна, вядома, расказаць, як вялося следства, якую суму выплацілі злачынцы. Можна. Але давайце лепш паразважаем: на трактары «Т-150» да рэчкі Жыжмы ехалі не хімікі, не біёлагі, не іхтыёлагі і не ветэрынары. Але гэтыя людзі дакладна ведалі, што ад угнаенняў рыба дохне.

Адкуль ведалі?

— Ды хто ж пра гэта не чуў?!

Па-першае, немаўляты: яны яшчэ не ўмеюць слухаць. Па-другое, кіраўнікі некаторых гаспадарак: яны пра гэта і слухаць не хочуць. А хочуць верыць у адваротнае.

Паколькі першыя забруджваюць пераважна пялёнкі, то ўсю ўвагу сканцэнтруем на «свавольніках» пры пасадзе. Гэта значыць тых, якія маюць або прабел у ведах аб выніках тэхнагеннага ўздзеяння на рэкі, або (што хутчэй за ўсё) прывыклі глядзець на суседнія вадаёмы, як дрэнныя юннаты — на школьныя акварыумы:

— Трэба было б паклапаціцца, ды ўсё няма калі. І не хочацца.

У рэспубліцы сёння некалькі калгасаў і саўгасаў сістэматычна калечаць рэкі. Гэта:

— Саўгас «Раста» Чавускага раёна.

— Калгас «Беларусь» Любанскага раёна.

— Саўгас імя Леніна Ашмянскага раёна.

— Саўгас «Грудзінаўскі» Быхаўскага раёна.

— Племсаўгас імя Леніна Горацкага раёна.

У любы момант па пералічаных адрасах могуць адбыцца залпавыя забруджванні. І ніякія грашовыя кампенсацыі, вядома ж, не вернуць страчанага багацця.

IX

Мы нібыта забыліся на ракаў. А гэтыя ж вусатыя задзіры — выдатныя індыкатары мікрабіялагічнай годнасці вадаёма.

У брудных рэках іх проста няма.

Што ж, пабываем цяпер на рэках добрых.

Лань, Трэмля і Іпа — рэкі, багатыя на ракаў. Зразумела, і рыбы ў іх нямала. Рыбапрадукцыйнасць Лані дасягала ў апошнія гады 1500—1650 кілаграмаў з кіламетра рэчышча.

— Вось бы так ва ўсіх малых рэках! Ці магчыма гэта?

Запытаемся ў спецыялістаў з Беларускага навукова-вытворчага аб'яднання рыбнай гаспадаркі, з БелрыбНДІпраекта.

— А чаму б і не,— адказваюць яны.— І сёння ўжо многае робіцца для таго, каб дапамагчы вадаёмам стаць чысцейшымі і багацейшымі. Абнадзейвае вось што: у большасці малых рэк ёсць не толькі плотка і карась, але і шчупак, лешч, сазан, акунь, ёрш...

— ...і ўсё ж з 33 тысяч кіламетраў рэк сёння толькі 4,5 тысячы цікавяць прафесійных рыбакоў.

— Таму што за апошнія 15—20 гадоў павысілася колькасць матарызаваных браканьераў, здараліся дзесяткі выпадкаў парушэнняў агратэхнікі апрацоўкі палёў, сям-там уворванне вялося аж да прыбярэжнага ўскрайку, а лясы былі «адсунуты».

X

Зручная фраза: «ужо многае робіцца». Але мы адмовімся ад такой зручнасці і паглядзім: а што ж канкрэтна?

Пачалі пераносіцца далей (мінімум 500 метраў) ад берагоў фермы і склады аміячнай вады. Тыя самыя, што павырасталі ў канцы шасцідзесятых — пачатку сямідзесятых.

Аб'яўлены водаахоўныя і санітарныя зоны, больш строга сталі патрабаваць з браканьераў, з усіх вінаватых у залпавых забруджваннях.

Але гэтага яшчэ недастаткова!

Вучоныя прапануюць больш энергічна аднаўляць масівы зялёных насаджэнняў, рэканструяваць дзесяткі перадаварыйных ачышчальных збудаванняў, ствараць на малых рэках вадасховішчы з мэтай вырошчвання ў іх таварнай рыбы.

Рэкі — водапрыёмнікі меліярацыйных сістэм. А сярод гэтых самых сістэм сустракаюцца далёка не бяспечныя для «блакітных артэрый». Яны, праўда, не прыводзяць да залпавых забруджванняў. Затое яны, як жукі-караеды дрэва, марудна падточваюць здароўе вадаёмаў.

Партыя лічыць неабходным узмацняць кантроль за прыродакарыстаннем, шырэй разгарнуць экалагічнае выхаванне насельніцтва. Аб гэтым гаварылася на XXVII з'ездзе КПСС, аб гэтым гаворыцца і ў новай рэдакцыі партыйнай Праграмы.

Але якое ж экалагічнае выхаванне атрымліваюць людзі ў саўгасах, калгасах, на прадпрыемствах, якія забруджваюць вадаёмы пастаянна? І якія ўрокі даюць падначаленым тыя кіраўнікі, якія фактычна садзейнічаюць забруджванню рэк, азёр, ручаёў?

Два гады вёўся разбор прычын катастрофы на аршанскім станкабудаўнічым заводзе «Чырвоны барацьбіт». Амаль сем тон мазуту было там выліта ў прыгожую Оршыцу.

Недагледзеў за перапампоўваннем нафтапрадуктаў машыніст заводскай кацельні В. І. Сіманкін.

— Забыўся закрыць вентыль... Судзіце.

Яго, вядома, асудзілі. Але давайце сёння гаварыць не аб вынесеным прыгаворы, а аб самых глыбінных прычынах «надзвычайнага здарэння». Аб канкрэтным уроку экалагічнага выхавання.

Не, зусім не паказальным ён атрымаўся. Таму што (калі «грымнуў гром» і прыбылі на «Чырвоны барацьбіт» кампетэнтныя камісіі), высветлілася:

а) улік расходаў мазуту на прадпрыемстве не вёўся. Яго выявілі тут у 3 разы (!) больш, чым зафіксавана ў адпаведнай дакументацыі;

б) следства прыняло да ведама наступны факт: зусім не вінаваты В. І. Сіманкін у тым, што ёмістасці для захоўвання нафтапрадуктаў не мелі прыстасаванняў для кантролю ўзроўню мазуту;

в) шмат разоў работнікі Белрыбвода напаміналі адміністрацыі завода аб неабходнасці збудаваць суцэльны вал вакол цыстэрнаў. Пабудавалі б такі абаронны вал своечасова — ніводнай кроплі вадкага паліва не трапіла б у Оршыцу.

За свае злачынствы машыніст кацельні пакараны.

А адміністрацыя прадпрыемства? Яна зрабіла «неабходныя вывады». Запозненыя вывады.

І тым больш (перш чым паставіць кропку) прыемна пацвердзіць: усё часцей з розных абласцей і раёнаў Беларусі прыходзяць паведамленні аб здачы ў эксплуатацыю магутных комплексаў біялагічнай ачысткі водаў і аб эфектыўных мерапрыемствах па папярэджанню забруджвання вадаёмаў.

Будуць, абавязкова павінны быць нашы рэкі здаровымі, багатымі.

**Валерый ЛАПІН.**

# МАР'ІНА ПРАСЕЛКА

У адным са старадаўніх гарадоў Беларусі — Віцебску — вось ужо каторы год ідуць археалагічныя раскопкі. Пад вулічным брукам, пад жылымі і гаспадарчымі пабудовамі выяўлены больш як 3 тысячы розных знаходак: прылады працы і зброя, упрыгожванні і рэчы хатняга ўжытку. Сярод гэтых знаходак ёсць унікальныя. Напрыклад, праслiца з надпісам.

Што такое праслiца? Гэта грузік, які надзяваўся на верацяно, каб павялічыць інерцыю яго вярчальнага руху. Праслiцы паявіліся яшчэ ў познім неаліце, трэцім тысячагоддзі да нашай эры, разам з прадзівам і ткацтвам. Яны выраблялiся з гліны і мелі біканічную, цыліндрычную, грушападобную або іншую форму. У часы Кіеўскай Русі праслiцы выраблялiся са сланцу (шыферу), радовішчы якога меліся на Валыні, каля мястэчка Оўруч. Адсюль яны і атрымалі назву шыферныя або оўруцкія праслiцы.



Верацяно з праселкам.

Оўруцкія праслiцы сустракаюцца амаль па ўсёй Усходняй Еўропе і ў некаторых краінах Заходняй Еўропы, куды яны траплялі ў старажытныя часы гандлёвым шляхам. Вядомы яны і на Беларусі. Пры раскопках у Полацку, Мінску, Тураве, Бярэсці, Гродне іх знойдзена некалькі соцень. На цэнтральнай Беларусі праслiцы называюцца «кружалы», на Віцебшчыне і Магілёўшчыне — «каталачкі». Некаторыя з шыферных праслiц маюць надпісы, напрыклад: «Княжынь», «Бабино прaслен», «Настасино праслън». Усяго на Беларусі вядома 7 праселкаў з надпісамі або пазначаных літарамі.

У Віцебску ў час даследаванняў выяўлена некалькі дзесяткаў шыферных праслiц бочкападобнай або дыскападобнай формы. Па колеру сустракаюцца ружовыя, фіялетавыя, чырвоныя, зрэдку шэрыя праслiцы. Адна з іх мела надпіс — «МАРНNО». Памеры гэтага праселка 23,8 мм ×9,4 мм, дыяметр адтуліны 7 мм, вага 7,7 грама. Мяркуючы па напісанні літар, праселка магло быць падпісана на мяжы XIII—XIV стагоддзяў, калі літара «Н» чыталася як сучасная «І», а літара «N» — як наша Н. Апостраф на той час яшчэ не ўжываўся. Таму надпіс на праселку можна прачытаць як «МАР'ІНО».

Навошта спатрэбілася падпісваць праслiцы? Яшчэ за памяццю нашых бабуль зімовымі вечарамі жанчыны і дзяўчаты збіраліся на вячоркі працi кудзелю. Каб не пераблытаць свае прылады працы, яны іх падпісвалі або мецілі літарамі ці крыжыкамі. Менавіта з такой нагоды і было падпісана віцебскае праселка.

Знаходка «Мар'інага праселка» наводзіць на думку, што ў Віцебску, як і ў іншых гарадах Беларусі, дзе знойдзены праслiцы з надпісамі, пісьменнасць сярод простых гараджан не была выключэннем.

**Леанід КАЛЯДЗІНСКІ,**
**супрацоўнік аддзела археалогіі Інстытута гісторыі АН БССР.**

БУДЗЬЦЕ ЗДАРОВЫ!

# УРОК НА ПРЫРОДЗЕ



Даўно заўважана, што жанчыны вельмі любяць кветкі. Каб заваяваць прыхільнасць жанчыны, падарыце ёй у час прагулкі букецік сціплых палявых красак, і вы заўважыце, як твар яе адразу парумянее, вочы стануць мякчэйшыя, а голас — больш ласкавым. Яна будзе падоўгу разглядаць кожную кветачку, дзівіцца іх непаўторным харастве, удыхаць змешаны водар мёду, лугавых траў і сонца...

Ваш аўтарытэт яшчэ больш вырасце, калі вы возьмеце з букета адну з красак і, нібыта між іншым, заўважыце, што яна не толькі прыгожая, але і надзвычай карысная. Вось хоць бы гэту — з пяшчотнымі ружова-фіялетавымі кветкамі, сабранымі ў кутасік на вяршыні высокай і стройнай сцяблінкі, пакрытай мяккім пушком.

— Гэта медуніца,— нюхаючы кветку і закрываючы вочы ад задавальнення, скажаце вы.— У народзе яе называюць па-рознаму: і лёгачніца, і мядунчык, і мядзведжая трава. А навуковая яе назва паходзіць ад лацінскага слова «pulmo» — лёгкае і «officinalis» — «аптэчная», «лекавая», што хутчэй за ўсё звязана з тым, што расліна прымяняецца пры лячэнні шэрага захворванняў лёгкіх. Расце яна на ўзлессі, на палянах, у змешаных і бярозавых лясах, на лузе і на ўскраінах дарог. Цвіце ў красавіку — маі. У лячэбных мэтах выкарыстоўваюць надземную частку расліны, якую збіраюць як да распускання кветак, так і ў перыяд цвіцення.

— Чым жа яна такая адметная, гэта медуніца? — пацікавіцца ваша спадарожніца.

— А тым,— адкажаце вы,— што ў гэтай расліне знойдзены такія мікраэлементы, як калій, кальцый, жалеза, вокіс крэмнію, слізі, дубільныя рэчывы, караціны, аскарбінавая кіслата, руцін... А галоўнае, у медуніцы выяўлены высокі працэнт утрымання марганцу, які стымулюе рост, актывізуе вітамін В, размнажэнне, кроваўтварэнне, імунітэт, абмен рэчываў, узмацняе гіпаглікемічны эфект інсуліну і зніжае ўтрыманне цукру, што дае падставы прымяняць яе пры шматлікіх захворваннях. Эксперыментальна ўстаноўлена, што марганец уплывае на ўзровень гемаглабіну ў крыві, на засваенне медзі ў арганізме. Вось чаму прэпараты медуніцы ў выглядзе адвараў і чаяў прымяняюцца ў зборах з іншымі лекавымі раслінамі пры хранічных бранхітах, бранхіяльнай астме, хранічных гастрытах, язвавай хваробе страўніка і дванаццаціперснай кішкі, хранічным панкрэатыце, хранічным танзіліце, рэўматызме і іншых захворваннях.

У арганізме чалавека марганцу намнога менш, чым іншых элементаў, і папаўненне яго ідзе за кошт ужывання ў ежу сушаных грыбоў, чорнага хлеба, рысу, макаронных вырабаў, зялёнага лісця гародніны. Пры некаторых захворваннях патрэбнасць у марганцы ўзрастае (анеміі, частых прастудных захворваннях, зніжаным імунітэце і г. д.). Такім хворым рэкамендуецца ўжываць у выглядзе салаты маладыя лісточкі медуніцы.

Гатаваць такую салату вельмі проста: бяруць лісточкі медуніцы, крапівы і адуванчыка, мыюць пад струменем вады і крышаць нажом. Дадаюць цыбулю, соль, паліваюць алеем і ўсё перамешваюць. Салата гатова.

— Ніколі не думала, што вы так многа ведаеце! — з захапленнем у голасе скажа жанчына.— Можа вы падкажаце, як пазбавіцца ад кашлю?

— Пры кашлі, хрыпатым голасе, хранічных бранхітах, бранхіяльнай астме можна выкарыстоўваць збор з наступных лекавых траў:

**1. Шалфей лекавы, трава — 20 г**
**2. Медуніца лекавая, трава — 15 г**
**3. Календула лекавая, кветкі — 20 г**
**4. Кроп агародны, насенне — 10 г**
**5. Шыпшына карычная, плады тоўчаныя — 50 г**
**6. Мальва занядбаная, трава — 20 г**

Дзве сталовыя лыжкі гэтага збору (5—6 г) настояць на 500 мл вару на працягу 30 хвілін. Потым працадзіць, дадаць мёд або цукар па густу. Выпіць на працягу дня ў гарачым стане. На вуліцу ў гэты дзень лепш не выходзіць.

— Галоўнае ж, што я хацеў вам параіць,— скажаце вы ў заканчэнне сваёй невялічкай лекцыі,— гэта завесці ў сваім гародчыку такую каштоўную і прыгожую расліну, як медуніца, якая, на жаль, у дзікім стане сустракаецца ўсё радзей. Многія жанчыны ў Англіі (нездарма ж менавіта жанчыны былі першымі фітатэрапеўтамі — лекаркамі травамі!) вырошчваюць гэтае смачнае і вітамінае зяленіва ў агародзе і выкарыстоўваюць для прыгатавання салатаў, супоў і бацвіння.

**Яўген ШМЯРКО,**
**урач-фітатэрапеўт.**

# МОСТ ЗБЛІЖАЕ ЛЮДЗЕЙ

У дванаццатым нумары нашага часопіса за 1985 год пад загалоўкам «Мост... аддаляе людзей» было надрукавана пісьмо чытачкі з Мінска Л. Цімафеевай, у якім расказвалася аб нязручнасцях для пасажыраў на Віцебскім вакзале, змяшчаліся крытычныя заўвагі ў адрас Віцебскага чыгуначнага вузла і Упраўлення Беларускай чыгункі.

Як нам паведаміў намеснік начальніка Беларускай ордэна Леніна чыгункі Г. С. Яцэнка, «...пісьмо чытачкі разгледжана. З мэтай забеспячэння нармальнага праходу пасажыраў да паяздоў у наступным годзе пачнецца будаўніцтва новага пераходнага моста, які звяжа будынак вакзала з усімі платформамі.

Акрамя таго, створаны пасадачныя групы з ліку супрацоўнікаў вакзала і міліцыі, якія рэгулююць і арганізоўваюць праход пасажыраў на пасадку і выхад у горад. Па гучнагаварыцелях пасажырам нагадваюць аб неабходнасці своечасова выходзіць на платформы і аб парадку праходу ў вакзал».

ПА СЛЯДАХ НАШЫХ ВЫСТУПЛЕННЯЎ

## ПЕСНЯ ПА ЗАЯЎЦЫ



*Музыка для всех*

**Слова В. НЕКЛЯЕВА.**
**Музыка В. РАИНЧИКА.**

И опять играет музыка,
Для нас она звучит,
Веселится с нами музыка,
С нами музыка молчит.
Снова мир наполнен радостью,
Но в паузах слышна
Грусти тихая мелодия
И печали тишина.

**Припев:**

Все же, все же, все же, все-таки
Не стоит в жизни унывать.
Вместе будем слушать музыку
И вместе будем танцевать.
И не надо нам придумывать
Для этой музыки слова.
Ведь сколько бы слов
Ни выдумать вновь,
Они — про любовь!

Пусть над нами, словно ласточка,
Удача промелькнет,
И кому-то счастье встретится,
А кого-то обойдет.
Отзовется на печаль она,
Откликнется на смех
Эта светлая мелодия,
Эта музыка для всех!

**Припев.**



**ТВОРЧАСЦЬ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ**

Рыбакі.
Фота
Якава **МЯЦЕЛІЦЫ.**
г. Мінск.

# З БАБУЛІНАГА КУФЭРКА

Тэмп і рытм сённяшняга жыцця нарадзілі адпаведныя формы адзення. Але як жа часам не хапае сучаснаму касцюму цеплыні і непасрэднасці старажытных строяў. Якім хараством, якой гармоніяй вылучаецца гэты цудоўны твор беларускага народа! Яго выразны сілуэт і сакавітыя колеры радуюць вока, вытанчаныя арнаменты вышыўкі і пяшчотныя карункі настолькі зачароўваюць, што забываешся на тое, што ўсё гэта хараство ўзнікла ў выніку карпатлівай шматдзённай працы невядомых майстроў. Кожны шывок, кожны вузельчык на касцюме зроблены іх працавітымі рукамі адмыслова, з веданнем сакрэтаў рамяства і мастацтва. На жаль, традыцыйны касцюм цяпер часцей можна ўбачыць у музейнай калекцыі, чым у жыцці, а разам з ім знікаюць з нашага жыцця не толькі прыгожыя вобразы, але і многія прыёмы стварэння цудоўных рэчаў.

А між тым і ў нашай рэчаіснасці знойдзецца месца старажытнаму рукадзеллю, а рэчы, створаныя сваімі рукамі — ці то вязаная хустка, ці то карункавы каўнерык, ці то паясок — і сёння з'яўляюцца надзвычай моднымі дэкаратыўнымі элементамі.

Розныя спосабы пляцення паясоў здаўна былі вядомы на Беларусі. Прыгожыя паяскі выплятаці з рознакаляровых нітак і ўжывалі іх як аздобу святочнага касцюма. І мы для святочнай ці паўсядзённай сукенкі можам сплесці паясок старажытным прыёмам.

Возьмем 5 нітак ці шнуроў даўжынёй па 2 м (напрыклад, 2 белыя і 3 чырвоныя), складзём іх удвая і звяжам канцы ў адзін вузел, каб атрымаліся 5 петляў. Вузел замацуем на цвіку, а петлі паадзяваем на ўказальны, сярэдні і безыменны пальцы правай рукі і ўказальны і сярэдні — левай. Безыменным пальцам левай рукі працягнем правую крайнюю пятлю скрозь дзве суседнія пятлі на правай руцэ і пакінем на гэтым пальцы. Петлі на правай руцэ перасунем «на адзін палец» управа, каб вызваліць безыменны палец, якім трэба працягнуць цяпер ужо крайнюю левую пятлю скрозь дзве суседнія на левай руцэ. Працягнутую пятлю пакінем на правым безыменным пальцы. Кожны раз пасля працягвання пятлі трэба развесці рукі ў бакі — зацягнуць пляценне тужэй. Увогуле, трэба сачыць, каб ніткі былі добра нацягнуты.

Чаму мы прапанавалі ўзяць ніткі двух колераў і не растлумачылі, у якім парадку іх пераплятаць? Таму што ў любым выпадку атрымліваецца просты, але прыгожы арнамент у «кропачку», у «каласок» ці іншы.

Паспрабуйце падчэпліваць крайнюю пятлю рознымі спосабамі (за правую ці за левую нітку), па-рознаму працягваць яе скрозь суседнія петлі (знізу ці зверху) — так можна атрымаць розныя перапляценні, круглыя ці плоскія паяскі.

Прыгожы паясок атрымаецца з тоўстых капронавых, бавоўняных, шарсцяных нітак. А каляровую пляцёнку можна скарыстаць не толькі ў якасці пояска (тады варта ўпрыгожыць яе кутасамі з тых жа нітак), але і як дэкаратыўную нашыўку, стужку для валасоў і, нават, як шыйнае ўпрыгожанне замест пацерак — чым не па сучаснай модзе?

**Алена ЛОСЬ-ЗАЛУЖНАЯ.**

**ЗРАБІЦЕ САМІ**






Малюнкі аўтара.

ЧЫТАЧ — ЧЫТАЧУ

# СЛУЖБА ЎЗАЕМАДАПАМОГІ

## «ВАШ БЕНЗІН, МАЕ ВЕДЫ»

Я на пенсіі. Заўзяты грыбнік. У наваколлі Гродна ўсе лясы ведаю, як свае пяць пальцаў. Але ўзрост бярэ сваё: доўга хадзіць з кошыкам не магу. А аўтамабіля і правоў на кіраванне ім — няма.

Хацеў бы ўвайсці ў кампанію аўтааматараў, з якімі б мог ездзіць па грыбы. Спадзяюся, што мае веды «таямніц» лесу дапамогуць нам нарыхтаваць на зіму вязанкі сушаных баравікоў (37).

## НУ, ШЧУПАК, ПАЧАКАЙ!

На рыбалцы мне, як заўжды, не шанцуе. Відаць, я дрэнны рыбалоў. Аднак гэтыя абставіны не перашкаджаюць мне калекцыяніраваць найбольш буйныя экземпляры прэснаводных рыб.

Калекцыя ўжо нядрэнная. Але няма ў ёй шчупака. Гэтую рыбу вагой 5—8 кілаграмаў я б ахвотна купіў ва ўдалага вудзільшчыка (36).

## НЯХАЙ СЯБРОЎСТВА ПАЧНЕЦЦА З ЧАСОПІСА!

Усе мае сяброўкі ўжо замужам. У іх цяпер свае клопаты і інтарэсы. Не, яны не адвярнуліся ад мяне, але бачымся ўсё радзей і радзей... Гэта натуральна. Вакол мяне — якісьці вакуум. Сябровак ужо няма, а сябра — яшчэ няма. І не было.

Скажу шчыра: мне б хацелася з дапамогай часопіса пасябраваць з маладым чалавекам. Мне ён уяўляецца такім: рост вышэй сярэдняга, бландзін, 25—30 гадоў, не злоўжывае спіртным, эрудзіраваны і цікавы субяседнік.

Я жыву ў Мінску. Мне 22 гады. Студэнтка-завочніца. Займаюся мастацкай гімнастыкай, люблю добрую музыку (35).

## «ЗГУБІЎ Я ДЗЯЎЧЫНУ...»

Але, я згубіў дзяўчыну. Здарылася гэта так.

Мы пазнаёміліся ў мінскай танцавальнай зале «Вільнюс». Наташу я праводзіў да аўтобуснага прыпынку. Яна сказала, што жыве па вуліцы Цікоцкага. Тэлефона няма.

Дамовіліся сустрэцца ў наступны вечар. Але мне спатрэбілася паехаць у тэрміновую камандзіроўку...

Так я згубіў дзяўчыну, якая мне вельмі спадабалася.

Магчыма, яна прачытае гэту аб'яву і адгукнецца? (33).

## ЛЕТА. АХ, ЛЕТА...

Найму дом на жнівень для летняга адпачынку ў вёсцы, дзе ёсць добрая бібліятэка, клуб і рэчка. Таму што любімы мой занятак у часы адпачынку — чытанне цікавых кніг на пляжы, купанне. А яшчэ люблю танцаваць.

Пажадана, каб вёска была непадалёку ад чыгункі ці аўтастрады. І абавязкова — не больш гадзіны язды ад Мінска (32).

**Дэбют «Узаемадапамогі» — у мінулым. Ужо тры месяцы дзейнічае пры рэдакцыі часопіса гэты аддзел. Ён для тых, каму патрэбна дапамога людзей. Падчас самая нечаканая.**

**Аб тым, што ўяўляе сабой «Узаемадапамога», падрабязна расказвалася ў папярэдніх нумарах «Беларусі».**

**Напамінаем, што:**

**1. Аб'явы публікуюцца бясплатна.**

**2. Публікуюцца не любыя аб'явы, а толькі тыя, якія могуць быць змешчаны пад новай рубрыкай новага аддзела рэдакцыі.**

**3. Замест подпісу аўтара і яго адраса — лічбавы код.**



## РЭПЕТЫТАР ДЛЯ СПЕЦЫЯЛІСТА

Так атрымалася, што па размеркаванню маладых спецыялістаў аднаго з маскоўскіх ВНУ я быў накіраваны на работу ў Гомель. Затым пераехаў у Мінск.

Яшчэ са школьных гадоў палюбіў герояў кніг многіх беларускіх пісьменнікаў. Цяпер вельмі хачу прачытаць гэтыя творы ў арыгінале, на беларускай мове.

А яе я ведаю дрэнна... Шукаю рэпетытара па беларускай мове (34).

## АДДАЮ АНТАРКТЫДУ

Я ад'язджаю ў доўгатэрміновую камандзіроўку. І перада мною ўзнікла пытанне: як быць з Антарктыдай?

Антарктыда — гэта мая любіміца. Сібірская кошка. Ёй два гады.

Яна некалькі распешчана ў ядзе, аднак вельмі разумная і акуратная.

Маю намер аддаць яе (зразумела назаўсёды) у рукі добрага чалавека, які любіць жывёл (31).

## АБІТУРЫЕНТКІ І СТУДЭНТЫ

Нас двое. Мы сяброўкі. У гэтым годзе скончылі сярэднюю школу. Спадзяёмся паступіць у інстытут.

На час уступных экзаменаў прыязджаем у Мінск. Хацелі б зняць пакой у кватэры, дзе жывуць студэнт ці студэнты любога тэхнічнага ВНУ, таму што спадзяёмся атрымаць ад іх сяброўскую дапамогу пры падрыхтоўцы (30).

## ДЗЕ ТЫ, НЯНЬКА!

Мы здымаем пакой у прыгарадзе Мінска. У нас ёсць дачка, якой вельмі патрэбна нянька, бо мы студэнты дзённай формы навучання.

Дачцэ 7 месяцаў. Аплата працы няньki — па дамоўленасці (28).

## СТАРАЯ ПЛАСЦІНКА

Песні Русланавай — юнацтва маіх бацькоў. Хутка ў іх «залатое» вяселле. Вельмі хачу падарыць ім некалькі пласцінак, якія напомняць маці і бацьку аб гадах маладосці, аб сучасніцы і цудоўнай спявачцы.

Магчыма, каму-небудзь такія пласцінкі не патрэбны? З задавальненнем іх набуду (27).

## «ШТО РАБІЦЬ?.. Я НЕ ЛЕВІТАН...»

Я, канечне, не Левітан і не Рэпін. Але маляваць умею і люблю. Увогуле «ўмею» — занадта моцна сказана. Часам не ў сілах падабраць нават добрыя фарбы, адгрунтаваць палатно...

Кожны месяц маю 3—4 вольныя дні. Мару на гэты час стаць «падмайстрам» без аплаты, за навучанне ў любога мінскага прафесійнага мастака (29).




Пад рэдакцыяй міжнароднага гросмайстра Віктара КУПРЭЙЧЫКА

# І ЖАРТАМ, І СУР'ЁЗНА

Сцвярджаюць, і не без падстаў, што шахматы — гэта і навука, і мастацтва, і спорт.

Усё так. Але шахматы гэта яшчэ і цікавыя прыгоды, і неверагодныя здарэнні.

Прыгадаем толькі дзве цікавыя гісторыі, пра якія можна сказаць: «Неверагодна, але ж — факт!..»

Востраў Святой Алены. Год 1816-ты...

Былы імператар Францыі Напалеон Банапарт, якога саслалі на востраў у ссылку, бавіць час і гуляе ў шахматы... сам з сабой. Камплект старажытных фігур яму даслалі блізкія сябры.

Міне шмат гадоў, і той камплект шахматных фігур, якімі гуляў Напалеон, пусцяць на аўкцыёне з малатка за фантастычную суму грошай. І неўзабаве новы гаспадар тых фігур з слановай косці зробіць адкрыццё, якое ўвойдзе ў гісторыю: шахматныя фігуры ўтойвалі дэталёвы план уцёкаў былога імператара з вострава Святой Алены!

Вось толькі сам Банапарт не ведаў пра тую таямніцу.

Лёс, як бачым, пажартаваў з ім...

Гэта даўняе здарэнне.

А вось гісторыя зусім свежая.

У 1977 годзе мінула паўстагоддзя з дня правядзення легендарнага сеанса адначасовай гульні добра вядомага нашым чытачам Астапа Бэндэра.

На вечары ў Цэнтральным шахматным клубе Масквы, прысвечаным юбілею «Дванаццаці крэслаў», прысутнічаў кумір сатырыкаў і гумарыстаў «Литературной газеты», аўтар рамана «Бурный поток», гросмайстар пяра Яўген Сазонаў. Вось што расказвае пра гэтую сустрэчу ў шахматным клубе майстар спорту, шахматны літаратар Яўген Гік:

— Айчынная літаратура не даравала б мне перамогі над кумірам, таму пра перамогу я і не думаў. Не разлічваў я і на нічыю. Ужо з першых хадоў я адчуў на сабе славуты сазонаўскі наступ, фанатычную ўпэўненасць і своеасаблівасць стылю. Падчас мне здавалася, што насупраць мяне сядзіць сам Роберт Фішэр у свае лепшыя гады. Я гуляў чорнымі, і на дошцы тварылася нешта неверагоднае, проста нейкая вірлівая плынь. Партыя набліжалася да апагея. Калі ж пісьменнік перасунуў сваімі музычнымі пальцамі чарговую фігуру, мой кароль нечакана ўпаў на падлогу. Я дастаў караля з-пад стала, зірнуў на шахматную дошку і ўбачыў фантастычную карціну:




— Так, так,— шахматная дошка была абсалютна пустая!

— Цяпер вы ўпэўніліся ў маёй сіле? — спытаў вядомы ферзялюб і пешкаед.

Я кіўнуў галавой у знак згоды, і мой сапернік Яўген Сазонаў пад апладысменты сваіх паклоннікаў пакінуў пакой шахматнага клуба. Што ні кажыце — нечаканы «ход» гросмайстра пяра?!







1. Адзін з трэнераў кіеўскага «Дынама». 2. Элемент тэхнікі ўдару па мячы. 3. Варатар бакінскага «Нефтчы». 4. Футбольны клуб Чэхаславакіі. 5. Ігрок маскоўскага «Тарпеда». 6. Футбольная каманда першай лігі. 7. Паўабаронца маскоўскага «Тарпеда». 8. Нападаючы мінскага «Дынама». 9. Знакаміты ў мінулым варатар-дынамавец. 10. Абаронца адэскага «Чарнаморца». 11. Адзін з мацнейшых галкіпераў краіны ў 30-я гады. 12. Футбольная каманда другой лігі. 13. Заключная, кубкавая сустрэча па футболу. 14. Старшы трэнер футбольнай зборнай Венгрыі. 15. Футбольная каманда, экс-чэмпіён краіны. 16. Нападаючы днепрапятроўскага «Дняпра». 17. Верхавая падача мяча. 18. Прыз у спартыўным спаборніцтве.

Склаў Васіль КАСЕНКА.

### АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ Ў № 7

**Па гарызанталі:** 5. Сякера. 6. Падзея. 9. «Спадчына». 10. Цішка. 12. Санет. 14. «Нуда». 15. Гіра. 17. Якім. 18. Твор. 19. «Рута». 21. Серп. 24. Гушча. 26. «Араты». 27. «Згнаннік». 28. «Каршун». 29. Спосаб.

**Па вертыкалі:** 1. Зяблік. 2. Арэса. 3. Тарас. 4. Гермес. 7. Баян. 8. Лыка. 11. Кніповіч. 13. Агітатар. 16. Амур. 17. «Явар». 20. «Курган». 21. «Сыны». 22. Пуня. 23. Старац. 25. Азгур. 26. Акопы.

# ГУМАР



Арлен КАШКУРЭВІЧ.

## НАРОДНЫЯ ЖАРТЫ

Аднойчы на нарадзе пайшчыкаў старшыня праўлення сельпо запытаўся ў аднаго з удзельнікаў:

— Як ваш прадавец?

— Нічога сабе...— адказаў той.

— А ваш? — звярнуўся ён да другога.

— Так сабе...

— А ваш? — спытаў трэцяга.

— Усё сабе...

□ □ □

— Дай, бабка, малака.

— Карова не доіцца.

— Тады налівай смятаны.

□ □ □

— Я вас, Сяргей Пятровіч, сёння бачыла ў сне: вы прайшлі каля мяне і не прывіталіся.

— Выбачайце, Мар'я Іванаўна, я, мабыць, вас не заўважыў.



Пімен ПАНЧАНКА.

Сяброўскія шаржы Канстанціна КУКСО.

## ФРАЗЫ

● Да таго часу перакульваў чаркі, пакуль сам не перакуліўся.

● Крэда браканьера: «Хто каго любіць, той таго і губіць».

● Ці варта псаваць усё жыццё дзеля аднаго мядовага месяца!

Яўген ГНІЛЯКОЎ.

● Дысертацыю ты абараняеш аднойчы, а яна цябе — усё жыццё.

● Барометр думаў, што ён робіць надвор'е.

● Нават калі ты сем разоў адмераў, няхай адрэжа іншы. На ўсякі выпадак.

Давід НАХАМКЕС.

## РЭКЛАМА

Добра эканомяць час будзільнікі Акінскага гадзіннікавага завода. Замест 24 гадзін у суткі ім патрэбна толькі 20.

Міхаіл КУЗЬМІН.

# НЕ АБКРАДЗІ СЯБЕ

(Заканчэнне. Пачатак на 24-й стар.)

— Ты здзівіўся, чаму сказала, нібы ты большы злодзей, абкрадваеш сябе былога, чулага і ўважнага. Табе даўно гэта трэба было сказаць, ды ўсё людзі маўчаць. Ты ашукаў людзей, усіх нас. Прытвараўся сардэчным і чулым, а як вылез з камсамольскага ўзросту, стаў начальнікам — усіх пазабываў. Ніхто табе цяпер непатрэбны. І ты — нікому.

Жанчына кароткім рашучым рухам рукі, нязвычным для яе пажылога ўзросту, папраўіла прыгожыя сівыя валасы.

— Дачку маю пакарай, я і сама пакараю. Гэта здуру яна. Болей не ўкрадзе. А тое, што я табе выказала, даўно трэ было выказаць.

Ён маўчаў, не глядзеў на яе. Думаў пра яе мужа. Харошы, працавіты чалавек, якому нішто не ўдавалася, паступова зазлаваў на ўсіх, і вось яго жонка з несправядлівасцю зайздросніка пляце абы-што.

Але яна, як угадваючы яго думкі, загаварыла таксама пра мужа:

— Пятрок абараняе цябе. Кіраўнік вялікага калектыву, да кожнага дайсці самому нельга.

І гэтыя яе ціхія словы ўшчэнт разбілі Барлюкова самаапраўданне.

— У цябе не просяць паблажак, не думай. Ты проста будзь чалавекам, каб не абыходзілі людзі, бо цяпер для многіх ты — пустое месца. Гэта не кіраўнік, якога людзі староняцца. Што казаць... Сам мо як пасля дапнешся. Не думай, што я так гавару, бо нечага хачу. Не патрэбна твая дапамога. Знайшліся людзі і без цябе. Я, ведаеш, чаму сказала? — Яна на хвіліну змоўкла, уважліва глянула на яго.— Па той самай прычыне, па якой астатнія твае сябры і знаёмцы памоўчваюць.

Яна нечакана абарвала фразу, махнула рукою. Гарачая прыкрасць, як вар, заліла, здаецца, усю істоту Барлюка. Усё праходзіць — каханне, нянавісць, захапленне — удзячнасць астаецца, як і павага да настаўніка і роднага кута. Ён забыў таго, хто дапамог зрабіць яму першы самастойны крок. Барлюк забыў не толькі сям'ю Пятра Бялько, забыў мудрую філасофію шчырага свайго настаўніка. Хто выракаецца сваіх, таго не прымуць і чужыя. Не абкрадзі сябе сам, не абкрадзі...

Ён апомніўся, устрапянуўся:

— Вы і нагаварылі, Вольга Мікалаеўна.

— Міканораўна,— папраўіла жанчына.

— Міканораўна,— сорам працінаў Барлюка, ён намагаўся схаваць гэта ад мудрай жанчыны пад маскай далікатнасці і ветлівасці.

Пераглянуліся, маўчалі. Кожны думаў пра сваё.

— Дзе цяпер Пятрок Аляксеевіч, дома? — Барлюк памкнуўся зрабіць крок да хаты.— Як вы там...

— Ведаеш, Віктар, ня йдзі,— спыніла яго жанчына.— Прасілі цябе зайсці, праўда, даўно, калі не забыўся, а сёння не трэба. Не прыбрана ў мяне для вялікага госця.

Заходзіла сонца. Вецер гайдаў голле дрэў.

— То я пайду,— уздыхнуў Барлюк. Жанчына рушыла за ім.— А вы даўно са Случчыны перабраліся?

— Ужэ даўно. Гадоў пяць, як у старэйшай дачкі нелады ў сям'і пачаліся. Сам ведаеш, як будавацца на новым месцы, сярод чужых.

На новым месцы мяняецца ўсё, часта не ў лепшы бок, дык ці варта з'язджаць з роднай вёскі ці гарадка, каб пасля шкадаваць, як сям'я Бялько?

— Дзе зараз Пятрок Аляксеевіч? Яго б я пазнаў адразу.

Напаўжартоўнае апраўданне дырэктара яна не прыняла, працягвала сур'ёзна:

— У Валатах, у сястры. Яна замужам за леснікам Іванам Качурам. Ты быў у іхняй вёсцы. У сярэдзіне мая прыедзе. Захварэў ён, мусіў з'ехаць у вёску, на чыстае паветра. Цяжка нам прыйшлося тады. Малодшая дачка вучыцца кінула, на работу пайшла. Мо таму і крок гэты нядобры зрабіла. Дзяўчыне ўборы патрэбны, а ў нас не хапае...

Яны гаварылі так, быццам між імі не было тых горкіх і балючых слоў, нібы жанчыне не было непрыемна чуць словы пра крадзеж дачкі, а яму пра сябе самога. Гады і жыццёвы вопыт навучылі іх стрыманасці.

— Я да вас зайду ў канцы месяца,— у голасе Барлюка чулася нерашучасць.

Вольга Бялько нічога не адказала, і ён, счакаўшы хвіліну, ціха прамовіў:

— Усяго добрага вам.

— Да пабачэння,— проста і гэтак жа ціха, але не сярдзіта, хутчэй з сумам адказала яна.

...Шафёра Барлюк неўзабаве адпусціў, паехаў сам.

Светла-шэрая «Волга» вырулíла за горад, Барлюк не думаў, куды едзе, не збаўляў хуткасці. Твар яго быў спакойны, рухі ўпэўненыя.

Толькі абсалютная бязмэтнасць язды выдавала вялікую ўсхваляванасць і разгубленасць дырэктара...



РАІМ ПРАЧЫТАЦЬ

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

Адкласці гэту кнігу «на потым» я не змагла. Некалькі гадзін запар чытала, спынялася на ілюстрацыях (багата фотаздымкаў), прыглядалася да кампазіцыйнай структуры і афармлення (форма кнігі ў суладдзі з яе зместам).

Аўтар, малады беларускі журналіст і кінакрытык Леанід Паўлючык, назваў сваю работу «Ад споведзі да эпасу. Лёс і фільмы Віктара Турава». Адметны ўжо той факт, што гэта манаграфія набыла шырокую чытацкую аўдыторыю: выдадзена яна ў Маскве Саюзам кінематографістаў СССР і Усесаюзным бюро прапаганды кінамастацтва. Адметна і тое, што творчасць аднаго з вядучых рэжысёраў «Беларусьфільма» ўпершыню прадстаўлена так шматгранна, у адпаведнасці з яго талентам і заслугамі перад кінамастацтвам.

Пра фільмы В. Турава спрачаліся і спрачаюцца як прафесійныя крытыкі, так і проста аматары кіно. Палемічнасць успрымання і ацэнак творчасці рэжысёра не абмінае аўтар кнігі — і гэта прываблівае, прынамсі, мяне як чытача. Прываблівае і спроба Л. Паўлючыка асэнсаваць лёс пакалення «падранкаў вайны», да якога належыць герой манаграфіі, асэнсаваць факты біяграфіі В. Турава, асабістыя назіранні — у сувязі з творчасцю, са знаходкамі і пралікамі канкрэтных кінастужак рэжысёра.

Кніга выдатна перадае саму атмасферу «ваенных» фільмаў В. Турава: «Праз могілкі», «Я родам з дзяцінства», дылогіі «Партызаны». Згадваеш кадры «Нядзельнай ночы» і «Пункту адліку». Аддаеш належнае эпічнаму размаху рэжысёра ў працы над экранізацыяй «Палескай хронікі» Івана Мележа.

Пра добра знаёмае ў творчасці рэжысёра, а таксама пра тое, на што мне як гледачу не даводзілася раней звяртаць увагу, Л. Паўлючык умее сказаць па-мастакоўску пераканаўча, цікава, дасціпна. Гэта першае і, бадай, галоўнае ўражанне ад кнігі. У той жа час нельга абмінуць і тыя стылістычныя празмернасці — у эпітэтах, параўнаннях,— якія дапускае аўтар. Да сваіх разважанняў ён нярэдка далучае выказванні самога Турава, імкнучыся надаць змястоўнасці дыялогу з чытачом. Аднак кожны раз, калі журналіст бярэцца «дапамагаць» свайму герою па-літаратурнаму прыгожа афарміць думку, гутарковы стыль В. Турава перастае адрозніваецца ад публіцыстычнага стылю Л. Паўлючыка...

Святлана БЕРАСЦЕНЬ.

# КАБ ПАУНЕЙ ПУЛЬС РЭСПУБЛІКІ ЧЫТАЙЦЕ „БЕЛАРУСЬ"

# АДЧУВАЦЬ ЖЫЦЦЯ ВЫПІСВАЙЦЕ ЧАСОПІС У 1987 ГОДЗЕ

Аўтографы

Часопіс пазнаёміць вас з новымі творамі майстроў сучаснай беларускай літаратуры—



Васіля Быкава,



Янкі Брыля,



Пімена Панчанкі,



Івана Шамякіна,



Дануты Бічэль-Загнетавай,



Анатоля Вярцінскага.

















Бестселер

ХАДА ПАДЗЕЙ

Зямля, адкуль мы родам

АКТУАЛЬНЫ ПОГЛЯД

„ЭКРАН"

ПУЛЬС НАВУКІ

Рэзананс

СПРАВЫ СЯМЕЙНЫЯ

МАЙСТРЫ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

ЧЫТАЧ — ЧЫТАЧУ

„Майстэрня"

У публіцыстычных артыкулах, якія будуць прадстаўляцца вашай увазе ў кожным нумары, вы знойдзеце адказы на актуальныя пытанні міжнароднай абстаноўкі, грамадска-палітычнага і культурнага жыцця рэспублікі. На старонках нашага часопіса будзе нямала цікавага для аматараў эстрады, тэатра і кіно, прыхільнікаў спорту і моды, для садаводаў і хатніх гаспадынь. Па шматлікіх прапановах чытачоў мы адкрылі новую рубрыку «Служба ўзаемадапамогі» і працягваем рубрыку «Стоп-кадр з аўтографам». Тых, хто любіць дасціпны жарт, валодае пачуццём гумару і ніколі не адмаўляецца ад знаёмства з новымі творамі беларускіх сатырыкаў, мы запрашаем на «Кірмаш». «Кірмаш» — гэта аддзел сатыры і гумару нашага часопіса, які пачаў дзейнічаць з гэтага года. Рэдакцыя звяртае ўвагу чытачоў, што падпіска на наш часопіс прымаецца з кожнага чарговага месяца ў агенцтвах і аддзяленнях «Саюздруку» і грамадскімі распаўсюджвальнікамі.

**НАГАДАЕМ:**
кошт падпіскі на год — 4 рублі 20 капеек.

Цана 35 кап.

«Беларусь», 1986, № 8, 1—36. Індэкс 74820